


Літаратура і мастацтва
газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

29 ВЕРАСНЯ 2000г. № 39/4071 КОШТ 100 РУБ.

## АД ТУТЭЙШАСЦІ ДА НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ

***Сяргей ДРОЗД:***
***“Неадкладная мэта ў наступным стагоддзі — ісці да Купалы за парадамі не як да бронзавага, не як да археалагічнага аб’екта, а як да жывога, дзейснага архітэктара нашай дзяржаўнасці, стратэга, генія нацыянальнай мовы і духа”.***

**5**

## ТРЭБА ЖЫЦЬ!

***Іван ШТЭЙНЕР:***
***“Нешта падобнае адбылося ў айчыннай літаратуры і з асэнсаваннем чарнобыльскай трагедыі, якая, як і папярэдняя ваенная, падзяліла беларускі час на “да” і “пасля””.***

**6—7**

## АКІЯН

***Вершы Алеся ЧОБАТА***

**8**

## ЧОРНЫ ЧАЛАВЕК

***Сяргей ЯСЕНІН***
***у перакладзе Максіма ЛУЖАНІНА***

**12**

## ПАКЛІКАНЫЯ ГОСПАДАМ

***Галіна ТЫЧКА:***
***“Ніхто не ведае шляхоў Божых і не здагадваецца аб сваім прадвызначэнні. Ці мог меркаваць віленскі біскуп Юры Матулевіч, прымаючы ў сябе ў 1919 годзе маладога і энергічнага святара а. Андрэя Цікотку, дзеля таго каб заснаваць у мястэчку Друя каталіцкі марыянскі кляштар, што час і дзень гэты засведчыць слаўныя старонкі беларускай адраджэнскай гісторыі...”***

**14—15**

### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! На “ЛіМ” падпісацца ніколі не позна. Аформіць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **500** рублёў, на два — **1 000** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 300** рублёў, на два — **2 600** рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**

*Апошняя восень стагоддзя...*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*



## КОЛА ДЗЁН

***Гэты лімаўскі тыдзень — ад пятніцы да пятніцы — быў адметны, незвычайны. Пачаўся ён рэспубліканскім кірмашом-фестывалем "Дажынкі-2000", што адбыліся ў суботу 23 верасня ў Шклове, а заканчваецца таксама рэспубліканскім з'ездам "саветаў дэпутатаў саветаў" краіны, які праходзіць сёння ў сталічным Палацы рэспублікі. А між гэтымі дзвюма важнымі і важкімі падзеямі ад пятніцы да пятніцы на гэтым тыдні ішло звычнае наша, беднаватае і бесперспектыўнае, аднак жа ціхамірнае і амаль шчаслівае, беларускае жыццё...***

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Гэтая намінацыя становіцца ці не самай частай у нашым "Коле дзён". Не таму, вядома, што мы надта любім яе. Часцей, чым пра ўсе іншыя, пра яе нагадвае, так бы мовіць, само жыццё. Вось і зноў. Трэці раз ад пачатку верасня падаражэла аўтамабільнае паліва. Літр самага папулярнага бензіну АІ-92 каштуе зараз 505 рублёў. Сяму-таму чарговая падвышка не страшная, а вось большасці аўтаўладальнікаў новая цана ўжо не па кішэні. Спасылкі на міжнародны нафтавы крызіс не надта праўдападобныя. Чаму ж тады ў Расіі літр таго самага дзевяноста другога каштуе ўсяго 25 цэнтаў, альбо 250 нашых беларускіх рублёў? Аўтамабіль для беларуса, як і за савецкім часам, зноў становіцца не сродкам перамяшчэння, а раскошаю...

### РАКІРОЎКА ТЫДНЯ

Указам А. Лукашэнкі палкоўнік міліцыі Уладзімір Навумаў вызвалены ад пасады начальніка Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і прызначаны міністрам унутраных спраў з прысваеннем чаргавога спецыяльнага звання генерал-маёра міліцыі. Генерал-маёр Леанід Ерын вызвалены ў той жа дзень ад пасады першага намесніка старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі і прызначаны начальнікам Службы бяспекі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

### НАЗІРАЛЬНІКІ ТЫДНЯ

Пры Цэнтральнай выбарчай камісіі ў якасці назіральнікаў за парламенцкімі выбарамі ў Беларусі акрэдытаваны тры члены ЦВК Казахстана, а таксама прадстаўнік Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расіі. Акрэдытаваны і дзевяць членаў тэхнічнай місіі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека, аднак яны надзелены асаблівым статусам і іх "нельга назваць назіральнікамі". А прэзідыум Сейма Латвіі адхіліў просьбу трох дэпутатаў фракцыі "За правы чалавека ў адзінай Латвіі" дазволіць ім паехаць у Беларусь для назірання за выбарамі. Такое рашэнне Сейма было прынята з улікам "адносін міжнародных арганізацый да выбараў у Беларусі".

### АДЛУЧЭНЦЫ ТЫДНЯ

На гэтым тыдні нястомна працаваў Вярхоўны суд Беларусі: ён разглядаў скаргі незарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты палаты прадстаўнікоў, а скаргаў гэтых — нямала, не адзін дзесятак. Пашанцавала нямногім, літаральна адзінкам, скаргі ж большасці суд не задаволіў. Суд ёсць суд, з ім не выпадае спрачацца, аднак жа... Адлучаны ад удзелу ў выбарах такія вядомыя ў краіне асобы, як Уладзімір Ганчарык, Генадзь Грушавы, Алег Волчак, Аляксандр Пласкавіцкі, Віктар Цярэшчанка, Валерый Шчукін, Леанід Сініцын, Валерый Драко, Юлія Чыгір і іншыя. Міжволі спіс гэты спараджае сумненне: няўжо ж досыць дасведчаныя людзі і не маглі свядома ісці на нейкія там парушэнні. Наадварот, яны, ведаючы і разумеючы сітуацыю, павінны былі б быць асабліва патрабавальнымі да захавання літары закона пры зборы подпісаў і афармленні падпісных лістоў. Таму і ўзнікае пытанне: а ці не заключаецца прычына іх адлучэння ў тым, што большасць з іх не даспадобы сённяшнім уладам?

### АБМЕН ТЫДНЯ

Беларускі НДІ бульбаводства прапануе насельніцтву ў абмен на таварную харчовую бульбу высокаўраджайныя гатункі насенкі. У прыватнасці, такія гатункі, як "Дзіна", "Атлант", "Альпініст", "Жывіца", "Скарб" і "Архідэя". Пачынанне — надзвычай патрэбнае, бо на большасці прыватных сотак вырошчваецца абы-якая бульба, якая даўно вымагае замены. Толькі вось пытанне: ці будзе наладжаны такі абмен пры ўсіх райзаготканторах, ці гэта будзе рабіць адзіны магазін пры НДІ ў Самахвалавічах?

### АСАРТЫМЕНТ ТЫДНЯ

Мёрскае будаўнічае прадпрыемства меліярацыйных і водагаспадарчых сістэм, якое рабіла дагэтуль дзвярныя і аконныя блокі, рамы ды плінтусы, пашырыла свой асартымент: пачало выпускаць рачныя і азёрныя лодкі і чаўны, у тым ліку па індывідуальных заказах. Мажліва, сяму-таму гэта падасца дробяззю, нявартай увагі з'яваю. Тым не менш, мы палічылі неабходным запініць на ёй увагу чытачоў — як на з'яве, што сведчыць аб ажыўленні і пашырэнні ў краіне рынкавых адносін...

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Завяршылі свой візіт у Беларусь эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якія курыруюць праграмы па барацьбе з туберкулёзам. На жаль, праблема гэтая датычыць сёння і нашай краіны — шмат беларусаў хварэюць на гэтую колісь невылечную хваробу, прытым каля 15 працэнтаў выпадкаў захворвання туберкулёзам канчаюцца лятальным зыходам. Сумна, але ж даводзіцца канстатаваць, што рост захворванняў на туберкулёз — невыпадковы, што нездарма гэтую хваробу называюць хваробай беднасці і галечы. Візіт экспертаў СААЗ дазволіць падрыхтаваць глебу для ажыццяўлення сумесных праграм па лячэнні і прафілактыцы туберкулёзу ў Беларусі.

### МАЎГЛІ ТЫДНЯ

Больш чым трое сутак працягваліся пошукі малога Віці, які згубіўся ў лесе паблізу вёскі Жытлін Івацэвіцкага раёна. Здарэнне прыцягнула ўсеагульную ўвагу: хлопчыку ўсяго год і дзевяць месяцаў, лясы вакол Жытліна балоцістыя, ночы надышлі халодныя, ажно марозныя. Бянтэжыла, спараджала розныя сумненні і загадкі і тая акалічнасць, што малога сына ўзяў з сабою ў грыбы бацька і ўмудрыўся... згубіць. На шчасце, усё абышлося, хлопчыка знайшлі на чацвёртыя суткі, малы Віця мужна вытрываў нялёгкія выпрабаванні. Дальбог жа, гэты выпадак ці не лішні раз пацвердзіў надзвычайную цярплівасць і жывучасць нас, беларусаў...

### ДЗІКУНСТВА ТЫДНЯ

Пад вакном шматпавярховага дома на праспекце Пушкіна ў Мінску быў выяўлены труп жанчыны. Смерць яе наступіла ў выніку падзення з вялікай вышыні. Як высветлілася, у смерці жанчыны вінаваты ўласны сын. Нідзе непрацуючы 27-гадовы абібок, пасварыўшыся з маці, выкінуў яе з вакна пятага паверха. Самае жахлівае ў тым, што падобныя здарэнні, калі сын у п'яным чадзе падымае руку на маці ці бацьку, альбо наадварот, бацька ці маці пазбаўляюць жыцця сваё дзіця, робяцца досыць частымі. Значыць, адбываецца з намі нешта не тое...

### ТУЗІН ТЫДНЯ

На ўчарашні дзень беларускія алімпійцы завявалі тузін медалёў. Ды не простых тузін, а чортаў — цэлых 13! Праўда, залатых і срэбных сярод іх малавата — адпаведна 2 і 1, рэшта, ажно 10! — бронзавыя. Тым не менш, малайцы нашы ў Сіднеі! Па колькасці медалёў Беларусь на 15-ым месцы сярод 72-х краін, што здабылі алімпійскія ўзнагароды. Брава!



НОВАЕ

## Падзея для абодвух народаў

Беларуская літаратура па-ранейшаму выклікае цікавасць у свеце. Традыцыйна трывалыя сувязі ў нашых літаратараў з калегамі з братняй Балгарыі. У пазамінулым годзе там выйшаў альманах беларускай літаратуры ў перакладзе на балгарскую мову "Панарама", які меў добры розгалас і ўдзячную чытацкую аўдыторыю. Сёлета — новая важкая падзея: у тым жа сафійскім выдавецтве пабачыла свет двухмоўная "Анталогія беларускай паэзіі". Яе укладальніца і аўтар уступнага артыкула — вядомы балгарскі літаратар Румяна Еўцімава.

З'яўленню "Анталогіі" спрыялі многія асобы і арганізацыі, у тым ліку пасольства Рэспублікі Беларусь у Балгарыі на чале з паслом Аляксандрам Герасіменкам. "Анталогія" прадстаўляе беларускую паэзію ў яе гістарычным развіцці, пачынаючы ад Кірылы Тураўскага, Міколы Гусоўскага і Францішка Скарыны і да апошняй генерацыі маладых паэтаў з іх фарматорчымі пошукамі. Сярод аўтараў "Анталогіі" — нашы класікі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Цётка, Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч. Прадстаўлены паэты, чыя творчасць прыпала на час сталінскіх рэпрэсій — Уладзімір Дубоўка, Юлі Таўбін, Язэп Пушча, Максім Лужанін ды іншыя. Увайшлі ў анталогію творы Ларысы Геніюш і Наталлі Арсеньевай. Прадстаўлена творчасць паэтаў розных пакаленняў — Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Аляксея Пысіна, Анатоля Вялюгіна, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Рыгора Барадуліна, Васіля Зуёнка, Генадзя Бураўкіна, Міколы Купрэева, Дануты Бічэль-Загнетавай, Ніны Мацяш, Вольгі Іпатавай, Уладзіміра Някляева, Сяргея Законнікава, Раісы Баравіковай, Алеся Разанава, Яўгеніі Янішчыц, Навума Гальпяровіча, Алеся Пісьмянкова, Леаніда Дранько-Майсюка, Галіны Булыкі, Віктара Шніпа, Людмілы Рублеўскай ды іншых. Творчасць маладых нонканфармістаў прадстаўляюць Зміцер Вішнёў, Альгерд Бахарэвіч, Ганна Ціханава, Вітар Жыбуль і Вальжына Морт. У перакладзе твораў на балгарскую мову бралі ўдзел вядомыя балгарскія літаратары, сярод якіх Андрэй Германаў, Зоя Васілева, Стэфан Паптонеў, Хрыста Папоў, Іван Давідкаў, Янка Дзімаў, Перван Стэфанаў ды іншыя. Кніга выйшла ў цудоўным афармленні мастака Стэфана Груева. Безумоўна, выхад "Анталогіі беларускай паэзіі" ў Балгарыі — значная падзея для абодвух нашых народаў, і будзе мець належны розгалас і ўвагу крытыкі і чытачоў.



**Н. К.**

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На вечарыне, якая была прысвечана 90-годдзю Хаіма Мальцінскага і прайшла ў вялікай зале Дома літаратара, гучалі вершы аўтара на ідыш, рускай і беларускай мовах, успаміны пра паэта, песні. У праграме, якую вёў заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Мішчанчук, бралі ўдзел Рыгор Рэлес, Яўген Каршукоў, Леанід Лыч, Валянцін Тарас, Уладзімір Мехаў і іншыя.

●

Нямала прыхільнікаў таленту Івана Карэнды сабралася ў мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна, на яго юбілейную вечарыну. Слова пра юбіляра казалі Алесь Камароўскі, Віктар Шніп, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Ліпскі, Уладзімір Гілеп, Уладзімір Ермалаеў, Раіса Баравікова, Навум Гальпяровіч, які вёў вечарыну. Песні на словы Івана Карэнды выканалі кампазітар Алег Чыркун і ансамбль "Мінскі гармонік" пад кіраўніцтвам Івана Раманчука.

Але галоўны герой вечарыны быў, безумоўна, сам паэт, яго вершы, якія ён чытаў. А іх у гэты вечар прагучала нямала.

**Н. К.**

●

У бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылася літаратурная сустрэча, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння паэта і перакладчыка Навума Кісліка. Перад вучнямі 24-ай школы выступілі вядомыя паэты Анатоль Вярцінскі і Аляксандр Дракахруст. Вядучы сустрэчы Валянцін Тарас расказаў пра малавядомыя факты з жыцця Н. Кісліка, брат паэта Валяр'ян Кіслік падзяліўся ўспамінамі пра дзіцячыя і юнацкія гады паэта, якія прайшлі ў Віцебску. Вучні атрымалі аўтографы пісьменнікаў.

### Наведалі Вайсковую акадэмію

Напрыканцы тыдня група пісьменнікаў у складзе намесніка старшыні СБП Навума Гальпяровіча, Алеся Савіцкага, Яўгена Каршукова і Браніслава Спрынчана наведалі Вайсковую акадэмію. Яны расказалі курсантам аб творчай і грамадскай дзейнасці пісьменніцкай арганізацыі, прачыталі свае вершы.

Пакладзены добры пачатак творчай дружбе паміж беларускімі пісьменнікамі і калектывам Вайсковай акадэміі.

**Я. ІВАНОЎ**

## "Інтэлігенцыя Беларусі — гарантыя прагрэсу і дастойнага жыцця народа!"

***Прэзідыум Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры распаўсюдзіў у сродках масавай інфармацыі зварот да творчай інтэлігенцыі сталіцы і Мінскай вобласці, дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый.***

У звароце, у прыватнасці, гаворыцца:

"Паважаныя артысты, рэжысёры, настаўнікі, журналісты — усе работнікі сацыяльнай сферы! Становішча, у якім зараз знаходзяцца многія з Вас, самае гаротнае. Па цэнах на канец жніўня спажывецкі кошык з самых неабходных для жыцця чалавека тавараў складае 68282 рублі. Сярэднямесячная заработная плата па ўстановах культуры не перавысіла за гэты час 52,7 тысячы рублёў, па ўстановах мастацтва - 46,8, па ўстановах фізкультуры і спорту сталіцы — 54,8. Столькі каштуе на сёння праца артыста, журналіста, іншага творчага работніка.

Творчая інтэлігенцыя ўсё менш забяспечваецца жыллём. Яшчэ больш безабаронная выглядае творчая моладзь, якой усё патрэбна пачынаць з нуля!

Для таго, каб звярнуць увагу кіраўніцтва дзяржавы і грамадскасці да творчай інтэлігенцыі (якая адказвае за духоўнасць нацыі, ад якой залежыць гарманічнае развіццё наступных пакаленняў) і падтрымаць ініцыятыву многіх творцаў тэатральна-відовішчных і іншых мінскіх устаноў культуры, прэзідыум абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры звяртаецца да творчай інтэлігенцыі сталіцы і вобласці, дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый падтрымаць ідэю правядзення ў кастрычніку 2000 года акцыі-канцэрта "Інтэлігенцыя Беларусі — гарантыя прагрэсу і дастойнага жыцця народа!"

Запрашаем да ўдзелу работнікаў адукацыі, аховы здароўя і іншых. Арганізатары — прэзідыум арганізацыі прафсаюза і ініцыятыўная група — з а я ў л я ю ц ь, што акцыя-канцэрт — гэта не мітынг, не шэсце, не нейкая іншая форма пратэсту — гэта канцэрт, у якім прымуць удзел самыя розныя творцы. Пры традыцыйным аб'яўленні іх выступленняў (выступленняў выключна творчых), будзе дадаткова аб'яўляцца заробак і сённяшнія ўмовы жыцця чалавека і яго сям'і.

Канцэрт — не палітычная, не дабрачынная акцыя. Яна не будзе скарыстана для дасягнення перадвыбарных мэтаў палітычнымі рухамі і партыямі.

*Штаб і работа ініцыятыўнай групы па правядзенні акцыі-канцэрта будзе арганізавана ў памяшканні Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў культуры па адрасе: г. Мінск, плошча Свабоды, 23. Тэлефон 226-01-44.*



ВЕЧАРЫНЫ

## У цэнтры — доктар Бартала!

Гляньце на здымак: доктар Бартала, ён жа народны артыст Беларусі Віктар Чарнабаеў, — сапраўды ў цэнтры. Ён заўсёды апыняецца ў цэнтры камічных падзей і карнавальных сітуацый, хаця побач столькі іншых каларытных фігур, адметных герояў. Дзіва што: гэта ж "Севільскі цырульнік" Д. Расіні, з яго прыўкраснай музыкай, неўміручай дасціпнасцю, жывым гумарам! Чароўная Разіна, закаханы Альмавіва, "суровы" дон Базіліё, усюдысны Фігара, хітраватая Берта... І ён, таксама закаханы, таксама "суровы", таксама хітраваты і — чароўна-смешны доктар Бартала!

У які ўжо раз выйдзе заўтра ў сваёй кароннай ролі Віктар Чарнабаеў... Але заўтрашні "Севільскі цырульнік" — асаблівы: гэта будзе бенефіс у гонар найстарэйшага саліста Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра оперы, улюбёнца публікі ўсіх пакаленняў, якога "ЛіМ" віншаваў у маі з 70-годдзем. Афіцыйныя ж віншаванні — 30 верасня.

**С. Б.**



*На здымку: В. ЧАРНАБАЕЎ з А. МЕЛЬНІКАВЫМ і Н. КАЗЛОВАЙ у спектаклі "Севільскі цырульнік".*

*Фота В. КУСТАВА*

# Беларускія Праведнікі

6 верасня ў Пасольстве Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь адбылося ўшанаванне Праведнікаў Народаў Свету. Ганаровыя дыпломы і памятныя медалі былі ўручаны жыхарам Беларусі, якія ў гады вайны ратавалі яўрэяў ад смерці. Прысуджэннем звання "Праведнік Народаў Свету" займаецца Ізраільскі інстытут Катастрофы і Гераізму еўрапейскага яўрэйства "Вечны помнік". Інстытут быў заснаваны па рашэнні ўрада краіны ў 1953 годзе. Яго галоўнымі задачамі з'яўляюцца: увекавечванне памяці ахвяр яўрэйскага народа і яўрэйскіх абшчын, знішчаных у час Другой сусветнай вайны, збор і вывучэнне інфармацыі для перадачы ўрокаў гісторыі будучым пакаленням, а таксама ўвекавечванне памяці прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей, якія рызыкавалі жыццём для выратавання яўрэяў. Імя Праведніка запісваецца на Сцяну Гонару ў інстытуце "Вечны помнік". На сённяшні дзень вядома больш 16000 такіх людзей. За час працы Пасольства Ізраіля ў Беларусі (з кастрычніка 1993 года) больш 300 жыхароў Беларусі былі прызнаны Праведнікамі Народаў Свету.





*На здымках: дыплом Праведніка атрымала Надзея Андрэеўна САЛАЎЁВА, якая разам з маці выратавала яўрэйскае дзіця з мінскага гета; дыплом і медаль Праведніка з рук Надзвычайнага Пасла Дзяржавы Ізраіль Марціна ПЕЛЕД-ФЛЭКСА атрымоўвае жыхар Уздзеншчыны Адам Арсенавіч ВЯРБІЦКІ.*

*Фота Анатоля КЛЕШЧУКА*

# Ветразь, напоўнены музыкай

Для беларускай музычнай культуры, пры нашай даўняй і набалелай праблеме выдання нотаў, з'яўленне новага нотадруку — падзея рэдкасная і прыемная. Калі ж гэта яшчэ і добры ўзор паліграфічнага мастацтва, і, само сабой зразумела, цікавая музыка, — уражанне прыемнае асабліва. Выданне новага зборніка харавых твораў Яўгена Паплаўскага выклікае якраз "асабліва прыемнае" ўражанне.

Пад вытанчана-прыгожай, аздобленай фрагментам карціны Ж. Міро, вокладкай — дзве цыклічныя кампазіцыі, плён працы Я. Паплаўскага 1998—99 гадоў. Іх назвы нашаму чытачу знаёмыя дзякуючы інтэрв'ю кампазітара, дзе ён распавядаў пра плён сваёй стажыроўкі ў Гданьскай акадэміі музыкі, пра свае міжнародныя творчыя стасункі.

Лірычны цыкл "Пагода ўжо позняе восені" на вершы Л. Стафа (для змяшанага хору і ўдарных інструментаў), змешчаны ў пачатку зборніка, быў сёлета адзначаны 2-й прэміяй Міжнароднага конкурсу кампазітараў "Jihlava-2000" у Празе. (Пра гэта мы падрабязна пісалі.) Далікатны жывапіс верша спараджае пяшчотныя сугуччы галасоў а капэла, толькі ў адным з пяці хораў цыкла ("Краявід") адценены мяккімі штрыхамі Blocco di legno ды званочкаў. Вымалёўваюцца прыгожыя вобразы сонца — залатога ветразя на збожжавай роўнядзі; "апостальскай простасці" ворнага поля з клінам зялёнай азіміны; гульні барваў на змярканні; трапяткога паэтава сэрца, ахінутага восеньскай меланхоліяй...

"Ветразь залатога сонца" — так назваў гэты зборнік Я. Паплаўскі. І напоўнены гэты ветразь не толькі залатой энергіяй палітры восеньскіх краявідаў, энергіяй спрадвечнай мудрасці зямлі ды неба, якую адмыслова спазнаеш на зломе пор года. Поўніцца "Ветразь залатога сонца" і подыхам глыбокай даўніны, і моцай рэлігійных ісцін: кампазітар апрацаваў тры распевы з вядомага "Супрасльскага ірмалагіёна" (16—пач. 17 ст.) і аб'яднаў іх агульнай назвай — "Супраскай мадонне"...

Дададмо, што для аздобы новай нотнай кніжачкі скарыстаны застаўкі з графікай Ф. Рушчыца. Анатацыйны матэрыял пададзены па-беларуску ды па-ангельску. Наклад зборніка — 300 экземпляраў, для харавых партытур гэта прыстойна. Каму ж трэба дзякаваць за яго выданне? Польскаму інстытуту ў Мінску, пасольству краіны-суседкі, якія цікавяцца нашым мастацтвам і нямала робяць для развіцця даўніх беларуска-польскіх культурных сувязяў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

ПОШТА

# Галоўны дойлід Беларусі — літаратура

***Працэс узнікнення краіны гісторыкі звязваюць звычайна з глабальнымі працэсамі, якія адбываліся на тэрыторыі гэтай і суседніх земляў на працягу соцень гадоў. Прыводзяць эканамічныя, палітычныя, культурныя, рэлігійныя і іншыя фактары, у выніку якіх землі захопліваліся і аб'ядноўваліся. Навукоўцы, натуральна, маюць рацыю.***

Збольшага працэс гістарычнага развіцця дзяржавы залежыць ад названых фактараў. Калі ж глянуць на гісторыю ўзнікнення Беларусі (сучаснай, цяперашняй), дык можна заўважыць цікавую акалічнасць. Аказваецца, на ўзнікненне БНР, БССР, а потым і РБ у большай ступені ўплываў менавіта літаратурны працэс. Праз літаратуру адбылося абуджэнне народа, праз літаратуру пачаўся шлях нацыі да самасвядомасці і самасцвярджэння.

Успомнім пачатак стагоддзя. Землі ў складзе Расійскай імперыі называюцца Паўночна-Заходнім краем. Газеты "Наша доля" і "Наша ніва" выходзяць на тэрыторыі Расіі. Ніхто нават не можа ўявіць, што менш чым праз 20 гадоў тут узнікне прэцэдэнт для стварэння менавіта беларускай дзяржаўнасці. Маладыя Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, абапіраючыся на развагі сваіх нешматлікіх папярэднікаў, асэнсавалі і ўвасобілі ў сваёй творчасці мару пра беларушчыну, пра Беларускую краіну...

Каб узнікла новая дзяржава, патрэбны нейкі прэцэдэнт. Не так даўно ў Канадзе праходзіў рэферэндум па пытанні аб выхадзе Квебекскай правінцыі з краіны і падзелу Канады на дзве, хоць і аўтаномныя, але ўсё ж асобныя часткі. Прэцэдэнтам стала суіснаванне дзвюх культур, англамоўнай і франкамоўнай. Кожная з дзвюх частак Канады была здольная самастойна арганізавацца і існаваць, бо за плячыма ў кожнай стаяла і стаіць трывалая культура. Каб аддзяліцца, не хапіла дробязнай колькасці галасоў. Так, у прынцыпе, можа быць з любой часткай любой краіны, калі гэта частка асэнсуе сябе незалежнай. Так, цалкам верагодна, і ЗША могуць развaліцца на асобныя штаты ці якія аб'яднанні штатаў. Патрэбны толькі сур'ёзны прэцэдэнт і высокі інтэлектуальны ўзровень грамадства...

Адзін з асноўных прэцэдэнтаў стварэння беларускага грамадства — маладая беларуская літаратура. Няма нічога дзіўнага ў тым, калі б наша краіна зараз была аўтаномнай ці яшчэ якой-небудзь часткай Расійскай Федэрацыі, а я зараз пісаў бы пра тое, што беларускай народнасці не хапіла невялічкага штуршка, каб сфармавацца ў народ. Але ён у нас быў, той самы штуршок. І мы маем тое, што маем. Было ў нас некалькі дзесяткаў літаратараў (асобных я ўжо назваў), прага якіх да самастойнасці і дзяржаўнасці была настолькі вялікай, што яе не змагла вынішчыць ніякая паліцэйска-адміністрацыйная машына. І з'явілася новая дзяржава, якая сама сябе збудавала, заплаціўшы немалую цану, каб знішчыць сусветны фашызм, і здолела скокнуць (не прыйсці, а менавіта скокнуць) з "балота" ў сучасны індустрыяльны горад.

Шмат хто зараз кажа, што вось ці не замнога павагі мы аддаём нашым Купалу і Коласу, ці такая ўжо вялікая іхняя заслуга, каб называць іхнімі імёнамі плацы, вуліцы і універсітэты? Не, мае дарагенькія, якраз-такі не замнога! Бо заслуга гэтых людзей не толькі ў тым, што наша літаратура хутка зрабілася здабыткам сусветнай культуры, не толькі ў тым, што слова болю нашага народа, выразнікам якога яны былі, сугучна злілося са словам другіх народаў, адпакутаваўшых у барацьбе за сваю волю, а яшчэ і ў тым, што зараз існуе такая дзяржава як Беларусь, і ў ёй жывём мы, беларусы, адны са стваральнікаў ААН і ініцыятараў без'ядзернага свету. Застаючыся самастойнымі і суверэннымі, змаглі мы паказаць усяму свету, як важна быць свабоднымі...

Дзякуй, дзядзька Купала, дзякуй, дзядуля Колас, дзякуй, Максім, дзякуй, настаўнік Янка Маўр... Вы стварылі не толькі нацыянальную літаратуру, а яшчэ і цэлую краіну. Якой яна будзе ў будучым, залежыць зараз толькі ад нас.

**Аляксей ЧУБАТ**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Сезон пачаўся прэм'ерай

Прэм'ерай спектакля "Любімая, я павінен памерці" Э. Ростана пачаў новы сезон абласны драмтэатр. У яго рэпертуары пастаноўкі "Лес" А. Астроўскага, "Граф Нулін з чужых краёў" А. Пушкіна, "Сямейны партрэт з пабочным" С. Любазёрава, "Аргенцінскае танга "Рэўнасць" А. Птушкінай... Не забыліся артысты і на юнага гледача. Для дзяцей падрыхтаваны спектаклі "Пунсовая кветачка", "Папялушка", "Кот у ботах"...

## На сцэне — зоркі

У Гомельскім грамадска-культурным цэнтры прайшоў гала-канцэрт "Зоркі беларускай аперэты" ў суправаджэнні гарадскога сімфанічнага аркестра. У выкананні лепшых артыстаў прагучалі папулярныя рамансы, а таксама музычныя нумары з аперэт "Сільва", "Марыца", "Прынцэса цырка", "Вяселле ў Малінаўцы". У канцэрце бралі ўдзел заслужаная артыстка РБ Зінаіда Вяржбіцкая, заслужаны артыст Беларусі і Украіны Арнольд Ранцанц, іншыя артысты Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра.

## "Паркавы лістапад"

Цэнтральны гомельскі парк знакаміты сваімі архітэктурнымі комплексамі канца XVIII—першай паловы XIX стагоддзя. Менавіта тут прайшло днямі свята "Паркавы лістапад". Выступілі лепшыя самадзейныя калектывы горада, папулярныя музычныя гурты, духавыя аркестры. Працавалі таксама выставы тэхнічнай і прыкладной творчасці, нумізматаў і філатэлістаў.

## У жанры станковага жывапісу

Гомельскі жывапісец Пётр Лук'яненка — выпускнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Доўгі час працаваў у студыі выяўленчага мастацтва Палаца культуры Гомельскага шклозавода. Цяпер — выкладчык Гомельскай мастацкай вучэльні. Лук'яненка працуе ў розных жанрах станковага жывапісу. Гэтымі днямі з творчасцю мастака гамяльчане знаёмяцца на яго персанальнай выставе, арганізаванай у карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Шэсце лялечнікаў

Незвычайнае шэсце прайшло нядаўна па цэнтральнай вуліцы Гродна. Адкрываў яго гарадскі духавы аркестр, а следам у мудрагелістых касцюмах, у грыме, з самымі рознымі лялькамі ў руках прайшлі акцёры Гродзенскага тэатра лялек на чале з галоўным рэжысёрам Мікалаем Андрэевым. Так тэатр адзначыў адкрыццё новага, ужо дваццатага творчага сезона. Лялечнікі паказалі невялічкае прадстаўленне на адкрытым паветры ля тэатра, а затым — прэм'еру спектакля "Казка вандроўнага рыцара" паводле п'есы Хенрыка Юркоўскага, пастаноўку якой здзейсніў у Гродне народны артыст Украіны Сяргей Яфрэмаў. Спектакль прайшоў з аншлагам.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Свята вуліцы Сяргея Смірнова

З нагоды 85-годдзя з дня нараджэння аўтара славутай кнігі "Брэсцкая крэпасць" Сяргея Смірнова ў абласным цэнтры было праведзена свята вуліцы, якая носіць яго імя. Пра жыццё і творчасць пісьменніка, пра сустрэчы з ім, пра яго тытанічную працу над кнігай распавяла вядучы навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея Таццяна Ходцава. Успамінамі падзяліліся таксама адзін са старэйшых жыхароў вуліцы Іван Барташук, журналіст і пісьменнік Аляксей Філатаў, а ветэран вайны Уладзімір Скальскі выканаў любімую песню С. Смірнова. Ганаровымі ўдзельнікамі свята былі сваякі абаронцаў Брэсцкай крэпасці — Шаблоўскія, Наганавы, Клыпы... Ім жыхары вуліцы паднеслі вялікі каравай і чырвоныя гваздзікі. А ў Маскву была накіравана віншавальная тэлеграма жонцы, Вяргініі Генрыхаўне, дзецям і ўнукам юбіляра, з якімі берасцейцы не парываюць сувязяў.

## Урокі ў бібліятэцы

Своеасаблівыя ўрокі для старшакласнікаў праводзіць Жабінская райбібліятэка. Тут, ва ўтульнай чытацкай зале, для юнакоў і дзяўчат перыядычна ладзяцца сустрэчы з цікавымі суразмоўцамі — людзьмі розных прафесій і захапленняў, рыхтуюцца з гэтай нагоды выставы навуковай і мастацкай літаратуры. Першы ў новым навучальным годзе "ўрок" бібліёграф Маргарыта Ігнацюк прысвяціла літаратуры Берасцейшчыны, пра якую яна гутарыла з сакратаром абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Алесем Каско. Нямала пытанняў задалі госці і самі школьнікі, праявіўшы жывую цікавасць да літаратурнага і культурнага жыцця краю, да прафесіі літаратара. Запланаваны сустрэчы і з іншымі пісьменнікамі-землякамі.

## Прысвечана каханню

Асноўны матыў гэтай паэтычнай кніжкі лёгка ўгадваецца па назве — "Табе". Менавіта вершамі пра каханне парадавала чытачоў аўтарка — вядомая брэсцкая паэтка Зінаіда Дудзюк. Да інтымнай лірыкі, якая складае першы раздзел зборніка, далучана ліра-эпічная паэма "Кон". Яе сюжэтная лінія — таксама любоўная, аднак праходзіць праз драматычныя падзеі ў палітычным і рэлігійным жыцці Беларусі канца XIV стагоддзя. Зборнік выйшаў у выдавецтве С. Лаўрова на сродкі фундатара — Брэсцкага камбіната вытворчага аб'яднання "Белгандальпрагрэс". Аформіў кніжку мастак Аляксандр Вярышка — сын паэткі.

**Сымон АКСЕНІН**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## "Ваколіцы Парыжа" на Пастаўшчыне

Краязнаўца з Пастаў Іосіф Зямчонак — сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў — прадставіў землякам два свае новыя выданні — "Ваколіцы Парыжа" і "Кредо служащего". Першая кніга пра гісторыю Пастаўскага Паазер'я. Другая — інтэлектуальная спадчына філосафа і асветніка Р. Тызенгаўза. На прэзентацыю прыехалі паэт-сатырык Янусь Малец, дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Ц. Карпінскі, навукоўцы з Гродна і Польшчы... Дарэчы, Парыж — тутэйшая вёсачка, якая знікла ў 70-ыя гады. У Мосарскім касцёле Св. Ганны студэнтка Кракаўскай Папскай акадэміі музыкі Алена Зямчонак дала канцэрт арганнай музыкі.

## "Палонны вулачак і сноў..."

Юбілейная выстава Алега Крошкіна стала адметнай з'явай у культурным жыцці Віцебска. Тутэйшыя крытыкі назвалі жывапісца "палонным вулачак і сноў, спеваком дахаў і кахання". Мастак не падобны на іншых. Яго карціны напоўнены гумарам і любоўю да роднага горада. На выставе ў зале абласнога аддзялення Саюза мастакоў — рэтраспектыва жывапісу Алега Крошкіна.

**Святлана ГУК**



## ЧАСАПІС

### Наш польскі досвед

Сёлета Польшча адзначае 20-годдзе ўтварэння Незалежных прафсаюзаў "Салідарнасць". З гэтай нагоды Польская амбасада і Польскі інстытут у Мінску наладзілі шэраг мерапрыемстваў. Гэта выстава фотаздымкаў і архіўных матэрыялаў, фотавыстава "Нараджэнне Салідарнасці — у аб'ектыве Эразма Цёлака", дэманстрацыя польскіх мастацкіх і дакументальных фільмаў, паказ спектакля "Перад лаўкаю ювеліра". Прафесар Ежы Хольцэр прачытаў некалькі лекцый па тэме "Сацыяльныя і палітычныя перамены ў Польшчы". Адбылася выстава выдавецтва "Карта".

Польская амбасада наладзіла прыём, юбілейнае спатканне з палітыкамі, што стаялі ля вытокаў "Салідарнасці".

Палякі ганарацца гісторыяй "Салідарнасці", мабыць, не меней чым барацьбою з фашызмам у часе другой сусветнай вайны. "Салідарнасць" лёгка ўпісваецца ў гістарычны імідж Польшчы як вечнай змагаркі з расійскім, аўстрыйскім, германскім імперыялізмам, з фашызмам, з камунізмам. Гісторыя "Салідарнасці" — гэта хутчэй польскі варыянт "аксамітнай рэвалюцыі". Кожная гістарычная падзея, гістарычная з'ява, што пакінулі след у свядомасці народа, рана ці позна абрастае легендамі, міфамі. Дваццаць гадоў тэрмін для гэтага дастатковы. Але ў часе святкавання названага юбілею ў Мінску мы мелі магчымасць убачыць і адчуць "Салідарнасць", так бы мовіць, "аўтэнтычную", прыгадаць самім сябе дваццаць гадоў назад, суаднесці тагачасныя думкі і пачуцці з сённяшнім станам душы.

Да досведу "Салідарнасці" ў сённяшняй Беларусі свядома і падсвядома звяртаюцца і палітыкі ад апазіцыі, і палітыкі ад улады. Кожны робіць з гісторыі свае высновы...

"Салідарнасць" у саюзе з Касцёлам змяніла сацыяльнае аблічча Польшчы і да нейкай ступені паўплывала на сітуацыю ў СССР і ва ўсёй тагачаснай "сацыялістычнай садружнасці". Таму што, калі змяняецца свет вакол нас, змяняемся і мы.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

### "Бум-Бам-Літу" — 5 гадоў

Авангардны літаратурна-мастацкі рух "Бум-Бам-Літ" быў створаны ў 1995 годзе групай маладых паэтаў, прыхільнікаў так званай постмадэрнісцкай плыні ў літаратуры. Удзельнікі руху абвясцілі паняцце самадастатковасці мастацтва, якое тоеснае прынцыпу творчасці дзеля працэсу творчасці. Кожны творца ў ББЛ унікальны, кожны выяўляе сябе, як хоча, і няма ніякіх абмежаванняў у выбары сродкаў самавыяўлення. Нягледзячы на некаторыя непаразуменні, а часам і вельмі жорсткія абвінавачанні ў залішняй і непатрэбнай эпатажнасці з боку літаратараў старэйшага пакалення, бумбамлітаўцы, аднак, даволі мірна суіснавалі з імі ўсе гэтыя пяць гадоў, праводзячы разнастайныя мастацкія эксперыменты.

Але, узбагачаючы сучасны літаратурны працэс новымі накірункамі і паняццямі з нязменным канчаткам -ізм (транслагізм, лагафармізм, шызарэалізм і інш.), удзельнікі руху не адмаўляюць класічныя традыцыі, бо, праўду сказаць, толькі на фоне класічнай рэалістычнай літаратуры творчыя ажыццяўленні "зрухароў" ББЛ выглядаюць да месца. А між іншым, сімвал "Бум-Бам-Літа" — пагнуты алюмініевы тазік, груканнем у які суправаджаліся многія тэатралізаваныя выступленні, ператварыўся ўжо ў музейную рэліквію. Сёння рух не мае адзінай творчай канцэпцыі. Але, галоўнае, лічаць бумбамлітаўцы, не стаяць на месцы і не баяцца стварыць нешта сваё, адметнае, і яны не баяцца: актыўна ўдзельнічаюць у цікавых мастацкіх праектах, ладзяць паэтычныя, музычныя выступленні і акцыі. Плануецца выдаць шэраг асобных зборнікаў з серыі "Бібліятэчка Бум-Бам-Літа", якія стануць другім (пасля "Тазіка беларускага") масавым выданнем руху, бо пакуль з творамі ўдзельнікаў ББЛ чытач мог пазнаёміцца толькі праз асобныя часопісныя ці газетныя публікацыі.

Нарадзіўшыся пяць гадоў таму, "Бум-Бам-Літ" пераканаў многіх у тым, што беларускай літаратуры ўласцівыя тыя ж самыя тэндэнцыі развіцця, што і сучаснай агульнаеўрапейскай літаратуры.

**А. КАВАЛЕЎСКІ**

# У падтрымку культуры і мастацтва

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў рашэнне савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва аб выдзяленні сродкаў з фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва на выплату грантаў і ганарараў на стварэнне і набыццё твораў культуры і мастацтва, выданне літаратурных твораў, фарміраванне музейных і бібліятэчных калекцый, набыццё інструментаў і матэрыяльных сродкаў для ажыццяўлення творчай дзейнасці, забеспячэнне ўдзелу творчых калектываў у рэспубліканскіх фестывалях і выстаўках, правядзенне культурных акцый, стажыровак творчых і кіруючых работнікаў, аказанне разавай матэрыяльнай дапамогі.***

У рашэнні гаворыцца:

**1. Выдзеліць гранты:**

Міністэрству культуры і Мінскаму гарвыканкаму на стварэнне помніка Адаму Міцкевічу — у памеры 9,41 млн. рублёў;

Міністэрству культуры:

на выданне каталога рэспубліканскай мастацкай выстаўкі "Беларусь — трэцяму тысячагоддзю" — у памеры 5 млн. рублёў;

на набыццё твораў выяўленчага мастацтва вядучых майстроў і творчай моладзі рэспублікі — у памеры 25 млн. рублёў;

на стажыроўку творчых і кіруючых работнікаў тэатраў — у памеры 5 млн. рублёў;

Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру балета Рэспублікі Беларусь на пастаноўку балетнага спектакля "Макбет" — у памеры 5 млн. рублёў;

Акадэмічнаму ансамблю песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь на падрыхтоўку канцэртнай праграмы, прысвечанай 55-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, — у памеры 3 млн. рублёў;

Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру імя Янкі Купалы на выданне друкаванай юбілейнай прадукцыі ў сувязі з 80-годдзем тэатра — у памеры 5 млн. рублёў;

Дзяржаўнаму музычнаму тэатру Рэспублікі Беларусь на стварэнне спектакля "Лятучая мыш" — у памеры 10 млн. рублёў;

Мінскаму гарадскому тэатру драмы "Дзе-Я?" на стварэнне спектакля "Фрэдзі" — у памеры 1,5 млн. рублёў;

Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь на рэстаўрацыю твораў старажытнага беларускага мастацтва — у памеры 4,546 млн. рублёў;

Дзяржаўнаму музею гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь на набыццё экспанатаў — у памеры 1,055 млн. рублёў;

Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на стварэнне мастацкіх партрэтаў прэзідэнтаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі народным мастаком СССР Савіцкім М. А. — у памеры 5,1 млн. рублёў;

сярэдняй школе N 136 г. Мінска на ажыццяўленне пастаноўкі спектакля па п'есе С. Алёшына і набыццё неабходнага абсталявання для ўдасканалення навучальнага працэсу — у памеры 4 млн. рублёў;

Мінскай абласной школе-інтэрнату для глухіх дзяцей (пас. Ждановічы) на набыццё мастацкіх матэрыялаў і ажыццяўленне мерапрыемстваў па эстэтычным выхаванні — у памеры 1,5 млн. рублёў;

Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна на набыццё рэдкіх выданняў і тэхнічнага абсталявання ў мэтах пераводу бібліятэкі князя Паскевіча на электронныя носьбіты інфармацыі — у памеры 4,5 млн. рублёў;

Гродзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею на:

набыццё экспанатаў для стварэння мастацкай галерэі — у памеры 2,5 млн. рублёў;

рэстаўрацыю твораў жывапісу з фонду музея — у памеры 2,5 млн. рублёў;

Хоцімскай цэнтральнай раённай бібліятэцы на ажыццяўленне праекта "Моладзь і падлеткі Хоцімшчыны ў XXI ст." — у памеры 1,8 млн. рублёў;

Вілейскаму райвыканкаму на стварэнне скульптурнай кампазіцыі, прысвечанай 400-годдзю г. Вілейкі, — у памеры 2 млн. рублёў;

грамадскаму аб'яднанню "Беларускі саюз мастакоў" на прэміі для пераможцаў рэспубліканскай мастацкай выстаўкі-конкурсу маладых мастакоў "Новыя імёны" — у памеры 0,8 млн. рублёў;

рэспубліканскаму Палацу культуры ветэранаў на арганізацыю VI Рэспубліканскага фестывалю народнай творчасці "Не старэюць душой ветэраны" — у памеры 2,2 млн. рублёў;

грамадскаму аб'яднанню "Беларускі фонд культуры" на рэалізацыю культуралагічнай праграмы "Траецкі кірмаш" па падтрымцы традыцыйнай народнай культуры — у памеры 2 млн. рублёў;

Саюзу беларускіх яўрэйскіх аб'яднанняў і абшчын на стварэнне помніка ахвярам гітлераўскага генацыду ў Беларусі — у памеры 6 млн. рублёў;

Беларускаму дзяржаўнаму ансамблю "Песняры" на стварэнне рэкламна-паліграфічнай прадукцыі да 30-годдзя творчай дзейнасці калектыву — у памеры 6 млн. рублёў;

Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" на стварэнне экспазіцыі музея гісторыі беларускага кіно — у памеры 7 млн. рублёў;

рэспубліканскаму вытворча-творчаму прадпрыемству "Беларускі відэацэнтр" на стварэнне апаратнага комплексу па вытворчасці навуковых, вучэбных праграм на камп'ютэрных кампакт-дысках — у памеры 10 млн. рублёў;

Беларускай акадэміі мастацтваў на выдавецкую і музейную дзейнасць — у памеры 4 млн. рублёў;

Пастаўскаму райвыканкаму для рэалізацыі праграмы "Перадача гістарычнай спадчыны і набыткаў традыцыйнай культуры Пастаўшчыны падрастаючаму пакаленню" — у памеры 4,197 млн. рублёў;

Аршанскаму гарвыканкаму на завяршэнне стварэння экспазіцыі музея У. Караткевіча ў г. Оршы — у памеры 6 млн. рублёў;

Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага для аўтаматызацыі бібліятэчных працэсаў — у памеры 6 млн. рублёў.

**2. Выдзеліць сродкі:**

Беларускай дзяржаўнай філармоніі на набыццё сцэнічных касцюмаў для Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь — у памеры 15 млн. рублёў;

Дзяржаўнаму аркестру сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь на набыццё тэхнічных сродкаў для ўдасканалення творчай дзейнасці аркестра — у памеры 5 млн. рублёў;

Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры Беларусі на набыццё тэхнічнага абсталявання для паляпшэння стану фондасховішча — у памеры 1,5 млн. рублёў;

Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі на стварэнне студыі гуказапісу для забеспячэння вучэбнага працэсу — у памеры 10 млн. рублёў;

Беларускаму інстытуту праблем культуры на камп'ютэрнае навучанне работнікаў — у памеры 8 млн. рублёў;

рэспубліканскаму вучэбнаму комплексу гімназіі-каледжу пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі на рэстаўрацыю каштоўных раяляў — у памеры 4,5 млн. рублёў;

дзіцячай музычнай школе N 2 імя М. І. Аладава г. Мінска на набыццё музычных інструментаў — у памеры 1 млн. рублёў;

Давыд-Гарадоцкаму гарвыканкаму на набыццё гукавога абсталявання для гарадскога Дома культуры — у памеры 6 млн. рублёў;

Ганцавіцкаму райвыканкаму на стварэнне экспазіцыі раённага краязнаўчага музея — у памеры 8 млн. рублёў;

Полацкаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку на стварэнне экспазіцыі мастацкага музея — у памеры 8 млн. рублёў;

Наваполацкаму музычнаму вучылішчу на набыццё музычных інструментаў — у памеры 1 млн. рублёў;

Глыбоцкаму райвыканкаму на афармленне выставачнай, глядзельнай залы і гасцёўні ў гарадскім Цэнтры культуры — у памеры 10 млн. рублёў;

Светлагорскаму гарвыканкаму для набыцця гукаўзмацняльнай апаратуры і сцэнічных касцюмаў для маладзёжнага музычнага цэнтра — у памеры 10 млн. рублёў;

Гродзенскаму абласному тэатру лялек на набыццё камплекта асвятляльнай апаратуры для ажыццяўлення пастановак спектакляў для дзяцей — у памеры 6 млн. рублёў;

Іўеўскаму райвыканкаму на набыццё сцэнічных касцюмаў для народнага хору раённага Дома культуры — у памеры 2,7 млн. рублёў;

Мінскаму абласному драматычнаму тэатру на набыццё гукаакустычнага і асвятляльнага абсталявання — у памеры 6 млн. рублёў;

грамадскаму аб'яднанню "Беларускі саюз дызайнераў" на набыццё камп'ютэрнай тэхнікі — у памеры 3,52 млн. рублёў;

Любанскаму райвыканкаму на набыццё гукаўзмацняльнай і светатэхнічнай апаратуры і абсталявання для раённай школы мастацтваў — у памеры 4 млн. рублёў;

Уздзенскаму райвыканкаму на набыццё абсталявання для ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы Сямёнавіцкага сельскага Дома культуры — у памеры 8 млн. рублёў;

рэспубліканскаму цэнтру вольнага часу інвалідаў "Інвацэнтр" г. Мінска для мастацкай студыі дзяцей-інвалідаў і інвалідаў з дзяцінства — у памеры 2,8 млн. рублёў;

Мінскаму мастацкаму вучылішчу імя А. К. Глебава пры Беларускай акадэміі мастацтваў на набыццё вучэбных мастацкіх матэрыялаў — у памеры 4 млн. рублёў;

Дзяржкамдруку на выданне літаратурных твораў — у памеры 65 млн. рублёў.

**3. Аказаць разавую матэрыяльную дапамогу:**

Максіму Лужаніну (Каратай А. А.), заслужанаму дзеячу мастацтваў, — у памеры 250 тыс. рублёў;

Рынковіч А. В., заслужанай артыстцы Рэспублікі Беларусь, — у памеры 250 тыс. рублёў;

Станюце С. М., народнай артыстцы СССР, — у памеры 250 тыс. рублёў;

Аколавай В. В., кіраўніку грамадскага тэатра паэзіі і песні, — у памеры 100 тыс. рублёў.

АНОНС

# У чаканні "Лятучай мышы"

***1 кастрычніка распачынае свой чарговы, 31-шы сезон Дзяржаўны музычны тэатр Беларусі.***

Як мы паведамлялі, своеасаблівай уверцюрай сезона сталіся гастролі калектыву ў Магілёве. Прайшлі яны паспяхова. На сцэне Палаца культуры "Хімвалакно" былі паказаны спектаклі "Даратэя" і "Капялюш Напалеона", а таксама канцэртная праграма. Камічная опера Ц. Хрэннікава "Даратэя" адкрывае і кастрычніцкую афішу тэатра, сустрэчы з якім ужо зачакаліся яго шматлікія мінскія прыхільнікі. Дарэчы, у публікі будзе цяпер новы "аб'ект чакання": чарговая прэм'ера. Дзяржаўны музычны абяцае парадаваць новай пастаноўкай аперэты Іагана Штрауса "Лятучая мыш".

**С. ВЕТКА**



*На здымку: сезон адкрывае "Даратэя".*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# Ад тутэйшасці да нацыянальнасці

У КАТОРЫ РАЗ спроба адрадзіць беларускую нацыянальнасць у прававых межах уласнай дзяржаўнасці сутыкаецца з неспрыяльнымі акалічнасцямі. У выніку — запозненасць працэсу ў параўнанні з іншымі нацыямі. Пяць стагоддзяў нявольніцкага існавання ў цэнтры Еўропы — з'ява унікальная. Таму Беларусь, як паслядоўна безнацыянальная дзяржава, паводле С. Яновіча, уяўляе сабой адступленне ад правілаў. Існуе яна ў якасці чыста сацыяльнай структуры, абумоўленая бегам вонкавых палітычных падзей. Што датычыць нацыянальнай культуры, то яна чэзне ад моўнай нястачы, выконвае атракцыйную, відовішчную функцыю...

Канцэптуальна вострыя праблемы беларускага нацыянальнага самапазнання сёння нельга вырашаць без Янкі Купалы, паэта-прарока і знакавай постаці. На памежжы трэцяга тысячагоддзя такі новы накірунак будзе абазначаць паварот ад тых састарэлых поглядаў, якія на працягу ўсяго XX ст. інтэрпрэтавалі Купалу пераважна як аўтара пастаральнай лірыкі і не болей.

На абочыне даследчыцкіх прац застаўся Купала як філосаф-антрапалаг, гуманіст. Тэма філасофскага псіхалагізму Купалы-гуманіста штучна лічылася некамунікабельнай. Адсюль вынікае, што творчасць Купалы мы ведаем напалову, самую прасцейшую яе частку. Як філосаф новай эпохі, мысліцель-асветнік рэнесанснага складу ён яшчэ не даследаваны, за выключэннем некалькіх артыкулаў (У. Калеснік. Філасофскія погляды Я. Купалы; Я. Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн. 1986, с. 625; М. Мішчанчук. Я. Купала і традыцыі філасофскай лірыкі; Гродна. Міжнародныя купалаўскія чытанні, 1999, с. 65; Янка Купала-публіцыст. Мн. 1998, с. 62).

Неадкладная мэта ў наступным стагоддзі — ісці да Купалы за парадамі не як да бронзавага, не як да археалагічнага аб'екта, а як да жывога, дзейснага архітэктара нашай дзяржаўнасці, стратэга генія нацыянальнай мовы і духа.

Ад тутэйшасці да нацыянальнасці... Эвалюцыйная трансфармацыя ад ранняй рудзіментарнасці ў агульную больш высокага рангу — нацыянальную. Працэс гэты балючы, запознены, не завершаны, адрозніваецца ад еўрапейскіх стандартаў унутранымі і знешнімі супярэчнасцямі, а таксама геапалітычнай мапай Беларусі...

Тутэйшасць як супольнасць з найбольшым эквівалентам беларускасці — катэгорыя этна-гістарычная, біясацыяльная, мясцова-тэрытарыяльная, узнікшая між Польшчай і Расіяй, Украінай і Літвой, з'ява спецыфічна беларуская. Прыкметы тутэйшчыны: талерантнасць характару, працавітасць, павышаная філасафічнасць да містычных з'яў неба і зямлі, этнаграфічная самабытнасць, рэлігійны плюралізм, яркі моўны каларыт са звонкім "дзе" і густым "чаго" — усё гэта тыя складнікі ў падмурку, на якім фарміраваўся яе эстэтычны кодэкс, яе спецыфічны шык — ад шляхецкай альтанкі да сялянскага парогу.

Але самая найважнейшая асаблівасць тутэйшасці — яе імунна-абарончы менталітэт, прыродны і набыты. Імунны (ад лат. immunis — вольны, незалежны ад каго-небудзь, некрануты, прыроджаны. —**С. Д.**). У экстрэмальных сітуацыях мясцовы жыхар абараняўся як мог і па-ўсякаму, не раз прыбягаў да тактыкі, так бы мовіць, "дыпламатычнага дэмаршу", асабліва, калі яго жыццю пагражала смяротная небяспека. У Вялікую Айчынную, калі фашыст з настаўленым аўтаматам крычаў пагрозліва "рус" або "партызан", чалавек рэагаваў на небяспеку прыкладна так: "Не! Я не рус, не паляк, я тутэйшы, вунь, глядзіце, мая хата!".

Тутэйшасць — паняцце шматграннае, інтэгральнае, са значным запасам імуннасці, г. з. магчымасцю захоўваць гістарычную памяць народа. Так, на фоне існавання такіх стракатых найменняў, як ВКЛ, Белая Русь, Беларусь, Літва, Крывія, у свядомасці людзей заўсёды панавала ідэя тутэйшасці як найбольш папулярная, высакародная, патрыятычная, бо тады наш прашчур яшчэ цьмяна ўсведамляў сябе беларусам, а больш — чалавекам тутэйшым. Паказальна, што А. Міцкевіч з гонарам лічыў сябе тутэйшым ліцьвінам, Э. Ажэшка таксама — ліцьвінкай з Мікалаеўшчыны.

Гістарычнае значэнне назову "тутэйшы", "тутэйшасць" у грамадстве вялікае, ідзе яно з народных глыбіняў дзесяткаў пакаленняў, нават тады, калі Літва, Белая Русь, Крывія страчвалі ўласны статус. Але заставалася тутэйшасць, тутэйшы народ, па-купалаўску хоць і бездзяржаўны, безназоўны, але надзва жывучы, несмяротны.

У тутэйшасці — вытокі нашай грамадзянскасці. Бо што такое грамадзянін? Згодна класічнай канцэпцыі — гэта айчыны дастойны сын. Чэхі захавалі ў сваёй мове назву "дастойнік" як сінонім для абазначэння вышэйшай дзяржаўнай пасады. Іменна з пачуццём тутэйшай годнасці наш пясняр стварае свае лепшыя творы, вучыўся ў тутэйшасці і сурова крытыкаваў тых, хто яе разменьваў, недаацэньваў, фальсіфікаваў ("Папросту", "Беларускія сыны", "То палячок, то беларус", "трагікамедыя "Тутэйшыя" і інш.).

З высокай грамадзянскай адказнасцю Купала браўся за пяро, калі адрасоўваў чытачу свайго тутэйшага героя. Узорам можа быць партрэтна-панарамны верш "Тутэйшыя", у генетычным полі якога спалучыліся два пачаткі — паэтычны і філасофскі.

***Я не чыноўнік і не граф, не князь,***
***Таксама — я не турак і не грэк***
***І нават не паляк і не маскаль,***
***А проста я тутэйшы чалавек!***

Няма тут ідэалізацыі героя з тутэйшых, ёсць іронія спачування за страту грамадзянскага пачуцця, бо атрымаў ад продкаў вялікую і багатую Бацькаўшчыну, а як завецца гэты родны край — забыўся. Забыўся праз сваю рабскую псіхалогію.

Купала як паэт і драматург добра разумеў гістарычную псіхалогію тутэйшага беларуса, таму што пісаў не толькі праўдзіва, а ўмеў адкрываць чытачу і новы мастацкі свет пазнання і асалоды. Ён таксама даравіты мастак у стварэнні вобраза-сітуацыі (сацыяльнай, любоўнай, трагічнай, словам, на любы лад). У вершы "Адступнік" вобраз сітуацыі з раздзелу жахлівых: маці перад смерцю не магла зразумець па гаворцы, яе гэта сын прыехаў з чужыны, ці не, і балюча енкнула, бы тая птушка ка́ня: "чужаніца, чужаніца!"

Але ж — парадаксальны факт. Намінанты "тутэйшы", "тутэйшасць", як прыкметы ўласнабеларускія, не занялі належнага месца ні ў сацыялогіі, ні ў філасофіі, ні ў грамадскай думцы ўвогуле. Першымі адкрывальнікамі гэтага архіважнага пласта гістарычнай памяці былі пісьменнікі і паэты. Купала, можна сказаць, стаў сапраўдным хросным бацькам тутэйшасці ў самых розных яе праявах ("Папросту", "То палячок, то беларус", "Сярод раз'юшаных сатрапаў", "Беларускія сыны", "Раскіданае гняздо", "Тутэйшыя"). Ён зацікаўлена вырашаў адну з глабальных задач, да якой у свой час прыступаў Адам Міцкевіч, яго зямляк і літаратурны настаўнік.

Гэта ён, Міцкевіч, у сваіх парыжскіх лекцыях па славянстве звярнуў увагу еўрапейцаў на тутэйшых, на людзей з берагоў Нёмана, Прыпяці, Буга, Віліі, на калтуністага беларусіна, як ён казаў, падмацоўваючы думкі паказам літаграфіі наднёманскага беларуса з калекцыі свайго сябра з Мінска Юзафа Азямблоўскага.

Не будзе перабольшаннем, што Купала стартаваў у літаратуру з ідэяй тутэйшасці ("Мужык", 1905), вобразна выразіўшы яе так: хто я, "усе ТУТ знаюць", і нават больш — і "як есць гэты свет вялік". Сёння надзвычай важна ўсвядоміць, што ранні Купала мысліў катэгорыямі не толькі лакальнымі. Ён прама і адкрыта голасам свайго тутэйшага героя ўліваўся ў кантэкст агульнаеўрапейскі і нават сусветны.

Найбольш глыбока і маштабна з пазіцыі нацыянальнага самаўсведамлення прынцып тутэйшасці і антытутэйшасці адлюстраваны ў дзвюх п'есах Купалы — драме "Раскіданае гняздо" і трагікамедыі "Тутэйшыя", творах з відавочнымі жанравымі асаблівасцямі і ідэйнымі развязкамі. Драма — рэч сацыяльная, моцна прывязана да зямлі ў вобразе сямейнародавага дрэва, галіны якога трашчаць ад лютых вятроў, ахоўваючы праявы сваёй пладаноснасці — свабоду і Бацькаўшчыну... Трагікамедыя — рэч іншая, больш перыферыйная. Біялагічны імунна-абарончы інстынкт тутэйшых Зяблікаў неверагодна стойкі. Мы ўраслі ў гэту зямлю, як тое дрэва, вырві яго — засохне. Абарончы інстынкт праяўляўся па-рознаму, і ў пакоры, і ў жабрачых торбах, і ў веры ў суд, і ў рамантычным каханні, і ў мроях юнага скрыпача, і, нарэшце, у змаганні за Бацькаўшчыну. І хоць гняздо насельнікаў разбурана ўшчэнт, уласніку-чужынцу не ўдалося схіліць зяблікаў на бок псеўдатутэйшчыны, навязаць парабкоўства, зламаць іх нацыянальную самасвядомасць, увасобленую ва ўласны ідэал незалежнасці.

Як жа патрыятызм тутэйшых праявіўся па-за межамі сямейнага атачэння Зябліка?! Ён — у духоўнай спадчыне народа, у вобразах і характарах літаратурных герояў, такіх, як славутыя ваяры з Нямігі ("Слова аб палку Ігаравым"), як ратнікі, загончыкі М. Гусоўскага ("Песня пра зубра"), як кемлівы палясоўшчык Тарас ("Тарас на Парнасе"), як дзецюкі К. Каліноўскага ("Мужыцкая праўда"), як героі твораў Я. Купалы ("Сон на кургане", "Раскіданае гняздо") і, нарэшце, наш сучаснік тутэйшы Іван Цярэшка В. Быкава ("Альпійская балада"), перад мужнасцю якога схіліла галовы антыфашысцкая Еўропа...

Але, акрамя лабавой тактыкі абароны інтарэсаў, была тактыка іншая — уцёкі ад прымусу ўлады. Куды? У лясныя нетры, дзе ўцекачы, або "беглыя", "вольныя", абсталёўвалі ўласнае лясное жытло. Гэта — беларускія вольніцы з тапонімамі: Воля, Вялікая Воля, Малая Воля, Воля-Крупіцы (крупінка), Ціхая Воля, Добрая Воля і нават — Святая Воля (у Івацэвіцкім раёне). Тапонімаў "воля", "вулька" і вытворных ад іх "слабада" на Беларусі каля 150. У гэтым прадметным класіфікатары — аб'екты нашай гістарычнай тапаграфіі. Вольніцы Беларусі сканцэнтраваны ў дзвюх мясцінах — на Мастоўшчыне і Свіслаччыне, у нетрах Ліпічанскай і Белавежскай пушчаў. Узніклі яны даўно і альтэрнатыўна такім тэрытарыяльным вольніцам, як Ноўгарадская, Запарожская і інш. Згодна старадаўнім хронікам, тутэйшы куток, дзе рака Шчара ўпадае ў Нёман, атрымаў назву "вольны" край. Такім чынам, тутэйшасць мае трывалую гістарычную імунна-абарончую ўласцівасць, якая генетычна зроднена ў назве Белая Русь (вольная). Шкада, што тэма беларускіх вольніц, такая цікавая і перспектыўная, застаецца па-за гістарычнай навукай.

Адлегласць у часе ад "Раскіданага гнязда" (1913) да надрукавання п'есы "Тутэйшыя" (1922) — немалая. Шмат што перайначылася. Тэрыторыю Беларусі чужыя рэжымы падзялілі на дзве часткі — Усходнюю (БССР) і Заходнюю, т. з. "крэсы" ў складзе Польшчы. Змянілася тактыка ў адносінах Усходу і Захаду да Беларусі.

На парадак дня пастаўлена "беларускае пытанне". Вырашаецца яно нібыта на падставе "навуковых" даследаванняў і прац вучоных Захаду і Усходу з прыцягненнем мінскай гарадской праслойкі пераважна з інтэлігенцыі і абывацеляў тутэйшага паходжання.

Абазначана праблематыка: ці знойдзецца ў гэтым краі "настоящий белорус?" Якая мова ў людзей? Як завецца іх айчына? Сярод тыповых беларусаў у поле зроку трапіў Янка Здольнік, пра якога Заходні вучоны запісаў сабе: "Януш Здольніцкі, тып усходне-крэсавага паляка з немалой доляй крыві "пазнаньска-гуральскай". Вучоны ж Усходні занатаваў: "Иоан Здольников, тип Северо-Западной Области и безусловно с примесью монголо-финской крови"...

Як жа кваліфікавана мова? На думку Заходняга вучонага, тут родная мова — агульнапольская, вельмі ўдасканаленая, але з вялікай прымессю незразумелых слоў (безумоўна, беларускіх. — **С. Д.**). Усходнік занатаваў аналагічна: "Родной язык — общерусский" з такой жа прымессю незразумелых слоў. У выніку абодва зафіксавалі: "вопрэкі гістарыческім, географічэскім, этнофізічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всеросійскім исследованіям і трудам, — оцечэство свое белорусы почему-то называют Белоруссія".

З вышэйпрыведзеных пастулатаў вынікае, што тутэйшасць набыла хранічную хваробу беларускага грамадства (У. Конан), а псеўдатутэйшыя пераўтвараліся ў паслухмяных выканаўцаў чужых "місій", як той "ісці рускі патрыёт" Зносак.

Тутэйшасці характэрна ўнутраная неаднароднасць: колькі можа, яна самаачышчаецца, дыферэнцыруецца, з яе асяроддзя выпадаюць адшчапенцы-рэнегаты, нігілісты, прыстасаванцы.

Аднак трэба мець на ўвазе самае рацыянальнае зерне тутэйшасці. Менавіта на гэтым падмурку Купала збудаваў нацыянальную канцэпцыю Маладой Беларусі. У п'есе "Тутэйшыя" яна набыла востра палітычны накірунак і выйшла за межы ўласна беларускія, дыскусійна ўзнялася да ўзроўню агульнанацыянальнага і нават еўрапейскага.

Наколькі наша тутэйшасць актуальна для Беларусі, Польшчы і Расіі, сведчыць такі факт. У Варшаве пры другой Рэчы Паспалітай быў створаны спецыяльны сакрэтны інстытут па праблемах палітыкі нацыянальных адносін. Доследы вяліся ў Навагрудскім ваяводстве. Складзена мноства статыстычных карт, дадзены аналітычныя характарыстыкі многім сацыяльным групам насельніцтва: беларуская супольнасць падзялялася па рэлігійным прынцыпе на беларусаў-католікаў, беларусаў-праваслаўных, беларусаў-уніятаў. Асобную групу складалі беларусы "тутэйшыя". У выніку было ўстаноўлена, што ў Заходняй Беларусі адсутнічае беларуская большасць, яна проста не існуе, а ёсць "так званая беларуская меншасць".

На такой падставе польскія палітычныя ўлады прыйшлі да высновы: у Польшчы беларускага пытання не існуе. Юзаф Зарэмба — аўтар гэтага даследавання-падрыхтаваў доктарскую дысертацыю, якая мела быць надрукавана ў 1940 годзе (вайна перашкодзіла).

А як жа ўсё было на самай справе? У Пінску эмігранты з Расіі, манархісты і чарнасоценцы, у хаўрусе з уладамі Польшчы афіцыйна "даказалі" адсутнасць беларусаў. Зачыніліся беларускія школы. Манархісцкая газета "Русское слово" пампезна абвясціла, што "Пінск і Палессе — ісцінна рускі край".

Што "Тутэйшыя" Купалы валодаюць невычэрпнай магчымасцю ідэйна ўплываць на чытача, слухача, гледача, на грамадскую думку ўвогуле — факт бясспрэчны! Доказ таму — негатыўная рэакцыя купалаўскага ананімнага апанента, нейкага "беларуса" з Полацка, які заявіў, што беларускай мовы няма, што Купалу і Коласа нельга лічыць сапраўднымі пісьменнікамі. Усю вясну, лета і пачатак восені 1926 года ў грамадстве не змаўкалі спрэчкі, былі прыняты адпаведныя рэзалюцыі нават на ўрадавым узроўні. Згодна досведу А. Каўкі, апошні ліст па справе "Беларуса з Полацка" да А. Чарвякова датаваны 5 жніўня 1926 г. А ў снежні таго ж 1926 года сакрэтнай пастановай бюро ЦК КП/б/Б п'еса "Тутэйшыя" была забаронена, вернута да жыцця толькі ў 88-ым.

Матывы забароны мастацкага твора відавочны. Я. Купала па-майстэрску інтэграваў абсурднасць тутэйшасці, лакалізуючы яе ў канкрэтных вобразах. Ідэйны пафас трагікамедыі выйшаў за сцэнічныя бар'еры на прасторы шырокага грамадска-палітычнага жыцця. Як адзначае І. Лепешаў, пры іншай "палітычнай сітуацыі" п'еса магла б стаць сцягам Беларушчыны, паслужыць вялікай справе Адраджэння...

Падсумоўваючы сказанае, вызначым ключавы тэзіс: купалаўская канцэпцыя тутэйшасці — гэта новае вяртанне духу-генія на рэаліі грэшнай зямлі Беларусі.

Сяргей ДРОЗД



**ЧАСАПІС**

## "Гісторыя дзяржавы і права Беларусі..."




**Кніга В. Круталевіча і І. Юхо "Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917—1945 гг.)", выдавецтвам "Беларуская навука" выпушчана ў якасці дапаможніка, які Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь рэкамендуе студэнтам юрыдычных і гістарычных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў. Аднак, несумненна, што з ёй з цікавасцю пазнаёмяцца многія з тых, хто неабыякавы да прадмета гаворкі, тым больш, што аўтарамі з'яўляюцца людзі аўтарытэтныя і дасведчаныя. Ды і кніга В. Круталевіча і І. Юхо карыстаецца папулярнасцю, аб чым сведчыць і тое, што яна выйшла другім выданнем. Гісторыя ж дзяржавы і права, на што аўтары акцэнтуюць увагу ва "Уступе", "як навуковая і вучэбная дысцыпліна з'яўляецца юрыдычнай навукай, але разам з тым і арганічнай часткай агульнай гісторыі народа, яго культуры. Без грунтоўнага ведання гісторыі дзяржаўных структур улады і разумення дзеяння ўсяго дзяржаўнага механізму нельга кіраваць дзяржаўным апаратам і забяспечыць падрыхтоўку свядомых будаўнікоў свабоднага грамадства. Гістарычны аналіз заканадаўства неабходны як для правільнага ўсведамлення дзеючых норм права (гістарычнае тлумачэнне закона), так і для крытычнай ацэнкі застарэлых догм". Тым больш з'яўленне гэтай кнігі важна, калі ўлічыць, што "ўсе славянскія народы ўжо даўно маюць распрацаваныя гісторыі сваіх дзяржаў і права". Для беларусаў жа магчымасць напісаць такую гісторыю з'явілася нядаўна, пасля прыняцця 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Значыць, узнікла магчымасць вывучаць і даследаваць гісторыю дзяржавы і нацыянальнага права ва ўсёй іх паўнаце, пазбаўляючыся ідэалагічных догм, выпраўляючы скажэнні і фальсіфікацыі, якія рабіліся ў савецкі перыяд. У прыватнасці, настойліва замоўчваліся падзеі, звязаныя з абвяшчэннем у 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Адвольна трактаваліся і працэсы, што адбываліся ў перыяд таталітарызму, калі ўсё зводзілася да неабходнасці весці рашучую і бескампрамісную барацьбу супраць класавых ворагаў, у тым ліку і кулацтва, а пад гэтае вызначэнне, як вядома, часта падпадалі і звычайныя сяляне, якія, у адрозненне ад іншых, умелі гаспадарыць на зямлі. Нягледзячы на невялікі аб'ём (амаль 12 улікова-выдавецкіх аркушаў) кніга "Гісторыя дзяржавы і права Беларусі..." насычана матэрыялам, аб'яднаным у адзінаццаць глаў. А пачынаецца гаворка главой "Расійская рэвалюцыя 1917 г. і нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне Беларусі". Адразу відавочна, што В. Круталевіч і І. Юхо па-свойму ставяцца да вызначэння таго, што адбылося восенню 1917 года. Яны адмаўляюцца ад паняцця, якое існавала яшчэ гадоў дзесяць назад, калі выступленне супраць самадзяржаўя называлася Вялікай кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, але яны не прымаюць і вызначэння Кастрычніцкі пераварот, прытрымліваючыся думкі, што тое, што прывяло да з'яўлення новага сацыяльнага ладу, падпадае пад вызначэнне рэвалюцыя. Аб змесце наступных глаў гавораць іх назвы "Літоўска-Беларуская Савецкая Рэспубліка", "Нацыянальна-адраджэнскі рух у новых умовах", "Аднаўленне Беларускай Савецкай Рэспублікі", "Рыжскі мірны дагавор" і г.д. Што да падзей, звязаных з утварэннем БНР, дык яны аналізуюцца ў першай главе, у чацвёртым параграфе "Акупацыя Германіяй Беларусі. Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі". І як працяг гэтай гаворкі — глава "Беларуская палітычная эміграцыя ў новых умовах", што складаецца з двух параграфаў — "Спроба кансалідацыі сіл" і "Роспуск урада БНР". Аўтары прыходзяць да высновы, што "нацыянальная ідэя, якую горача прапаведавала беларуская інтэлігенцыя, — адраджэнне нацыянальнай культуры, стварэнне незалежнай дзяржавы — па розных прычынах не здолела заручыцца падтрымкай магутных грамадскіх сіл. Апеляцыя да слаба развітой нацыянальнай самасвядомасці беларусаў не мела сур'ёзнага поспеху". Больш таго, "палітычны рух, які ставіў на мэце стварэнне беларускай дзяржаўнасці па заходнім узоры, не быў унутрана адзіным ні арганізацыйна, ні ідэйна". І іншыя падзеі, звязаныя са станаўленнем беларускай дзяржавы і права адпаведнага перыяду асэнсоўваюцца аўтарамі ўсебакова і аб'ектыўна, а завяршаюць яны сваю гаворку тым, як БССР стала адной з заснавальніц Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

**КРЫТЫКА**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Трэба жыць!

У апошні час усё часцей і досыць пераканаўча прадказваецца адміранне "традыцыйнай", "класічнай" літаратуры, якая, на жаль, у сілу розных прычын, ужо не можа заставацца, як у мінулыя часы, натуральна-адмысловым сінтэзатарам усіх відаў мастацтва (згадаем Лаакаона), спавядальна-адлюстравальнай сістэмай матэрыяльна-духоўнай бытнасці людства. Першыя прыкметы будучага крызісу заўважыў на пераломе стагоддзяў Л. Талстой, які ўжо ў тыя гады прапаноўваў ствараць "новую літаратуру". Яшчэ больш адкрыта і пафасна заявіў пра непазбежнасць зменаў А. Адамовіч, паслядоўна і непахісна заклікаючы ствараць "звышлітаратуру", калі "звычайная" не можа выконваць свае адвечныя функцыі. (Згадаем, што найбольш радыкальныя філосафы наогул адмаўлялі літаратуры ў праве на існаванне пасля Хірасімы.) І асабліва гэта тычыцца тых сфераў мастацкага слова, якія непасрэдна звязаны з найбольш значнымі агульнанацыянальнымі і агульнаграмадскімі трагедыямі. Бо доўгія цыклы і серыі аб'ёмных кніг, у якіх бясконца вар'іруюцца і ілюструюцца даўно вядомыя ісціны, бясследна знікаюць жывыя памкненні і страсці, схематызуюцца рэальныя вобразы і характары, не набліжаюць да спасціжэння трагедыі, яе прычынна-выніковай сістэмнасці, у рэшце рэшт да адэкватнага спасціжэння рэчаіснасці. Відаць, таму спрацоўваюць глыбінныя ўнутраныя законы, і побач з эпапеямі тыпу "Векапомныя дні" (прыкладаў можна прывесці мноства) з'яўляецца унікальная кніга ўспамінаў "Ніколі не забудзем", што знаменавала сабой выключныя выяўленчыя мажлівасці новай формы і перспектывы яе далейшай эвалюцыі. Ды і сам аўтар адметнай партызанскай дылогіі праз пэўны час адмаўляецца ісці звыклым шляхам далейшай эпізацыі нацыянальнай трагедыі (г. зн. услед за Талстым!), а разам са сваімі аднадумцамі, у спадчыне якіх выдатныя навелы, раманы, эсэістыка, "ідзе ў народ", сустваракючы сапраўды народную кнігу крыві і болю "Я з вогненнай вёскі". Поспех дадзенага кірунку эвалюцыі спасціжэння лёсавызначальных трагедый затым пацвердзіць "Блакадная кніга", творы С. Алексіевіч, што знаменавалі сабой канчатковы разрыў з традыцыямі нуднага апісальніцтва і псеўдамемуарыстыкі, якую А. Адамовіч называў "яздой з кінутымі лейцамі".

Нешта падобнае адбылося ў айчыннай літаратуры і з асэнсаваннем чарнобыльскай трагедыі, якая, як і папярэдняя, ваенная, падзяліла беларускі гістарычны час на "да" і "пасля". У поўнай згодзе з класічнымі нацыянальнымі эстэтычнымі і сацыяльнымі традыцыямі, крыху адразу разгубіўшыся, бо, магчыма, ужо былі страчаны звыклыя арыенціры, а новыя яшчэ не выстаўлены, ці, наадварот, ужо адсцяжаны (у сэнсе — адзначаная чырвонымі сцяжкамі мера дазволенага), беларускае прыгожае пісьменства пачало са звыклага лірычна-ўсхваляванага наступу, што значна ўзмацняўся гнеўнымі публіцыстычнмі тырадамі. А затым, калі падышла цяжкая артылерыя-проза, усё стала на традыцыйныя, як некалі раней ваенныя, рэйкі. Той жа самы кантраст мірнай стваральнай працы і катастрофа, ціхія досвіткі і рэха штучных грымотаў, тыя ж нечаканасць і разгубленасць, гераізм і подласць, кар'ерызм і самаахвярнасць. шчодрае цытаванне прароцтваў Яна Багаслова, чарговае абыгрыванне сімволікі злой зоркі, горкага Палыну, атручаных водаў. Ці не таму на амаль суцэльным "аднакалёрным слаі сапраўднымі глыбамі" (М. Багдановіч) паўстаюць алеагрычныя "Львы" І. Пташнікава, "Бляха" А. Федарэнкі, пранікнёна-пякучыя казкі-прытчы таленавітага В. Казько — тыя выключэнні, якія пацвярджаюць класічнае правіла.

Згаданы экскурс у параўнальна нядаўнюю гісторыю неабходны для таго, каб сцвердзіць заканамернасць з'яўлення кнігі і Анатоля Бароўскага "Белы бусел — чорны цень": аповед пра энергетыкаў-ліквідатараў", якую і варта разглядаць амбівалентна — з аднаго боку, як працяг плённай нацыянальнай традыцыі, і, з другога, як адметны, мастакоўскі твор са сваёй арыгінальнай канцэпцыяй і яе дасканалым увасабленнем, што дазволіла яму адразу заняць сваё належнае месца ў грамадскім і літаратурным жыцці. Сам аўтар вядомы як цікавы пісьменнік, схільны ў апошні час да алегарычна-містычнага ўспрымання рэчаіснасці, вопытны журналіст, які аб'ехаў усе мястэчкі і вёсачкі Палесся (карані яго на Мазыршчыне, дзе ён зберагае матчыну хату). З першых дзён аварыі працаваў у Хойніцкай раёнцы (ад "Чырвонай змены"), жыў па сутнасці ў зоне, а таму спазнаў яе не наездамі, а так, як усе палешукі, уласным здароўем, што дапамагло яму не толькі ўбачыць катастрофу, але і адчуць яе на самых разнастайных узроўнях, і тым самым зразумець, што ахапіць яе, спасцігнуць памеры і ўплыў на ўсе бакі жыцця нацыі немажліва аднаму, нават самаму геніяльнаму творцу. Можа, таму згадалася, як у свой час вайну імкнуліся паказаць вачыма салдата, жанчыны, дзяцей і г.д. Адпаведная падсветка дапамагае ўбачыць выразна новае і разам з тым значна асвятліць усю карціну. Мажліва, аўтарская задума паказаць лёс ліквідатараў-энергетыкаў здасца на першы погляд прыватнай. Але не трэба забывацца, што Чарнобыльская станцыя, няхай і атамная, але перш за ўсё — электрычная, прызначэнне якой даваць электрычнасць, а таму яна звязана з сусветам "проводов голубыми пальцами", як спявалася ў песенцы. Якраз гэтая журналісцкая знаходка дазваляе А. Бароўскаму злучыць зону з Масквою, Мінскам, Гомелем, канкрэтным раёнам, як у панарамным ваенным рамане спалучыць стаўку (канкрэтнае міністэрства) з акопам (г. зн., убачыць звычайных рабацяг РЭС, што едуць у "пылацмоках" (адкрытых машынах) і не могуць зразумець, чаму так ёлка ў роцэ, як, не раўнуючы, пташнікаўскім сабакам (хаця Бог яго ведае, чыя доля лепшая). Якраз такім чынам удаецца аўтару паказаць двурушнасць вышэйшага чынавенства, іх панічны страх і разгубленасць — "прыязджалі ў адзенні, каб потым яго выкінуць на дарозе. Нават не абедалі ў Хойніках і Брагіне". Іншыя дык і не ехалі далей Гомеля, як старшыня галіновага прафсаюза Семічатаў, які з паўгадзіны знаходжання ў абласным цэнтры нават шклянку вады не выпіў, нічога не вырашыў і кінуўся назад у аэрапорт. Страх паралізаваў улады (невыпадкова ПУС (пункт санітарнай апрацоўкі тэхнікі), на якім страцілі сваё здароўе энергетыкі, кінуліся размяшчаць у балоце, куды і машыны падчас дажджу не дабяруцца — "места выбрали генералы з верталёта"), нараджаў жорсткасць і нянавісць: палкоўнік Сашка адмовіўся разбіваць лагер у месцы, дзе каля тысячы мілірэнтгенаў у гадзіну, пашкадаваў хлопчыкаў-салдатаў — генералы яго разжалавалі, выключылі з партыі, ледзь не аддалі пад суд.

Ці не адсюль горкія прызнанні — пустую работу выконвалі: "За Савічамі стаяў полк з Урала. Якія збудаванні паставілі. І сталоўку зрабілі. І пакоі адпачынку, і склады, і медпункт... Паехалі вайскоўцы, а туды больш нікога не засялялі — больш чым 40 кюры гуляла ў паветры! Сёння ўсё разбурана і разрабавана..."

Толькі паступова людзі пачалі ўсведамляць, што іх патрыятычны парыў, грамадзянскі подзвіг "ацэньваўся партыяй, урадам і грамадствам не па законах і параметрах маральнага кодэксу будаўніка камунізму, які замяніў па ўказанні бальшавікоў Біблію, не па чалавечых законах духоўнасці і сумлення, а толькі па адной шкале — шкале агульнай абыякавасці і бяздушнасці".

У апошні час крытыкі і філосафы ўсё часцей гавораць аб смерці аўтара ў мастацкім творы. Надзвычай па-майстэрску "зрабіў" гэта А. Бароўскі ў згаданай кнізе. Нібыта таленавіты рэжысёр, што памірае ў акцёры, ён, па сутнасці, раствараецца ў сваіх героях і духоўнай энергетыцы твора. Непасрэдна аўтар з'яўляецца толькі на пачатку кожнага раздзела, які пачынаецца адметным вершам А. Бароўскага (добры паэт, адзначым), што становіцца своеасаблівым камертонам, які вызначае адпаведную танальнасць аповеду. Праўда, эпіграфам да ўсёй кнігі становіцца ўсё ж такі верш галоўнага інжынера вытворчага аб'яднання "Гомельэнерга" Івана Пруса "Трэба жыць". Удалося яму знайсці адпаведныя словы, каб перадаць выказаны ў ім адчай і надзею:

***О, Радзіма! Калі ж за Нароўляй ці Веткай***
***Ў зоне мёртвай на ўзмежку сустрэну лася,***
***Ці здзічэлую кошку, ці зыркую кветку,***
***Што нуклідамі-промнямі свеціцца ўся:***
***І ці яблыкі ўбачу ў пакінутым садзе, —***
***То на вейках ад гора сляза задрыжыць,***
***І прагорклы камяк недзе ў горле засядзе...***
***Сэрца шэпча —***
***І ў гэтым нуклідавым чадзе***
***Трэба выжыць нам...***
***Жыць трэба! Жыць! Будзем жыць!..***

Зачараванне смерцю — менавіта такая небяспека пільнуе таго, хто так часта сустракаецца з самымі разнастайнымі яе праявамі. Невыпадкова А. Глобус папракаў С. Алексіевіч у некрафіліі — так яму здалося пасля аналізу адметных твораў пісьменніцы, якая, на яго погляд, "з'яўляецца лідэрам у карыстанні з беларускіх трагедыяў і жахаў і паймела славу й грошы з другой сусветнай вай-

# У люстэрку дакументаў

***Беларуска-германскія культурныя і гістарычныя сувязі ў міжваенны перыяд знайшлі ў рэшце рэшт сваё адлюстраванне ў новым нямецкамоўным выданні "Беларусь і Германія: Духоўныя і культурныя сувязі паміж 1914 і 1941". (Т. І. Бібліяграфія. Кёльн; Веймар; Вена; Бёлаў, 2000. — 319 с.), аўтарам якога з'яўляецца Уладзімір Сакалоўскі. Сваю шматгадовую пошукавую працу ў бібліятэчных і архіўных фондах Беларусі, Германіі, Літвы, Латвіі і Расіі навуковец праводзіў з мэтай выяўлення апублікаваных матэрыялаў і адлюстравання ў іх шырокага спектра духоўных і культурных сувязяў двух народаў, краін, культур: Беларусі і Германіі.***

Нашы двухбаковыя стасункі У. Сакалоўскі спрабуе аналізаваць на прыкладзе фармавання ўзаемавыгадных беларуска-германскіх інтарэсаў, што можна было лічыць падставай для будучага навуковага даследу духоўных і культурных сувязей, аднак не ў вузкім сэнсе, пад якім можна разглядаць толькі простае апісанне асобных двухбаковых падзей і кантактаў, а наадварот, у шырокім, што азначае выяўленне ўнутранай і знешняй эвалюцыі ўзаемаадносін, адпаведнасці іх еўрапейскім культурным і цывілізацыйным патрабаванням, характару духоўных працэсаў і інш.

У рэцэнзуемым томе сабраны, бібліяграфічна апрацаваны і тэматычна скампанаваны больш за 3750 тэкставых адзінак, якія аўтар разглядае ў якасці грунтоўнага падмурка для высвятлення ўсіх бакоў гісторыі беларуска-германскіх узаемаадносін на працягу 27 гадоў (з 1914 па 1941 год). У сваім уступным слове, адзначае даследчык, што амаль кожная падзея духоўнага, палітычнага ці эканамічнага жыцця несла на сабе своеасаблівы адбітак геапалітычнага становішча Беларусі, яе адносін з суседнімі краінамі, перш за ўсё, Літвой, Польшчай, Расіяй. Беларуска-германскія сувязі набудуць канкрэтны выгляд, калі звярнуць увагу на асобныя этапы: мірныя перамовы ў Брэст-Літоўску, падпісанне пагаднення ў Рызе, выкананне пакта Молатава-Рыбентропа і інш. Сярод найбольш выразных падзей У. Сакалоўскі вылучае двухбаковыя ўзаемаадносіны, якія мелі месца другой паловы 1920-х гадоў паміж савецкай Беларуссю і Веймарскай рэспублікай.

З выданнем першага тома ў ФРГ пачалося знаёмства шырокай грамадскасці, у першую чаргу навукоўцаў, з канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў розных публікацыях і без якіх сёння практычна нельга праводзіць сур'ёзныя навуковыя даследаванні па акрэсленай праблематыцы. Датычыцца гэта і беларускіх навукоўцаў, паколькі яны больш за ўсіх адчуваюць вострую патрэбу ў падобных работах, у якіх адлюстраваны розныя погляды, кіруюцца іншымі падыходамі, прытрымліваюцца супрацьлеглых канцэпцый і г.д.

Можна пагадзіцца альбо аспрэчваць аўтарскі падыход пры даследаванні беларуска-германскіх узаемаадносін на працягу такога значнага гістарычнага перыяду, які акаляе час ад першай да другой сусветных войнаў, аднак, бясспрэчна, што ён мае свае абгрунтаванні. Архітэктоніка работы ўтрымлівае ўступ, нулявы раздзел і чатыры часткі.

У прадмове аўтар згадвае ступень залежнасці ад гістарычных абставін і магчымасці адлюстравання тых падзей у друку, асобных артыкулах, спецыяльных выданнях і г.д. У пошуку адказаў на прынцыповыя пытанні У. Сакалоўскі прапануе звяртацца да дакументаў, якія сабраны ў 65 выданнях нулявога раздзела. У ім жа прыведзены пералік аж 74 розных даведачна-інфарматыўных матэрыялаў, у тым ліку: энцыклапедый, слоўнікаў, даведнікаў і інш.

Пошук першых момантаў гістарычна-культурных узаемаадносін аўтар пачынае са старажытных часоў, але ў адпаведнасці з узроўнем адлюстравання духоўнай спадчы-

ны, з выбуху ў Чарнобылі, ...з самагубстваў". Несумненна, такая пагроза існавала і для А. Бароўскага, што і пацвярджаюць поўныя смутку і роспачы адпаведныя старонкі. Але вера ў Бога ("Малітва за Беларусь"), у моц народа, у сілу чалавека прымушаюць яго паверыць у Жыццё. Улюбёным аўтарскім вобразам, які даволі часта выконвае яго функцыі, становіцца тагачасны генеральны дырэктар "Гомельэнерга" Пятро Сіліч, адметная, каларытная Асоба. Яго споведзь аб сваёй долі, характарыстыка іншымі людзьмі — гэта, па сутнасці, маленькі раман аб лёсе выдатнага чалавека, а, разам з тым, і цэлага пакалення беларусаў, знявечанага вайной, нішчымніцай, абставінамі, але, нягледзячы ні на што, не пераможанага. Гэты магутны знешне і духоўна чалавек добра адчувае сваю чалавечую і прафесійную годнасць, ён сапраўдны лідэр у любых абставінах, а таму клапоціцца не столькі пра сябе, колькі пра тых, хто вымушаны ўласным здароўем выпраўляць чужыя памылкі. Вось чаму ён кідае гнеўныя словы ў самазадаволеныя цынічныя твары ўдзельнікаў першага з'езда энергетыкаў у Маскве, якія хацелі апладысментамі сагнаць яго з трыбуны. Узняўшы магутны голас, пільна гледзячы ў залу, ён сказаў: "Вы не адчуваеце болю беларусаў. Вас бы хоць на гадзіну-дзве ў зону, не працаваць, а пастаяць у тым радыяцыйным лесе ці полі, куды энергетыкі цягнуць новыя лініі... Я веру, што пасля гэтага кожны б з вас стаў на калені перад тымі людзьмі, што кладуць там сваё здароўе і жыццё. Ужо шмат энергетыкаў больш не выйдуць у поле, бо іх сёння няма ў жывых. Яны і за вас аддалі сваё жыццё..." Такое мог сказаць не чыноўнік, а чалавек гэтай зямлі, які крэўна знітаваны са сваім родным і пратэстуе супраць сітуацыі, калі "парывалася духоўная і кроўная сувязь, чалавек слабее, і бацькі не маюць магчымасці прыйсці на дапамогу ні пры жыцці, ні потым, як стануць нябожчыкамі, — не могуць аддаць ім сваю энергію і моц..." Невыпадкова ён верыць, што ягоная маці нават пасля смерці аберагала свайго сыночка.

Была ў Пятра Сіліча мара — праз пэўны час, калі ўжо будзе на пенсіі, смела хадзіць з унукамі па росных лугах Палесся, лавіць у Сожы і Прыпяці рыбу, ладзіць смачную юшку. Але, відаць, і сам не верыў у гэта. Бо за 10 гадоў пасля аварыі з 12 ліквідатараў толькі з Хойніцкіх РЭС памерла 5. Ці не таму ўжо ў той час ён імкнуўся зрабіць на кожным прадпрыемстве галіны мармуровыя дошкі, на якіх хацеў золатам выпісаць імёны людзей, што цаной свайго жыцця выратавалі свет. Кніга А. Бароўскага ў пэўнай ступені і з'яўляецца своеасаблівай мемарыяльнай дошкай, на якой, хай і не золатам, надрукаваны прозвішчы амаль усіх энергетыкаў — удзельнікаў ліквідацыі катастрофы на ЧАЭС у 1986—1987 гадах. Асобна вылучаны пенсіянеры, нябожчыкі. Але за гэты час многае змянілася, і тыя спісы патрэбна ўдакладняць, бо і сам Пятро Сяргеевіч Сіліч, магутны марскі старшына, што ніколі да аварыі не хварэў, нават грыпам, ляжыць цяпер пад гранітнай плітой на велізарных Рандоўскіх могілках у Гомелі, якія так хутка і шчодра запаўняюцца:

*Жывём мы ўсе пад чорным землятрусам.*
*Ці зможам гэта ўсе мы перажыць?..*
*Тут нават чорны бусел пад прымусам,*
*Як мой народ, распнуты на крыжы.*

Трагедыя Чарнобыля ўспрымаецца аўтарам у кантэксце ўсіх выпрабаванняў, што трапілі на долю народа ў XX ст. — "зрніце пільна ў вочы беларусу, у іх — і боль, таемны страх, адчай". Невыпадкова згаданы вышэй Іван Прус свае ўспаміны называе "Я вязнем быў усё жыццё", бо яго немаўлём везлі немцы са знішчанай вёсачкі пад Рудабелкай у зону — фашысцкі лагер смерці "Азарычы", а затым усё паўтарылася:

*С детства до старости*
*в жизни черно было:*
*Узник фашизма,*
*и узник Чернобыля...*
*А посредине, —*
*в зрелые лета, —*
*Партии узник*
*и узник Советов...*
*Если и было светло —*
*в промежутках...*
*Родина, Родина!..*
*Горько. И — жутко.*

Яшчэ больш страшна гаворыць пра сваю долю Яўген Ліпаў: "Забіваць мяне пачалі яшчэ пад сэрцам маці, потым Гітлер, потым Сталін... Усё жыццё я насіў таўро "ворага народа"... Сёння нашу таўро "вязня Чарнобыля"... І ніякай рэабілітацыі тут ужо не будзе. Тое мы будзем насіць у сабе да свайго скону..."

У свой час даследчык трагічнага ў роднай літаратуры В. Жыбуль папракаў калег, што практычна ніхто не змог прааналізаваць "Я з вогненнай вёскі". Усе спыняліся на імператыве — гэтую кнігу нельга чытаць. А як чытаць гісторыю братоў Журбоў — Валерыя і Янкі, маладых, здаровых хлопцаў, якія, вярнуўшыся адтуль, пакрыліся струпамі і язвамі, ад болю лезлі на сцяну. І як не зразумець гора іх маці, што з сякерай кінулася на самазадаволенага ваенкома, які адправіў сыноў у пекла і не даў грошай на пахаванне аднаго з іх. Або пра долю Аляксандра Шэндзера, слесара Гомельскай ЦЭЦ-2, які добра памятае, як там, пад рэактарам, кружыліся галовы, драпала ў горле і падкошваліся пад канец працоўнага дня ногі, бо цяпер, пасля аперацыі, у яго горле трубка, з-за якой цяжка гаварыць. Праўда, у яго медыцынскай карце ў графе "прычына інваліднасці" напісана "захворванне звязана з аварыяй на ЧАЭС", Іншыя ж, што працавалі без засцярогі, без спецыяльнай формы, або памерлі, так і не стаўшы ліквідатарамі (медыкі ім іншую хваробу прыпісалі: аднаму — сэрца, другому — нервознасць, трэцяму — алкаголь), або так і не атрымалі пасведчанні ліквідатараў, нягледзячы на тое, што стукаліся ў самыя высокія інстанцыі. Ніхто і нідзе і не хацеў, і не пачуў іх голасу, не знайшлі яны праўды на гэтым свеце. Невыпадкова і нарадзіўся анекдот, што на забруджанай тэрыторыі кешкаюцца не людзі, а беларусы. Але як бы ні цяжка і страшна было чытаць падобныя творы, гэта неабходна. (Як прымаць хіну тым, хто падчапіў злавесны вірус, інакш загінеш.) Не пытай, па кім звіняць званы. І трагедыя "Курска", на якім былі і беларусы, таму яскравае пацвярджэнне. А кніга А. Бароўскага ўжо робіць сваю справу. Яна вярнулася туды, адкуль прыйшла, — у народ, разыйшлася па зоне і "чыстых" мясцінах. Сведчу, што яе чытаюць нават там, дзе раней "адны календары чыталі" (Я. Баршчэўскі). Яна заняла сваё месца поруч з кнігамі А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка, С. Алексіевіч, Д. Граніна, а таму цалкам заслугоўвае права на цяпер ужо афіцыйнае прызнанне, якім і з'яўляецца Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь.

**Іван ШТЭЙНЕР,**
**доктар філалагічных навук,**
**загадчык кафедры беларускай**
**літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны**

ны Беларусі ў нямецкай бібліяграфіі, ён вылучае ў ёй тры перыяды, якія ахопліваюць, падзеі ад старажытных часоў да 1800; на працягу ўсяго XIX і на пачатку XX стагоддзя; у прамежку ад 1919 да 1941 года. У. Сакалоўскі разглядае шырока адлюстраваныя ў дакументах і друку падзеі, якія групуе па тэмах: **народ, рэлігія, навука, геаграфія, гістарычная і палітычная навукі, літаратура, мова, мастацтва, школьная адукацыя, выдавецкая і бібліятэчная справа, музеі, архівы.** Аўтар сабраў тут 1746 публікацый самага рознага паходжання.

Другая частка работы ўключае матэрыялы, якія дазваляюць даведацца, адпаведна:, аб гісторыі (584 бібліяграфічныя крыніцы), палітыцы (454) і эканоміцы (95 публікацый). Яны адлюстроўваюць падзеі і факты, што маюць дачыненне да першай сусветнай вайны, акупацыі, ваеннага кіравання, Беларускай народнай рэспублікі, Беларускай савецкай рэспублікі (1919—1920), міжваеннага часу (1920—1938), пакта Рыбентропа-Молатава, нападу Германіі на БССР; да агульных прынцыпаў нямецкай палітыкі, нямецкай палітыкі ў дачыненні да Беларусі, савецкай (беларускай) палітыкі ў дачыненні да Германіі, германска-савецкіх сувязей і Беларусі, партый і арганізацый, грамадскіх асоб, мірных перамоў і дамоўленасцяў, нацыянальнай палітыкі, рэпрэсій; да сельскай і лясной гаспадаркі, прамысловасці, гандлю, фінансаў і статыстыкі.

Трэцюю частку У. Сакалоўскі вылучыў у якасці дадатку, дзе прадстаўлены, з аднаго боку, матэрыялы аб адлюстраванні беларускіх падзей у люстэрку нямецкай перыёдыкі і нямецкамоўных выданнях у Беларусі, а з другога, наадварот, адлюстраванне Германіі ў беларускім друку і ў беларускамоўных выданнях у Германіі.

Заключную частку ўяўляюць сабой розныя дадаткі, спіс скарачэнняў, аўтарскі і асабовы ўказальнікі.

Такім чынам, знаёмства са зборам дакументаў і публікацый, якія апрацаваў Уладзімір Сакалоўскі ў сваім бібліяграфічным выданні, дае аргументаваную падставу для заключэння аб асобай вартасці рэцэнзуемай работы. У чытача ствараецца яскравае і шматграннае ўяўленне аб культурных, гістарычных, палітычных і эканамічных сувязях Беларусі і Германіі з 1914 па 1941 год. Дзякуючы новай распрацоўцы мы можам дакладна ўявіць тую гістарычную прастору, на якой мелі месца самыя розныя, у тым ліку, супярэчлівыя падзеі. Аднак па задумцы аўтара, гэта — пачатак вялікай працы ў рамках нямецкай праграмы фундаментальных даследаванняў. У якасці яе падаўжэння навуковец плануе выданне яшчэ двух асобных тамоў: адзін з іх прысвяціць збору дакументаў і матэрыялаў аб беларуска-германскіх сувязях у той жа гістарычны перыяд, а другі, заключны, навуковаму аналізу як дакументальных крыніц, так і гісторыі культуры Беларусі ў міжваенны час.

**Сяргей НОВІКАЎ,**
**загадчык кафедры гісторыі**
**і беларусазнаўства Мінскага**
**дзяржаўнага лінгвістычнага**
**універсітэта**

ВІНШУЕМ!

# Без мітусні

## Анатолю МАЙСЕЕНКУ — 60

Прозвішча Анатоля Майсеенкі па-сапраўднаму запыніла маю ўвагу ўпершыню ў 1998 годзе, на самым пачатку яго, калі па пошце атрымаў студзеньскі зборнік "Бібліятэкі часопіса "Маладосць", а ім была кніга Анатоля Фядосавіча "Паклон". Перш чым пазнаёміцца з творамі, апублікаванымі ў ёй, запыніў увагу на невялікім уступе, якім, бадай, заўсёды адкрываецца "Бібліятэка..." Гэтым разам напісаным Казімірам Камейшам. З яго і даведаўся, што А. Майсеенка "ў літаратурным асяроддзі знаны як вучоны, крытык ды выкладчык Універсітэта культуры".



Падумалася, а ці не той гэта А. Майсеенка, які яшчэ ў 1978 годзе выдаў кнігу "Станаўленне таленту. Творчасць Міхася Зарэцкага". Узяў з паліцы патрэбны том біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі". І сапраўды А. Майсеенка-паэт і А. Майсеенка-даследчык — адна і тая ж асоба. Прыгадалася, што кніга А. Майсеенкі пра М. Зарэцкага ў свой час па-добраму ўразіла. І багаццем фактычнага матэрыялу, і глыбінёй яго асэнсавання, і смеласцю аўтарскіх абагульненняў. Тады, пры першым знаёмстве, адчувалася, што за ўсім гэтым грамадзянская пазіцыя аўтара.

Сёння гэта адчуваецца тым больш. Асабліва, калі прыняць пад увагу тагачасныя палітычныя, ідэалагічныя рэаліі. За вывучэнне творчасці М. Зарэцкага А. Майсеенка ўзяўся ў канцы 60-х гадоў, калі вучыўся ў аспірантуры Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Хрушчоўская адліга паспела ўступіць месца брэжнеўскім замаразкам. Нават некаторыя вядомыя даследчыкі лёгка змянілі свае творчыя арыенціры. Калі яшчэ нядаўна адкрывалі сучаснаму чытачу імёны тых, хто незаконна быў рэпрэсіраваны, аб'яўлены "ворагам народа", цяпер лічылі лепшае пісаць нешта накшталт таго, як вобраз У. І. Леніна ў літаратуры ці працаваць над тэмамі больш агульнымі.

Анатоль Майсеенка пісаў не пра тое, што "патрэбна", а пра тое, да чаго ляжала душа. А гэта была творчасць М. Зарэцкага — аднаго з самых цікавых беларускіх пісьменнікаў, чый талент яркай знічкай прамільгнуў на небасхіле нацыянальнай літаратуры. Творчасць, на той час чытачу невядомая, бо вяртанне яе з небыцця пачнецца значна пазней: аднатомнік выбраных апавяданняў М. Зарэцкага "Пачатак шчасця" пабачыць свет у серыі "Бібліятэка беларускай прозы", якую пачало выпускаць выдавецтва "Беларусь", а пасля прадоўжыла "Мастацкая літаратура", у 1975 годзе.

Кніга А. Майсеенкі была выдадзена, як бачым, праз тры гады пасля "Пачатку шчасця". Але ж у аснову пакладзена кандыдацкая дысертацыя А. Майсеенкі, а кандыдатам філалагічных навук ён стаў яшчэ ў 1971 годзе. Ішоў нятораным шляхам. Крочыў па ім смела, упэўнена. Па баках не азіраўся, а толькі наперад глядзеў. А наперадзе адкрывалася заманлівая перспектыва выкладчыцкай дзейнасці, даследчыцкай працы. За плячыма меў толькі трыццаць адзін год. Акрамя вучобы ў аспірантуры, была вучоба ў тым жа педагагічным інстытуце, праца настаўнікам, завучам, дырэктарам школы. І далейшы лёс звязаў з альма-матэр, а пасля перайшоў у Беларускі інстытут культры, цяперашні універсітэт...

Даследчыцкія набыткі А. Майсеенкі не толькі манаграфія пра М. Зарэцкага. Ён часта выступаў (і выступае) у перыёдыцы з артыкуламі і рэцэнзіямі, прысвечанымі сучаснаму літаратурнаму працэсу, аналізуе новыя кнігі і часопісныя публікацыі. З'яўляецца аўтарам метадычных дапаможнікаў, праграм для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па беларускай літаратуры. І сааўтарам "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры. 1917—1940".

А "дух паэзіі, — як сведчыць К. Камейша, — доўгі час жыў у яго сэрцы, чакаў свайго выйсця, нейкага, магчыма, успыху. Дый сам час запатрабаваў аднойчы такога, дый сам аўтар адчуў, што ў душы яго" "...Пытанняў болей, чым адказаў, які б цяпер не ўзяў акорд". Калі ж адчуў і пераканаўся, што не пісаць вершы не можа, і ўзяўся і за пяро. Так і нарадзілася кніга "Паклон".

Яна ў Анатоля Фядосавіча пакуль адзіная. Адзіная, што паспела прыйсці да чытача. Наступная... Наступная чакае гэтай сустрэчы з чытачом. І хацелася б, каб адбылося гэта як мага хутчэй, бо А. Майсеенку ёсць што сказаць. Ён глыбока вынасіў у сэрцы і душы свае думкі, якія ляглі на паперу. Так было і тады, калі пісаўся зборнік "Паклон", за радкамі якога — роздум нашага сучасніка, які нямала пабачыў на сваім жыццёвым шляху, паспеў разабрацца ў каштоўнасцях сапраўдных і ілюзорных, і здолеў адпрэчыць тое, што было выпадковым, наносным. Гэтая пераацэнка яму, як і кожнаму, далася нялёгка. Але яна стала і тым азонам, які дапамагае лепш дыхаць. Ды азон, калі яго ўдыхаць шмат, можа і нашкодзіць арганізму. Усяму неабходна мера. І ва ўсім яна павінна быць.

Пачуццё меры — тое пачуццё, пра якое паэт ніколі не забывае. І пра гэта сведчаць не толькі вершы, а і паэма "Мітынг на аўтобусным прыпынку". Паэма вострапублістычная і надзіва актуальная, але без перахлёстаў. Кожнае слова ўзважана, выверана. А самае галоўнае — узважана думка. Адчуваеш і разумееш паэтаў непакой у наш час, калі многае разбурана, але не пад усім новым трывалася жыццёвая аснова. Але адчуваеш і іншае, тое, што ў большай ступені гучыць у яго вершах: жыць на Беларусі і не любіць Беларусь — нельга. Прадстаўніком якой бы нацыянальнасці ты ні з'яўляўся. Але, зразумела, у большай ступені гэта тычыцца саміх беларусаў.

Верш, які даў назву кнізе паэзіі А. Майсеенкі — з тых, якія называюцца праграмнымі. І невыпадкова ім адкрываецца зборнік, бо "Паклон" яшчэ і свайго роду эпіграф. Эпіграф жыццёвы, творчы самога А. Майсеенкі. У ім выразнасць грамадзянскай пазіцыі, у ім — набалелае, трывожнае. Але ў ім і тое ўнутрана-аптымістычнае, што выступае вонкі праз набалелае, трывожнае. І, нягледзячы на ўсё, дапамагае выстаяць, выжыць. Жыць насуперак усяму:

*Мне часта подласць пела ноту злую,*
*Штурхала ў прорву, кідала на мель...*
*Я аб адным, я аб адным шкадую,*
*Што ў нас даўно закрэслена дуэль.*

*Усё, усё на гэтым свеце хістка,*
*Часовыя і радасць, і журба,*
*І дзьмухавец, і мармур абеліска —*
*Ды вечная пра шчасце варажба.*

*Я славіць гэты край не перастану, —*
*Ён і мяне з каленяў уздымаў.*
*Мне не забыць, што некалі не ўстану,*
*Ўпаду ва ўладу нашых дрэў і траў.*

*А боль і горыч вып'ю ўсё ж да донца,*
*Каб пасвятлеў мой любы дзіўны свет.*
*Паклон бясконцы*
*роднаму ваконцу,*
*З якога мама мне глядзела ўслед!*

"Я мітусіцца не люблю" — прызнаецца Анатоль Фядосавіч у адным са сваіх вершаў. Не мітусіцца ён ні ў жыцці, ні ў літаратуры. А гэта пацвярджэнне таму, што ён ведае сабе цану.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Мікола КАЗАЧОНАК



# КОНІК

АМАЛЬ КАЗАЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

— Нельга так моцна баяцца.. Нельга так моцна баяццца.., — і не разумеў, чаму хістаюцца сцены стайні і адкуль падаюць, завісаючы на поўсці нежывой жарабіцы, гарачыя кроплі. Аўгік не любіў плакаць, і тое, што капала з яго вочак, апякала твар і рабіла няпэўным зрок. Ён адчуў на сваіх вуснах дотык халаднаватай пыскі. Гэта жарабятка адорвала Аўгіка сваім пацалункам.

— Тата, тут конік! — выгукнуў хлопчык.

— Божа... — вымавіў ужо трохі сівавусы Корша, і вусны яго ссівелі зусім...

•

— Суседскія хутары прыйдуць да тваёй стайні з полымем, — шамкала двухзубая вядзьмарка Цэська. Валасы яе не трымаліся пад хусткай, а вушы падчас вымаўлення слоў перабягалі з патыліцы на падбароддзе.

— Мой час — бы скрыня, у якой заўсёды не знаходзіцца месца для самае патрэбнае рэчы, — адказваў зусім сівавусы Корша. — Аўгік — гаспадар, выхавацель ды і выхаванец Коніка.

— Аўгік стаў юнаком, а... — наступнае слова так моцна закруцілiся вакол двух зубоў вядзьмаркі Цэські, што ёй давялося скарыстаць сталёвы язык, каб расшчапіць сківаць. — Конік павінен цягнуць плуг і калёсы. На тваю сядзібу больш не ступяць суседскія коні, якіх ты пазычаеш. — І валасы яе скруціліся мышыным хвастом.

Зусім сівыя вусы абвіслі мокрым ручніком на плоце. Вусны Коршы варушыліся пад імі, але ў вуснах панавала бязгучнасць.

— Люцыпараў дар набыты навальнічнай ноччу, — перагаляла Цэська вушы з падбароддзя на патыліцу, — чорныя крылы — на сполах людзям.

— Конік колеру снегавой завеі, — ускінуліся зусім сівыя вусы.

— Чорныя скрыдлы! — І вушы загрузлі на падбароддзі.

Конік тым часам вольна забаўляўся з шалёнай рэчкай. Шалёная рэчка не любіла Коніка. Не толькі Коніка. Рэчка ўвогуле была пазбаўлена любові. Злосныя хвалі шалёнай рэчкі ашчэрвалі свае пукатыя дробныя зубкі, стомленыя жаданнем грызануць Коніка за капыток. Конік узмахваў сваімі чорнымі скрыдламі і пералятаў на другі бераг шалёнай рэчкі. Злосныя хвалі здурэлым натоўпам кідаліся следам за Конікам, пакідаючы гэты бераг. Аўгік жа, пакуль шалёная рэчка ганялася за Конікам, выкрадаў з яе рыбу.

Конік не лічыў гады свайго лёсу, яны яго ніколі не пакідалі, яны прараслі карункавымі пёрамі ў яго грыве.

— Яшчэ пройдзе колькі часу і ты зусім станеш птушкаю, — весела выгукваў Аўгік.

Конік узмахваў скрыдламі, станавіўся папярэдзе Аўгіка ды біў капытком у зямлю, як гэта робяць звычайныя добрыя коні.

— Я люблю цябе, Конік.

Конік атуляў сваім чорным крылом Аўгіка і дакранаўся да яго халаднаватай пыскай.

Гаварыць Конік не ўмеў, за гэта яго любіла цішыня. Яна ўладкоўвалася ў ягоных скрыдлах, і калі Конік лётаў, чутно не было. Далячынь гуляла з Конікам у даганялкі. Яна падскоквала ўвысь, але Конік даганяў яе, дакранаўся лёганька капытком, альбо сцёбаў бязгучна шматвалосым хвастом і — уцякаў. Тады далячынь кідалася следам за Конікам. Вецер не быў настолькі хуткім, як Конік, таму часам крыўдзіўся і сердаваў.

Зімою сапраўднай сяброўкай Коніка была завея. Яны былі аднаго колеру, доўга разам лёталі над снегавымі абшарамі, і толькі чорныя скрыдлы вылучаліся ў завейнай прыгажосці.

— Вось. Загавораны шчарбаты серп, — вушы перабеглі з падбароддзя на патыліцу, — пад ім чорныя скрыдлы лягуць на зямлю, як снапы.

Ляснулі двойчы адзіныя два зубы. Зусім сівыя вусы ўстапырыліся, але двухзубая вядзьмарка Цэська толькі кінула на іх зморшчаны погляд, які адарваўся ад яе злыбедных вок. Вусны зусім сівавусага Коршы сціснуліся ў нязгодзе, ды ён зразумеў, што размова скончана назаўсёды. Дробненька затрымцела прысутнае неба, і ўчэпістае сонца адарвалася ад паслухмянага небасхілу, крутанулася ды правалілася скрозь зямлю.

Заўтрашні дзень быў нерухомым. Ёнператоптваўся з нагі на нагу, і ягоныя рухі завіслі ў бясконцасці. Вецер адчуў сябе знямоглым і не кратаўся з месца. Далячынь услухоўвалася ў прадчуванні, толькі цішыня няспешна ўздрыгвала ў чорных скрыдлах Коніка, калі да яе далятаді порсткія ўдары молата з кузні. Конік чакаў, пакуль Аўгік скончыць працу ў кузні і з ім можна будзе пайсці забаўляцца да шалёнай рэчкі. Прабегла ніадкуль цьмяная цень, ушчамілася ў плоце, рванулася і, зламаўшы штыкеціну, павалілася недарэчнаю плямаю. З яе выйшаў зусім сівавусы Корша са шчарбатым сярпом у руцэ. Ва ўчэпістага сонца, якое ўбачыла Коршу з сярпом, забалелі вочы і яно змучана адвярнулася. Конік ветліва заківаў зусім сівавусаму Коршу, але той, ідучы па паветры, бо зямля адштурхоўвала яго ад сябе, угледаўся толькі ў чорныя скрыдлы Коніка. Корша зрабіў два пэўныя рухі. Раскрышыўся загавораны шчарбаты серп, і два чорныя скрыдлы ляглі на зямлю, як снапы. Заенчыла, дробна рассыпаўшыся, цішыня, разбілася, упаўшы на зямлю, далячынь, надрыўна выбухнуў вецер. З недасяжнасці імчала да Коніка завея. Натыкнулася на змардаваныя сонечныя праменні і, стаўшыся белым туманам, разаслалася вакол кузні. Аўгік выпусціў молат, паваліўся на агонь горна. Агонь мітусліва збег, бо ён мог спаліць усё, апрача гора ды бяды. Коніка ж абступіў, ахінуў, засланіў сабою ад усяго магутны, вялікі боль. І Конік не бачыў, як гінулі тыя, каго ён любіў. Не бачыў, як зусім сівавусы Корша яшчэ два дні хадзіў па паветры (бо зямля адштурхвала яго), але і паветра не згадзілася трымаць Коршу і толькі злосныя хвалі шалёнай рэчкі жудасна ўзрадаваліся, прымаючы Коршу ў свае пукатыя дробныя зубы. Не бачыў Конік і таго, як агонь не спаліў Аўгіка, але паслія чаго Аўгік вельмі надоўга захварэў. Не бачыў Конік, як агідна смяяліся адзіныя два зубы вядзьмаркі Цэські.

Той год быў пазбаўлены цішыні, надарваны вецер кульгаў, а зіма была без завеі. Толькі вясною разам з паводкай да стайні падпаўзлі злосныя хвалі шалёнай рэчкі.

— Ш-ш-шхі-хі... ш... хі... — здзекліва бурчэлі яны на Коніка. Конік, якога да таго часу пакінуў вялікі, магутны боль, не звяртаў на іх увагі. Конік чакаў Аўгіка. Аўгік прыйшоў толькі на пачатку лета і быў ён зусім сівавалосы.

Аўгік з Конікам падышлі да кузні, дзе, як снапы, на зямлі ляжалі чорныя скрыдлы. Пазбаўленыя цішыні скрыдлы пазвоньвалі сталёвым звонам, калі каля іх маркотна кульгаў-сваволіў надарваны вецер.

— Я выкую табе такія ж, — хрыпла шапнуў Аўгік, — і яны будуць тваімі. Цябе злучыць з новымі скрыдламі мая любоў і цеплыня майго сэрца, якія я ўкладу ў новыя скрыдлы.

Колькі праімчала хуткаплыннага часу, ні Конік, ні Аўгік не ведалі. Гады больш не прараслі карункавымі пёрамі ў грыве Коніка. Аўгік жа лічыў час па выкаваных пёрках скрыдлаў, якія ён рабіў для Коніка. Пёркі атрымліваліся такія ж, як і на адрэзаных шчарбатым сярпом чорных скрыдлах. Пазвоньвалі такім жа сталёвым звонам.

Аўгік каваў Коніку скрыдлы, а Конік працаваў на ўсіх суседскіх хутарах. Быў ён дужы і разумны, ім не трэба было кіраваць, Конік усё рабіў сам.

Аднойчы хуткаплынны час спыніўся, здзіўлена ўглядаючыся на новыя скрыдлы. Яны былі дакладна такія ж і пазвоньвалі такім жа сталёвым звонам, як і адрэзаныя шчарбатым сярпом. Толькі колер іх быў не чорны, а срэбны. Аўгік прыладзіў новыя скрыдлы Коніку. У гэтыя скрыдлы было ўкладзена столькі любові, цеплыні сэрца, што яны злучыліся з Конікам і ажылі. Конік распраставў срэбнага колеру скрыдлы, узмахнуў імі адзін, другі раз, ступіў колькі крокаў наперад і застыў на месцы. Распасцёртыя, срэбнага колеру крылы звесіліся амаль да самай зямлі. У Коніка не ставала сілы для ўзлёту. Ён растраціў яе, працуючы на суседскіх хутарах. А яшчэ Конік зразумеў: хоць срэбнага колеру скрыдлы і былі жывыя, ды ўсё ж яны былі несапраўдныя. Чорныя скрыдлы, з якімі нарадзіла Коніка навальнічнай ноччу чорная жарабіца, самі ўздымалі яго, несучы наўздагон далечы...

Конік уткнуўся халаднаватай пыскай у плячо зусім сівавалосага Аўгіка і не разумеў, адкуль скочваюцца гарачыя кроплі, апякаючы пысу і робячы няпэўным зрок. Конік плакаў ўпершыню.

Алесь БАБАЕД

# ВЕТРАНЫ ДЗЕНЬ



АПАВЯДАННЕ

кватэры на прахожых і па іх хадзе згадвала — цёпла ці холадна на вуліцы. Потым яна ўявіла гулкую пустэчу сваёй кватэры і спалохалася непазбежнасці вяртацца туды.

На рагу чырванатварыя кабеты прадавалі кветкі. Яна вельмі любіла кветкі, асабліва ружы, і знячэўку падумала пра тое, як холадна ім на гэтым ветры.

Завішчэўшы тармазамі, спыніўся аўтобус. Жанчына ўвайшла апошняй, прапусціўшы ўсіх нецярплівых і нахабных. Вольных месцаў не было, але нейкі салдацік ускочыў, уступіўшы сваё месца. Шоргат шынаў зліваўся з галасамі ў салоне ў назойлівы гул. Аўтобус разагнаўся па роўнай дарозе, яго ледзь-ледзь пакалыхвала. Часам сусед незнарок кранаўся плячамі жанчыны, але яна гэтага не заўважала.

Злёгку абмякшы ў цяпле, яна дыхала шчыльным ад дыхання многіх людзей паветрам, абыякава глядзела на вуліцу. Позірк яе ні за што не чапляўся. Уздоўж дарогі тлелі кучкі асенніх лісцяў, дымок над імі вецер ірваў на шматкі. У аўтобус пранікаў не толькі пах дыму. Часам угадваўся пах прэлых лісцяў — апошні пах цеплаватай яшчэ перад зімнім сном зямлі.

Жанчына ехала доўга. Ёй было ні цёпла, ні холадна. Нават кудысьці адышла самота. Яна не ведала, на якім прыпынку сыдзе: на другім, трэцім, ці пятым. А, мажліва, будзе ехаць і ехаць.

Аўтобус нырнуў у гулкі тунель і, скрыгатнуўшы тармазамі, спыніўся. Нехта выйшаў, нехта зайшоў. Жанчына ўбачыла, як у аўтобус увайшла маладая мама, ведучы за сабой тоўсценькага, ну проста кругленькага, туга запакаванага ў палітончык хлапчука з цікаўнымі, ледзь вільготнымі ад ветру вачанятамі. На выгляд яму было гадкі тры.

Увайшоўшы ў аўтобус, мама левай рукой ухапілася за вертыкальны поручань, і жанчыне са свайго месца было бачна, як за той жа поручань учапіліся ручаняты сына. Адчувалася, малы прывык ужо да таго, што існуюць яны з маці на розных "паверхах": маці — на верхнім, ён — на ніжнім.

Хлопчык маўчаў. Усё адно недзе там, наверсе, схаваная за разгорнутай кнігай, маці не пачуе яго слоў. Яго моцна гайдала, стаяць яму было цяжкавата. Жанчына некалькі разоў пазірала ўверх на "дзелавую маму", але бачыла толькі шэрую вокладку з белымі літарамі: Жорж Сіменон.

Малому нялёгка было ўтрымацца пры рэзкіх рыўках і на паваротах, і жанчына падала яму маўклівы знак: маўляў, сядай на маё месца. Той адмоўна матлянуў галавой. Ехалі нейкі час цішком, разглядваючы адзін аднаго. На прыпынку жанчына зірнула ў акно — на цёмным каналізацыйным люку грэўся калматы сабака. Малы, заўважыўшы яго, прыліп носам да шкла. Азіраўся на сабаку, пакуль аўтобус не звярнуў на мост. Жанчына ўбачыла, што палітончык у малога зашпілены крышку наўскасяк. Яе рука хуценька расшпіліла гузікі і паспрабавала зашпіліць правільна, але малы незалежна адхіліўся і зашпіліўся сам.

Яны зноўку доўга глядзелі адзін на аднаго. Маўклівая згода, што ўзнікла між імі, кранала, напэўна, і пасажыраў, некаторыя з іх перапынілі размову, а хтосьці з усмешкай, хтосьці задуменна пазіраў на пажылую жанчыну і яе малога змоўшчыка.

Аўтобус рэзка затармазіў. Мама, так і не заўважыўшы нічога, не адводзячы вачэй ад кнігі, пайшла да выхаду, пацягнуўшы за сабой сына. Палітончык замінаў яму, але хлопчык азірнуўся раз і другі, нібы шкадуючы, што расстаецца з гэтай дзіўнай і, напэўна, добрай цёткай. У свае тры гады яму было проста дзяліць людзей на добрых і злых. Жанчына зрабіла рукой "да пабачэння" — крадком, каб ніхто не заўважыў. І малы, раптам пачырванеўшы, таксама зрабіў ёй пальчыкам левай рукі "да пабачэння".

Аўтобус узбіраўся ўсё вышэй і вышэй да моста цераз Старынку. Сонечныя зайчыкі жвава скакалі на хвалях. Па абодвух берагах ракі залаціліся дрэвы, па-асенняму сумныя, задуменныя. І жанчына раптам засмуцілася ад таго, што не заўважыла, як у прастрэле хмар вынырнула сонейка. Падумала, што некалі з ёй ужо было адчуванне лёгкай журбы, таму што прагледзела міг змены надвор'я, і зноўку здзівілася гэтаму дзіўнаму адчуванню паўтарэння жыцця. Твар жанчыны пасвятлеў. Яна неяк адразу стамілася ад таго, што так вакол усё добра. З цікавасцю пачала глядзець на пасажыраў. Адны з іх размаўлялі, другія смяяліся, адна жанчына плакала. А каля дзвярэй хлапчук-школьнік, скарыстаўшыся тым, што аўтобус моцна гайдаецца, абняў сваю спадарожніцу. А вунь там, за далёкім сінім небакраем, жанчына заўважыла белыя, амаль казачныя дамы, дзе няма ні ветру, ні тугі. Яна ўсміхнулася і падышла да дзвярэй — наступны прыпынак быў ейны.

*г. п. Бешанковічы*

# ЧАСАПІС

## "Гукі і фарбы"

**На працягу двух месяцаў у філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь, у "Гасцёўні Уладзіслава Галубка", што знаходзіцца ў Траецкім прадмесці, экспанавалася выстава "Гукі і фарбы" Наталлі Капшай. Яна — студэнтка III курса**



**Акадэміі музыкі, а маляванне — яе захапленне.**

**Нарадзілася Наталля ў сям'і таленавітых людзей. Бацька — мастак, маці — педагог-музыкант. Дзяўчынка расла ў атачэнні карцін і музыкі, таму невыпадкова ў Наталлі выдатна спалучаюцца два віды мастацтва. Сваё захапленне музыкай яна паспрабавала перанесці на палатно. Карціны Наталлі праменяцца цеплынёй, дабрынёй, моцнай любоўю да сваёй Бацькаўшчыны. Наталля адорана божай іскрай. Яе чулая, тонкая, паэтычная душа бачыць прыгажосць нават у звычайным. Тое, што іншыя могуць не заўважыць у простай палявой красы, Наталля абавязкова прыкмеціць і перанясе на палатно. Выстава карысталася поспехам. Наведаў выставу і пакінуў свой водгук вядомы мастак Эдуард Агуновіч. Ён напісаў: "Даражэнькая Наталля Уладзіміраўна! Узрушаны, што ты знайшла сябе і ў жывапісе. З задавальненнем успрымаў "Дарогу ў даль", нацюрморты з кавунамі і кветкамі. Асабістага творчага шчасця і здароўя!". Сваё захапленне работамі Наталлі выказалі замежныя наведвальнікі. Запісы ў кнізе водгукаў сведчаць, што наведвальнікі выставы развітваюцца з Наталляй не надоўга і з нецярплівасцю будуць чакаць новых твораў.**

**І напрыканцы хочацца ўсіх запрасіць на выставу Айшы Александровіч "Беларусь шматгалосая: нацыянальны вобраз у сцэнічным аўтарскім касцюме", прысвечаную 25-годдзю творчай дзейнасці мастачкі. Выстава адкрыецца 5 кастрычніка.**

**Л. КАМАРОЎСКАЯ,**
**загадчыца Гасцёўні У. Галубка**

## Мастак валодае словам

**Гомельскі мастак Генадзь Говар вядомы і як паэт. Ён аўтар зборніка вершаў "Мае абпаленыя крылы". Неўзабаве павінен пабачыць свет і другі. Таму і не дзіўна, што на выставе ягоных твораў "Рысы эпохі", што вандруе па вобласці, у Мазыры гучала і паэтычнае слова. Разам з мастаком у горад на Прыпяці прыехалі сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Ткачоў, паэты Юры Фатнеў і Алег Ананьеў. Свае вершы прачыталі і мясцовыя аўтары — Галіна Дашкевіч, Васіль Андрыеўскі, Віктар Рабінін і Рыта Круглякова.**

**Мазыране ж, што наведалі выставачную залу, высока ацанілі і творы мастака, і вершы ягоных сяброў. А цёплыя словы ім за свята, што падаравалі яны аматарам мастацтва і літаратуры, сказалі загадчык аддзела культуры гарвыканкама Ф. Галюк і загадчыца выставачнай залы І. Васількова.**

**Васіль БАРХАНАЎ**

ТВОРЦА

# Нямею перад яе красою

***У беларускім выяўленчым мастацтве важкія пазіцыі займае Гомельская школа жывапісу. У вобласці працуе шмат майстроў пэндзля, для якіх родная зямля з'яўляецца невычэрпнай крыніцай натхнення і якія славяць родную палескую зямлю. Сёння яны працягваюць традыцыі такіх выдатных майстроў-землякоў як А. Маісеенка, Г. Ніскі, М. Тарасікаў, Б. Звінагродскі, В. Казачэнка, В. Цвірка, Г. Вашчанка, А. Шаўчэнка. Сярод пераемнікаў традыцый і жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, гамяльчанін Мікалай Казакевіч, серыя пейзажаў якога "Краявіды Беларусі" вылучана на Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь.***

**— Мікалай Канстанцінавіч, вы прызнаны, вядомы майстар жывапісу ў Беларусі. Першы поспех вам прынесла гераічная карціна "У тыле ворага" пра мужнасць беларускіх партызан, якая экспанавалася ў 1965 годзе на Усесаюзнай мастацкай выставе "На варце міру" ў Маскве". Вам належыць і цыкл лірычных жанравых палотнаў "Юнацтва", "Над роднымі прасторамі", "Лета", "Абуджэнне" і іншыя, у якіх героі арганічна знітаваны з нашай маляўнічай прыродай. Але ж большая частка вашай творчасці, асабліва ў апошні час, прысвечана пейзажу, як асобнаму жанру...**

— Ведаеце, нават у палотнах, якія вы назвалі, пейзаж выконвае ледзь не галоўную ролю. Паказаць духоўны стан чалавека праз настрой у прыродзе — адна з тых задач, якія я стаўлю перад сабой. Вядома, што настрой краявіда бывае розны: аскетычны, сумны, вясёлы, мажорны. Галоўнае, каб ён быў сугучны ўнутраным хваляванням чалавека. І каб атрымаўся змястоўны пейзаж, мала спісаць яго проста з натуры. Трэба ўмець назіраць і вывучаць прыроду. Гэтаму яшчэ ў Беларускім дзяржаўным тэатрально-мастацкім інстытуце вучыў мяне народны мастак Беларусі Віталь Цвірка.

**— На апошняй вашай выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі ў экспазіцыі прысутнічалі палотны і 60-х гадоў. У сувязі з гэтым цікава прасачыць, як мяняўся з цягам часу мастак Мікола Казакевіч, яго творчы почырк.**

— Гэтыя палотны я напісаў адразу пасля заканчэння інстытута. Яны зроблены хлёстка, пастозна, амаль адкрытымі фарбамі. То быў цікавы час. У грамадстве адчуваўся культурны ўздым. Памятаю, як у інстытуце з'явіліся маладыя педагогі Стальмашонак,

УРАЖАННЕ

# "Травіята" з французскага канала

Нядаўна Беларускае тэлебачанне пачало трансліраваць праграмы Міжнароднага французскага канала. Праект гэты грандыёзны, дарагі і вельмі карысны тым, што далучае нашага гледача да лепшых дасягненняў сусветнай культуры. Цяжка пераацаніць важнасць асветніцкай місіі праграм гэтага канала ўвогуле, яна бяспрэчная. Але я дазволю сабе падзяліцца эмоцыямі і пачуццямі ад прагляду адной нядаўняй праграмы.

У анонсе тэлепрадач БТ убачыла: опера "Травіята" ў пастаноўцы тэатра "Ла Скала" (Міжнародны французскі канал). Як у гераіні крылоўскай байкі, у мяне "от радости в зобу дыханье сперло". Вось гэта з'ява, вось гэта падарунак меламанам! Проста царскі! Чакала з нецярплівасцю пачатку гэтай праграмы, папярэдзіла ўсіх сваіх калег-музыкантаў, каб не прамінулі.

Але расчараванне прыйшло адразу, як толькі добра знаёмы голас В. Аксянцюка пачаў агучваць цітры. Разанула, што сусветна знакаміты дырыжор Зубін Мета ператварыўся ў Зубіна Мейру (добра яшчэ, што не ў Мойру), хаця на экране дакладна чыталася — Metha. Тут перакладчык С. Севярын, мякка кажучы, сеў у лужыну, хаця мог бы і пракансультавацца на ўсялякі выпадак у знаўцаў! А цітры ж уперамежку з рэкламай паўтараліся праз кожныя 10-15 хвілін, каб, барані Бог, гледачу не надакучыла музыка Вердзі і ён не забыўся, што глядзіць. І "Зубін Мейра" штораз гучала, як аплявуха. І нарэшце — і нарэшце раз: у адзін момант яна гэтак нахабна ўклінілася ў дзею, што экіпаж, у якім Альфрэд спяшаўся да Віялеты, быў спынены на поўным скаку: кадр застапарылі, і аркестр не паспеў нават дайграць да канца музычную фразу.

Да таго ж, адразу адкрылася, што прапанаванае нам — зусім не пастаноўка вердзіеўскай "Травіяты" тэатрам "Ла Скала", а тэлеверсія знакамітай оперы, знятая на італьянскім тэлебачанні пры ўдзеле аж 125 краін свету. Нішто сабе! Дык чаму ж у анонсе зроблена такая істотная памылка?

Як гаварыў у такіх выпадках Жванецкі, — "Тщательней надо, ребята, тщательней!"

Ну, добра, чарговы раз пераканалася ў прафесійнай няслушнасці сваіх шаноўных калег з тэлебачання, але што ж прапанаваў гледачам сам фільм?

Першыя ж хвіліны выклікалі, як гэта кажуць, "складаныя" пачуцці. Невядомыя і малавыразныя выканаўцы, Этэры Гвазава (Віялета) — статычная круглатварая, зацяснутая перад тэлекамерай; Жазэ Кура (Альфрэд Жэрмон) — статуарны, буйна кучаравы (ну проста "асоба каўказскай нацыянальнасці!"), з абсалютна бясстрасным тварам і адсутнасцю акцёрскіх здольнасцяў; Раланд Панераі (Жорж Жэрмон) — напружаны, ходзіць і спявае ўвесь час з вырачанымі вачамі, быццам яго задача — абавязкова прыдушыць па чарзе спачатку Віялету, а потым свайго ўласнага сыночка, спявае неахайна, раз-пораз прыкметна разыходзіцца з аркестрам. І гэта ў тэлеверсіі, дзе фанаграмы можна адшліфаваць да бляску! І гэта ў такой пампезнай, разрэкламаванай праграме!

Усё ў гэтым фільме падпарадкоўвалася, на жаль, не музыцы Вердзі, а волі рэжысёра (Андрэа Андэрман). "На ўліку" кожны рух, кожны позірк, кожны жэст, кожны план. Усе працуюць, як аўтаматы, і ўсё наскрозь фальшыва, як густыя брыльянты на грудзях Віялеты. Мяне дык зусім не ўражвала ідэя прасторавых дэкарацый, паміж якімі воль-

СВЯТЫ

# "Гліняны звон" над Гайнай

Перазовамі гліняных званоў сустрэў старажытны Лагойск удзельнікаў трэцяга абласнога свята ганчароў "Гліняны звон". З'ехаліся сюды майстры керамікі з усіх куткоў Міншчыны: з Івянца і Барысава, Стоўбцаў і Капыля, Салігорска і Любані. Прыехалі сябе паказаць і пазнаёміцца з дасягненнямі гаспадароў свята. Іх цікавасць не выпадковая, бо Лагойск — адзін з цэнтраў ганчарства на Беларусі. Ужо шырока вядома дынастыя лагойскіх майстроў на чале са старэйшым ганчаром Сямёнам Саўрыцкім. Далучыў ён да творчасці дачку і сына, зяця і ўнучку. Увогуле кола прыхільнікаў ганчарнага промыслу на Лагойшчыне пашыраецца за кошт моладзі. Пяцьдзесят дзяцей займаецца зараз керамікай у мясцовым Доме рамёстваў. Сведчаннем зацікаўленасці лагайчан у развіцці ганчарства было і адкрыццё ў горадзе падчас свята ганчарнай майстэрні.

Цэнтрам святочных падзей стаў гарадскі парк, дзе разгарнула гандлёвыя рады рамёсная слабада. Тут можна было набыць вырабы майстроў, што прыехалі на свята. А самі майстры тым часам спаборнічалі за атрыманне звання лаўрэата ў розных намінацыях. Аўтарытэтнае журы на чале са старшынёй Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўгенам Сахутам вырашыла складаную справу — назвала пераможцаў. Лепшы ганчарны посуд "накруціў" на ганчарным крузе Анатоль Высоцкі з Івянца, а Дзяніс Гром з вёскі Крупіца зрабіў лепшую гліняную цацку. Адзначыла журы і якасць пластыкі ў працах Мікалая Пратасені — кіраўніка салігорскай студыі керамікі "Скарбонка". Лепшая хатняя калекцыя была, безумоўна, у лагайчаніна Сямёна Саўрыцкага. Узнагароду атрымаў і сямейны калектыў з Салігорска Аляксандра Кірычыка і яго сына Юрыя. Удалым быў і творчы дэбют ганчара з Івянца Аляксандра Карпава...

Завяршыўся чарговы агляд творчага майстэрства ганчароў. Яго поспеху спрыяла даскаsuccessfully арганізацыя свята. Пастараліся дзеля гэтага ўпраўленне культуры Мінскага аблвыканкама, абласны цэнтр народнай творчасці і Лагойскі райвыканкам.

Адгучаў "Гліняны звон" у Лагойску. А эстафета свята перададзена Радашковічам, дзе праз два гады зноў збяруцца ганчары Міншчыны.

**Яўген КАЗЮЛЯ**





*"Гліняны звон" кліча майстроў*



*Пераможца конкурсу ў намінацыі "Ганчарны посуд" Анатоль ВЫСОЦКІ з Івянца*



*Работы майстроў ацэньвае журы*
*Фота аўтара*

## Мілагучнасць шчырага радка

МІКОЛУ БУСЬКО — 60



Заўтра, 30 верасня, паэт, публіцыст і мастак Мікола Бусько адзначае сваё 60-годдзе. Родам Мікалай Іосіфавіч з вёскі Пагарэлка Карэліцкага раёна. Пасля заканчэння Турэцкай сярэдняй школы служыў у арміі. У 1962 годзе скончыў Баранавіцкі тэхнікум лёгкай прамысловасці, а ў 1967-м — выяўленчы факультэт Маскоўскага завочнага народнага універсітэта мастацтваў. Працаваў рабочым на лесагандлёвай базе, афарміцелем у Доме афіцэраў, на мясакамбінаце. З 1976 года М. Бусько — афарміцель аўтобуснага парка ў Баранавічах. Першыя вершы апублікаваў у 1970 годзе ў раённым друку, а першую кнігу паэзіі "У Нёмна на плячах" выдаў у 1986-м. М. Бусько таксама з'яўляецца аўтарам зборніка вершаў "Сузор'е Шаляў" і кнігі для дзяцей "Шасцікрылец Хмарагон", друкаваўся ў калектыўных зборніках. Паэзія яго светлая, аптымістычная, значнае месца ў ёй займае любоў да родных мясцін, па-свойму апявае паэт прыроду. Дзіцячыя ж творы М. Бусько — спалучэнне займальнасці з глыбокім псіхалагізмам. Апошнім часам М. Бусько выступае ў друку (найперш на старонках часопіса "Беларуская думка") з публіцыстычнымі артыкуламі і нарысамі.

Віншуем Мікалая Іосіфавіча з 60-годдзем! Жадаем далейшага творчага плёну!

## Брава дзяўчаты!

Паспяхова выступілі нядаўна ў Італіі ў Балоньі на Міжнародным конкурсе "Рафаэле Калачэ" студэнткі Беларускай акадэміі музыкі Кацярына Пракопчык і Алена Дзікавіцкая /мандаліна/ .Кацярыне прысуджана першая прэмія і Гран-пры "Мандаліна" Калачэ". Алена ўдастоена другой прэміі. У поспеху студэнтак вялікая заслуга іх педагога, дацэнта акадэміі музыкі Мікалая Марэцкага.

Пётр ГАРДЗІЕНКА

## "Маладосць", N 6

Паэзія прадстаўлена вершамі І.Поўх, А.Кавалеўскага, Т.Мельчанкі, В.Зуёнка, С.Гавенкі, С.Валодзькі, А.Стрыгалёва. Змешчаны апавяданне К.Аксёнавай "Тыдзень кахання". мініяцюры, запісы К.Камейшы "Паміж кубкам і вуснамі", пачатак "інтымнай хронікі часоў міжвер"я" Г.Багданавай "Паляванне на Любоў". Пра сваіх землякоў-драгічынцаў А.Крэйдзіч расказвае ў нарысе "Пад небам завершскім". У.Міхно ("Ад званка да званка") закранае надзённыя пытанні выхавання падрастаючага пакалення. "Прызванне і абавязак журналіста" — развагі С.Дубовіка. Л.Далідовіч ("Эпік, або Урокі класіка") перачытвае творчасць Кузьмы Чорнага, з дня нараджэння якога споўнілася 100 гадоў. Т.Мушынская ("Мастака ангажыруе час") прамаўляе слова пра А.Дударава ў сувязі з яго 50-годдзем. А.Марціновіч ("Боль, спасцігнуты сэрцам") рэцэнзуе кнігу прозы В.Куксы "І верыла ў цуд...", а Н.Дзенісенка ("Паэтычны дэбют Ларысы Раманавай") дзеліцца ўражаннямі ад "Аддай асалоду Богу" Л.Раманавай. На завяршэнне нумара вершаваныя гумарэскі М.Вяршыніна. А.Карлюкевіч ("Колер светаадчування Нікі Віткоўскай") расказвае пра адну з маладых беларускіх мастачак.

## "ЛіМ"-ФОТА

Анатоль ВЯРЦІНСКІ:

*Ветрана, ветрана...*
*Ветрана з самага ранку.*
*Ветрана з ранішняй*
*і да вячэрняй зары.*
*Вецер кранае струну,*
*вецер ірве фіранку,*
*вецер шукае ахвяр,*
*вецер прыносіць дары.*
*Ветрана, ветрана...*



Фота Г. ЖЫНКОВА

## ПЕРАКЛАДЫ

Сяргей ЯСЕНІН

### Чорны чалавек

*Дружа, дружа,*
*Я вельмі а вельмі хворы.*
*Каб я ведаў,*
*Адкуль пранізаў гэты боль.*
*Ці то вецер гудзе*
*На пустым*
*і бязлюдным прасторы,*
*Ці, як гай вераснёвы,*
*Страсае мазгі алкаголь.*

*Галава мая, быццам бы птушка,*
*Вушамі махае,*
*Ёй на шыі нагі*
*Сіл не стала маячыць наўсторч.*
*Чорны чалавек,*
*Чорны, чорны,*
*Чорны чалавек*
*На ложа маё сядае,*
*Чорны чалавек*
*Спаць замінае ўсю ноч.*

*Чорны чалавек*
*Пальцам тыкае ў кнігу,*
*Надакучна гугнявячы,*
*Быццам над мёртвым манах,*
*Мне чытае жыццё*
*Якогасьці падлюкі і забулдыгі,*
*На душу наганяючы смутак і жах.*
*Чорны чалавек,*
*Чорны, чорны!*

*"Чуеш, чуеш, —*
*Мармыча ён мне, —*
*Кніга многа змяшчае*
*І думак і планаў.*
*Бытаваў чалавек гэты*
*Ў старане*
*Самых агідных*
*Грамілі і буянаў.*

*Снег там — белы да д'ябла, —*
*У снежні іскрыць,*
*І завеі, як прасніцы,*
*Круцяцца шпарка.*
*Быў чалавек той авантурыст*
*Самай высокай,*
*Найлепшай маркі.*

*Быў ён зграбнюткі,*
*Паэт да таго,*
*Хоць з невялікай,*
*Ды ўчэпістай сілаю,*
*І кабету якуюсьці —*
*Аж за сорак год! —*
*Называў дзеўчанём*
*І сваёю мілаю.*

*Шчасце, — казаў ён, —*
*Ёсць спрытнасць розуму й рук.*
*За няшчасных нязграбы*
*Вядомы з маленства.*
*Гэта нічога,*
*Што многа мук*
*Прыносяць ламаныя*
*І манлівыя жэсты.*

*У буры, у навалы,*
*У дні журбы,*
*Калі сэрца ад смутку*
*Гатова парвацца,*
*Здавацца ўсмешлівым,*
*простым быць —*
*Ёсць найвышэйшае*
*ў свеце мастацтва".*

*"Чорны чалавек!*
*Ты не смееш гэтак!*
*Ты ж не на службе*
*Жывеш вадалазавай.*
*Што мне да жыцця*
*Скандальнага паэта.*
*Калі ласка, іншым*
*Чытай і расказвай".*

*Чорны чалавек*
*Пазірае мне ў твар.*
*Зірк яго засцілаецца*
*Ванітнаю млосцю, —*
*Быццам хоча сказаць,*
*Што я злодзей, махляр,*
*Бессаромна, нахабна*
*Абакраўшы кагосьці.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . .*

*Дружа, дружа*
*Я вельмі а вельмі хворы,*
*Каб я ведаў,*
*Адкуль пранізаў гэты боль.*
*Ці то вецер гудзе*
*На пустым*
*і бязлюдным прасторы,*
*Ці, як гай вераснёвы,*
*Страсае мазгі алкаголь.*

*Ноч марозная.*
*Ціхі спакой скрыжавання.*
*Я адзін пры акне —*
*Быў бы рад дружбаку.*
*Сыпкай вапнай*
*Укрыты разлогі дазвання*
*І ўсе дрэвы, як коннікі,*
*Скачуць па нашым садку.*

*Дзесьці плача злавесная*
*Птушка начная.*
*І драўляныя коннікі*
*Далей кіруюць хаду.*
*Вось ізноў гэты чорны*
*На крэсла мае сядае,*
*Ледзь падняўшы цыліндр,*
*Адхінуўшы нядбала сурдут.*

*"Чуеш, чуеш! —*
*Хрыпіць, паглядаючы ў твар,*
*Сам бліжэй і бліжэй*
*Усё горнецца, —*
*Я ніколі не бачыў,*
*Каб нейкі гнюсар*
*Так бязглузда і смешна*
*Хварэў на бяссонніцу.*
*Можа, я памыліўся!*
*Дык поўня ж відна.*
*Свет дрымотаю п'яны,*
*Нібыта на выраку.*
*Можа, з тоўстымі сцёгнамі*
*Ціха прыйдзе "яна",*
*І ты будзеш чытаць*
*Сваю дохлую млявую лірыку?*

*Ах, люблю я паэтаў!*
*Іх рыфмавы згук*
*Сэрца цягне*
*У моцна знаёмае штосьці,*
*Як прышчастай курсісткі*
*Патлаты брыдзюк*
*Тлуміць голаў пра свет,*
*З палавое канаючы млосці.*

*Не помню добра,*
*Кажу не ў зман,*
*Можа, ў Разані,*
*Ў Калузе нібыта,*
*Жыў хлопчык*
*У простай сям'і сялян,*
*Жоўты валасам,*
*А вочы з блакіту...*

*І стаў ён дарослы,*
*Паэт да таго,*
*Хоць з невялікай,*
*Ды ўчэпістай сілаю,*
*І кабету якуюсьці —*
*Аж за сорак год! —*
*Называў дзеўчанём*
*І сваёю мілаю".*

*"Чорны чалавек!*
*Ты гасцёк брыдоткі.*
*Гэта слава даўно*
*За табой грукочацца".*
*Я раз'юшаны, злы,*
*Я шпурляю свой кій*
*Проста ў морду яму,*
*У міжвочніцу...*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . .*

*...Поўня знікла,*
*Сінее світальны туман.*
*Ах ты, ноч!*
*Колькі, ноч, ты наблытала?*
*Я ў цыліндры стаю,*
*Больш нікога няма.*
*Я адзін...*
*І люстэрка пабітае...*

Пераклаў Максім ЛУЖАНІН



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

ВІНШУЕМ!

# Гадоў пражытых чарада

## Віктару ДАЙЛІДУ — 70



***Нарадзіўся Віктар Браніслававіч 28 верасня 1930 года ў вёсцы Славінск Слуцкага раёна. Скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, настаўнічаў у Пастарынскай сямігадовай школе. Завочна скончыў вучобу ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. Быў намеснікам дырэктара Ішкалдаскай, дырэктарам Войкавіцкай васьмігадовых школ Баранавіцкага раёна, старшым рэдактарам на Брэсцкай студыі тэлебачання, дырэктарам Чапліцкай сярэдняй школы Слуцкага раёна.***
***У 1973—1982 гадах працаваў намеснікам дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР, а ў 1988—1989 гадах з'яўляўся старшынёй кааператыва "Белая русь". У друку выступае з 1953 года. Аўтар кніг "Вясна, хлопцы, вясна", "Была вайна", "Пяро дзікай качкі", "Буслы над вёскай", "Пыжыкава шапка", "Сустрэча з маленствам"...***

***Віншуем Віктара Браніслававіча з 70-годдзем! Жадаем яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і творчым страі! І знаёмім з некаторымі старонкамі жыццяпісу В. Дайліды, расказанымі ім самім.***

# Споведзь

Вось і праляцела 70 — мужчынскі век. Дзякуй Богу! Як казаў Міхась Скрыпка, я перайшоў у восьмы клас. Калі азірнуся на пройдзены шлях — радуюся столькі было шчасця! Бывалі хвіліны, калі здавалася, ад яго распірае грудзі. Часам думаў шчасцю не будзе канца. Але ж было і шмат непрыемнасцей, памылак. Праўда, калісьці Пятрусь Броўка пісаў: "Эх, каб яшчэ ды памылка такая..." Я ж сваіх памылак паўтараць не хацеў бы, бо, скажу шчыра, на цвярозую галаву я не зрабіў ніводнай. А вось перахапіўшы, бывала, сам сабе падстаўляў падножку. Хоць гэтай халеры, у параўнанні з многімі высокімі начальнікамі, якіх ведаю, я "перакачаў" не так і многа. Гадоў да 35 наогул не браў і ў рот гэтай "заразы". А як выбіўся ў невялікія кіраўнікі, тады хапала. Часам, урэжам з сябрамі па самую завязку, а пасля чухаем патыліцы...

..За ўсё жыццё шмат каменьчыкаў уляцела ў мой агарод. Часта заўважаў, як некаторыя дабрадзеі метадычна імкнуліся мяне прынізіць. Хоць у мяне не было ворагаў, а толькі дробныя зайздроснікі, асабліва, калі працаваў дырэктарам школы і ў Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў, хоць зайздросціць то не было асабліва чаму. Я ад іх не мог адбіцца, не хапала сіл. Часам было вельмі цяжка. Таму праяўляў жорсткасць, адбіваўся бязлітасна і заслужыў рэпутацыю чалавека калючага, яршыстага.

Успамінаецца мой любімы Пімен Панчанка:

*Часта крывадушныя мяшчане*
*да драбніц ушчэнт мяне знішчалі.*
*Часам і надзейныя сябры*
*ласкава штурхалі пад абрыў...*

Браткі, а ў мяне ж такое шчырае, чалавечае сэрца, паверце, не хвалюся, я то сябе добра ведаю. Я, калі люблю, то ўсёй душою, ненавіджу — таксама на 100 працэнтаў.

У мяне ж столькі сяброў — і сярод простых людзей і сярод пісьменнікаў! На вялікі жаль, многія пайшлі ўжо ад нас. Няма незабыўнага Міхася Стральцова — чалавека чысцейшага сумлення, з якім з'еў пуд солі, які мяне падтрымліваў, часта друкаваў і неаднойчы паўтараў: "Віктар, нікога не слухай, ты — здольны чалавек..." Няма Васіля Віткі, Алеся Асіпенкі, Міхася Рудкоўскага, Аляксея Кейзарава, Уладзіміра Калесніка, нашага літаратурнага Бога і настаўніка... Ах, як без іх цяжка!

А тым, хто мяне памятае, маім аднакурснікам і аднакласнікам, хто мяне паважае ці нават любіць, гавару: бачыце, пражыў мужчынскі век і пасылаю гарачае прывітанне. Як казаў цудоўны Макаёнак: "Салют-прывет!" Дай Бог вам шчасця!

Яшчэ я пасылаю прывітанне Уладзіміру Дамашэвічу, выдатнаму пісьменніку, цудоўнаму майму рэдактару, сапраўднаму беларускаму інтэлігенту. Шчасця табе, дарагі Валодзя!

...Дзе б я ні быў, куды ні закінуў бы мяне лёс, сэрца заўсёды рвецца на родную Случчыну. І няма для мяне шчаслівейшых хвілін, як ехаць дамоў, у сваю вёску, у сваю старэнькую хату, да сваіх землякоў, дзе сходжана кожная сцежка, з маленства знаёмае кожнае дрэўца ў лесе. Еду, а ў памяці ўзнікаюць словы вялікага Якуба Коласа: "Прад імі Случчына ляжала, старонка міла і багата..."

Як толькі збочу з шашы, адразу пачынаюцца родныя землі. На небасхіле вырысоўваюцца вёскі Ульянаўка, Маргі, а за невялікім ляском, вясёлым і светлым ад беланогіх бяроз, стаіць і мая вёска Славінск. Успамінаецца пражытае, усё да драбніц, асабліва басаногае маленства. Вось тут, у Дружбенскім лужку, калісьці пасвіў калгасных коней. Ля цагельні ў бярозавым гаі, збіраў краснагаловікі, у Вілах — баравікі. На Пратве і ў Грабарскай канаве лавіў таптухай уюноў.

Бацька мой, Браніслаў Віктаравіч, быў паляводам у калгасе, конюхам, аўчаром, вартаўніком, малакавозам. І добрую частку свайго жыцця — брыгадзірам. Памятаю, як яму было цяжка. Гэта цяпер брыгадзір, што пан. Ездзіць на матацыкле ці на "козліку", сівухі і чарніла не п'е, а толькі "белую". А жонка ў яго самая разумная і самая прыгожая і больш за іншых зарабляе. Маладзіцы за ім роем, а лясок пад бокам. Як пісаў Мікола Засім: "А пад бокам Белавежа: можна ўдарыць, можна ўцеч". Тады ж было інакш. Раздасць брыгадзір нарад, а сам запрагае ў ярмо волікаў і ідзе араць (коней пасля вайны было вельмі мала). А ў час касавіцы сам кладзе стагі, бо няма каму: шмат мужчын не вярнулася з фронту, загінула ў партызанах. А маці была ўдарніцай, рвалася з усіх сіл, каб хоць не сказалі, што брыгадзірша адлыньвае ад работы. Брыгадзіра на той час у вёсцы ніхто не паважаў, бо ён хадзіў ад хаты да хаты, стукаў у вокны, гнаў на працу, а за тую працу людзі атрымлівалі нуль без палачкі. Таму брыгадзіра толькі лаялі. І часцей за тое, што не даў каня. А дзе ён мог узяць таго каня, калі ў канюшні былі лічаныя салдацкія неўставакі і палова з іх вісела на вяроўках. Тады нават была складзена прыпеўка, якую тайком спявалі хлопцы: "Не сабака в поле лает, а колхозный бригадир. На работу кто не пойдет, тому хлеба не дадим".

Бацька і мяне прывучаў да работы. Я тады крыўдзіўся, аслабелы ад бясхлебіцы, часам плакаў. Было цяжка хадзіць за плугам, кіраваць упартымі бірбатымі бельгійскімі коньмі, якіх пакінулі ў вёсцы салдаты. Але я араў, абганяў бульбу, тросся на грабалцы, вазіў снапы, сена, працаваў конюхам. Потым, калі вырас, быў вельмі ўдзячны бацьку. Ён прывучыў мяне да працы, цяпер я "ўсё ўмею". Я ніколі ў жыцці не быў лайдаком. Ганаруся, што за мной замацавалася рэпутацыя працавітага, дзелавога чалавека.

У першы клас Пуцяцкай школы я прыйшоў у шэсць гадоў. Умеў пісаць і чытаць. Але мяне не прынялі. Сказалі - не дарос, а падругое, няма месца. Памятаю: прыйшоў дамоў і, схаваўшыся ў садзе, доўга плакаў. Да вайны скончыў 3 класы, пасля вайны пайшоў у чацвёрты. Але тут здарылася такая аказія. Мяне з першых дзён неўзлюбіла настаўніца, маладая ўдавіца. Яна праводзіла ўсяго дватры ўрокі і адпускала нас дамоў. Сама ж бегла да вайскоўцаў, якія размясціліся ў садзе. Мне ж хацелася вучыцца. За час вайны я засумаваў па школе, і цяпер усё дапытваўся, чаму ў нас не ўсе ўрокі. Настаў-ніца злавала і аднойчы, скарыстаўшы момант (за бойку ў класе, хоць я і не быў вінаваты), каб я не дурыў ёй галавы, выперла мяне са школы. Я прыйшоў дамоў, доўга стаяў у садзе і думаў, што ж цяпер рабіць. Пасля вырашыў ісці ў пяты клас Ленінскай сярэдняй школы, якая пачынала вучобу на месяц пазней: не хапала ў калгасе рабочых рук.

Памятаю, клас быў бітком набіты пераросткамі, сярод якіх аказалася нямала розных боўдзілаў. Нам далі першы дыктант. Пісалі мы, хто дзе. Калі дыктант быў правераны, дзве трэція "абітурыентаў" адсыпаліся. Я ж гэтае, выпрабаванне вытрымаў.

Цяжка было вучыцца. Помніцца холад. Дома вада ў вядры замярзае: няма дроў. А выйду раніцой з хаты, вецер працінае наскрозь. Заходжу да аднаго сябра — не ідзе, да другога, трэцяга — таксама: баяцца холаду. За вёскай да мяне далучаецца Лёнька Яновіч, дружацкі, сціплы хлопец. Ён з Кажушак, яму яшчэ далей. Крочым напрасткі — па цаліку, па полі. Зімой тады ніякіх дарог не было. Дваццаць крокаў перадам, дваццаць задам. А з Саўкова сячэ халодны снежны сівер. Прыйдзем у школу, здаецца яшчэ халадней. Вокны неакітаваныя, а то і разбітыя, і праз дзіркі цярушыць сняжок.

Лёнька вучыўся выдатна, але чамусьці баяўся сачыненняў. А я ненавідзеў сінусы, косінусы. Колькі я на іх, праклятых, патраціў часу, а ў жыцці яны мне ніколі не спатрэбіліся.

Праляцелі гады. І вось сёлета, зусім нядаўна, сустракаю Лёньку (каля маёй хаты спыніўся "Мерседэс"). Не, не Лёньку, а Леаніда Аляксандравіча Яновіча. Ён такі ж сціплы і далікатны. Толькі цяпер — сапраўдны вучоны муж. У 1967 годзе стаў кандыдатам фізіка-матэматычных навук, у 1987 — доктарам. У 1989 годзе быў абраны членам-карэспандэнтам АН Беларусі. А ў 1992 годзе рашэннем Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Савеце Міністраў СССР яму прысвоена вучонае званне прафесара па спецыяльнасці "Вылічальная матэматыка". Вось так, сябры, ведай нашых! Дарагі Лёнька, паважаны Леанід Аляксандравіч, у свой юбілей я пасылаю табе прывітанне. Жадаю шчасця!

...Я рана пачаў пісаць у Слуцкую раёнку. Найбольш крытыкаваў кіраўніцтва калгаса. Заметкі не толькі пасылаў, а часам насіў у Слуцк за 25 кіламетраў. Памятаю, разам з Валодзем Шайпаком напісалі фельетон пра свайго старшыню калгаса, які грамадскую птушкаферму перасяліў у свой хлеў. Падпісалі псеўданімамі: Іван Калючы і Іван Шчыпучы. У фельетоне была фраза: ферма побач, можна і яйкі палічыць. Мяне за гэтыя яйкі (усе ведалі, што я быў ініцыятарам фельетона) "калолі" і "шчыпалі" і настаўнікі, і парторг (ён жа завуч школы). І асабліва старшыня, які праследаваў майго бацьку, аднойчы паспрабаваў нават пусціць у ход кулакі, але гэта аказалася марнай справай: бацька быў дужы і вельмі рашучы...

Яшчэ і ў юнацтве я напісаў дзве заметкі ў раёнку, якімі і па сённяшні дзень ганаруся. Справа ў тым, што ў нашым калгасе быў вялікі лес, які пачынаўся каля маёй хаты. Узбоч дарогі стаялі векавыя дубы, а далей стракацелі бярозы, хісталіся гонкія сосны, шапацелі дрыготкім лісцем асіны. Лес быў багаты на ягады і грыбы і цягнуўся ажно да Маргоў. У час вайны яго поўнасцю спляжылі. Ды так, што вёска Маргі была відаць, як на далоні. Пасля лес пачаў крыху адрастаць, але яго зноў бязлітасна секлі на дровы, на аглоблі, на жэрдкі. Тады і напісаў я артыкул "Знішчаюць малады лес", падпісаўся сваім прозвішчам. Райкам партыі мяне падтрымаў. Старшыню выклікалі на бюро, далі строгую вымову "з занясеннем". І смешна было: як толькі выйшаў старшыня з райкама партыі, па Слуцку грымела мясцовае радыё. Перадавалі агляд раённай газеты, мой артыкул прачыталі поўнасцю. Так што старшыня змог пазнаёміцца з ім яшчэ раз.

Назаўтра ў калгасе з'явіўся ляснік, які сумленна абараняў маладняк. Праз некалькі гадоў, калі лес падняўся і акрэп, я напісаў артыкул "Лес шуміць", у якім хваліў стражніка за шчырую працу. Праўда, цяпер зноў браканьеры гнюсяць у лесе. Магчыма цяпер ужо на старасці давядзецца мне зноў абараняць свайго даўняга сябра.

Мяне заахвочвалі і падтрымлівалі рэдактары раёнкі Плешавеня, Уласаў. Калі прысылалі ганарар, у школу прыходзіў сам начальнік пошты Бікашоў, хваліў мяне і, каб чулі ўсе, клікаў атрымліваць грошы. Заахвочваў юнага селькора змагацца з прахвостамі і хапугамі. У нашым калгасе змянілася прыкладна 25 старшынь! З іх добрую памяць пакінулі вядомы ўсёй Беларусі Васіль Захаравіч Корж і яшчэ Іван Сцяпанавіч Грошаў. Праўда, яго таксама звальнялі з пасады, але гвалтоўна, па паклёпе, і праз некаторы час сэрца яго не вытрымала. Аднаго, апошняга, паслалі на павышэнне, хоць месца яго далёка не там... Але аб гэтым хай другі раз.

Увесь час бядую: як нашаму калгасу не шанцуе на старшынь! Прывязуць нейкага прыблуду, хваляць, уздымаюць да нябёс, потым з трэскам выганяюць. Праўда, нікога не судзілі, хоць па многіх з іх плакалі камеры.

А якія ж у Слуцкім раёне ёсць выдатныя кіраўнікі! Памятаю Козела, Лямешчанку, Палешчука... Ведаю Сакановіч... А з Мікалаем Ільічом Васілевічам, старшынёй калгаса "Ленінскі шлях" я калісьці разам працаваў. Пра Васілевіча шмат пісаў, выступаў нават калісьці па Усесаюзным радыё і расказваў аб яго рабоце. Васілевіч — гэта не проста кіраўнік, гэта — волат, слава пра якога даўно грыміць далёка за межамі Беларусі.

А ўвогуле я пісаў нарысы пра многіх людзей Случчыны. Былы першы сакратар Слуцкага гаркома партыі Мартысюк і таксама колішні старшыня райвыканкама Арлоўскі за прапаганду дасягненняў Слуцкага раёна ўзнагародзілі мяне Ганаровай граматай Слуцкага гаркама партыі і райвыканкама. У дзень майго 50-годдзя першы сакратар Слуцкага гаркама партыі Мартысюк і рэдактар раённай газеты Макарэня заказалі спецыяльна на фабрыцы мастацкіх вырабаў слуцкі пояс, прывезлі яго ў Мінск і падарылі ў дзень юбілею. У Слуцкім раёне я быў узнагароджаны медалём і значком "Выдатнік народнай асветы БССР", вельмі дарагой узнагародай. Ганаруся, што мяне прызналі на малой радзіме. На жаль, не ўсе...

Са школьных гадоў запомнілася настаўніца Ульяна Іванаўна Каравікова. Шмат я пабачыў за сваё жыццё педагогаў-маякоў, але такіх, як Ульяна Іванаўна, не сустракаў ніколі. Якая культура! Якое педагагічнае прызванне! Дарэчы, Ульяна Іванаўна ў маладыя гады працавала завучам на Віцебшчыне, у той школе, дзе настаўнічаў Пётр Міронавіч Машэраў. І калі Машэраў узначальваў ЦК Кампартыі Беларусі, звярнулася да яго з просьбай дапамагчы пабудаваць новую школу. Пётр Міронавіч гэтую просьбу ўважыў. Зараз прыемна глядзець, як вязе аўтобус вучняў у цёплы ўтульны школьны будынак, куды я хадзіў пешкі з Лёнькам Яновічам.

Яшчэ хацелася б успомніць, як Ульяна Іванаўна паставіла мне ў атэстат па хіміі чацвёрку. Хацела мяне, бедалагу, неяк крышку "падвысіць", хоць ведаў я тую хімію толькі на тройку. Дзякуй, дарагая настаўніца! Можа, чуеце, я жадаю Вам шчасця!

У час вайны наша сям'я вельмі пацярпела ад фашыстаў. Загінуў на фронце старэйшы брат Іван, другі, Міхаіл, абараняў Ленінград, перанёс блакаду, страціў здароўе. Сястра была замужам за вайскоўцам. Яго, Баркова Івана, параніла разрыўной куляй у руку. Урачы настойвалі на ампутацыі, але ён усё не згаджаўся: з'яўляўся выдатным баяністам. А калі згадзіўся, позна...

Мой бацька быў чалавекам крутым, фізічна дужым і рашучым. Ніколі не хварэў, захаваў усе зубы, пражыў 82 гады. Неяк на Пакровы выгнаў раніцой карову, упаў на двары і памёр. Праз некалькі гадоў мама, Вольга Кандратаўна, пакарміла вечарам свіней, ішла ў хату, упала і таксама памерла. Амаль на тым жа самым месцы. І цяпер, калі прыязджаю дамоў, іду па двары, кожны крок вострым болем аддаецца ў сэрцы. Як жа мала я бярог сваіх бацькоў! Асабліва адчуваю вялікую віну перад маці. Даруй, дарагая матуля, ты заўсёды ў маім сэрцы, як самае дарагое, што ёсць на свеце...

Мая мама родам з Капыльшчыны. І калі я часам праязджаю праз Капыльскі раён, хочацца спыніцца і пагладзіць дрэўцы ці кветку пры дарозе, усміхнуцца жанчыне, прывітацца з мужчынам. Хочацца напісаць ці хоць сказаць добрае слова пра знакамітых людзей. Бо адсюль пайшла ў свет мая мама...

Я часта ездзіў на нарады маладых пісьменнікаў. Запомніўся і спадабаўся Янка Брыль — сваім досціпам, эрудыцыяй, веданнем мовы, талентам. Памятаю, на адной нарадзе я прачытаў сваё апавяданне "Над Нёманам". У ім расказваў, як сялянская дзяўчына закахалася ў сынка памешчыка (вядома ж, не ў камсамольца). Ён яе падмануў, і яна, цяжарная, вырашыла ўтапіцца. Я напісаў так: "Яна прыйшла на бераг Нёмана, увапхнула ў торбу вялікі камень, пачапіла на шыю і рухнула ў вір з крутога абрыву..."

Некаторыя з прысутных з усмешкай пераглянуліся, а Янка Брыль сур'ёзна сказаў: "Ты, Віктар, тапіў яе, як ката..." Божа мой! Я закрычаў: "Досыць, досыць, лічыце, што гэтага апавядання не было..."

Янка Брыль ставіўся да мяне добразычліва, нават перажываў за мае няўдачы. Я гэта адчуваў. Але яго, як саліднага пісьменніка, заўсёды неяк пабойваўся. У той жа час так хацелася, каб Іван Антонавіч хоць крышку пахваліў, хоць за адну фразу. На жаль, так і не дачакаўся. Шкада... Але, можа, гэта якраз і добра?! Затое пахваліў Панчанка ў прысутнасці Вячаслава Адамчыка за аповесць "Алёша з Батонам", якую друкаваў у "Маладосці" і якая практычна вырашала мой лёс: быць ці не быць...

Я часта прыходжу на Усходнія могілкі ў Мінску, кланяюся магіле Пімена Емяльянавіча, на Вялікдзень прыношу чырвонае яечка. І абураюся, што да гэтага часу ніхто не паклапаціўся, каб народнаму паэту паставілі належны помнік.

Яшчэ ў гэты дзень я хацеў бы добрым словам успомніць Рамана Сабаленку. Раман Карпавіч першым заўважыў мяне і працягнуў руку. Ён дапамог многім маладым пісьменнікам, у свой час і Васілю Быкаву. Сабаленка не вадзіў рукой за наша пяро, ён проста нас друкаваў. Пухам вам зямля, дарагі Раман Карпавіч!

Напісаў я мала. Выйшла ўсяго дзевяць кніг, у тым ліку адна ў Маскве. Дзесятая напісана, але выдаць пакуль не ўдаецца. А чаму напісаў мала? Віной асабістая несабранасць, зямныя клопаты, часам легкадумнасць, а часам і падножкі "сяброў". Але сёе-тое з напісанага, мне здаецца, спатрэбіцца людзям. А далей — хай дапісваюць унукі...

Успомнім класіка: "Адзін раздзел кнігі напісаны і загортваецца. Ну, што ж, гайда далей..."

**Віктар ДАЙЛІДА**





## Пад пошум дрэў

**Тры гады таму ў "Беларускай лясной газеце" вызвалілася пасада галоўнага рэдактара. Вакантнае месца прапанавалі мне, праўда, папярэдзілі, што ў міністра лясной гаспадаркі Валянціна Зорына ёсць некалькі кандыдатур, і з кожным прэтэндэнтам ён будзе сустракацца асабіста.**

**Пры сустрэчы сярод усяго іншага Валянцін Паўлавіч пацікавіўся зрэшты таксама, якое дачыненне я маю да лесу. Што ж, мусіў згадаць і пра вялікую любоў да зялёнага сябра і братоў нашых меншых, і пра родную вёску, якая ў нейкіх чатырох кіламетрах ад пасёлка Чырвоны Курган, дзе ў свой час месціўся Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум, і пра цётку Просю, што да самай пенсіі прапрацавала ў мясцовым лягасе. Здаецца, усё, ды раптам як бы маланкай асвяціла:**

**— А яшчэ давялося рэдагаваць дзве кнігі Міхася Шаванды.**

**Тое, што я знаёмы з галоўным ляснічым Касцюковіцкага лягаса, міністра ўразіла, бадай, больш за ўсё астатняе. Магчыма, гэтая акалічнасць і пераважыла на маю карысць сярод іншых канкурэнтаў. Такім чынам, у нейкай ступені мой хрэснік у літаратуры стаў маім хросным у лясной журналістыцы.**

**З Міхаілам Іванавічам мяне пазнаёміў сённяшні галоўны рэдактар "ЛіМа" Алесь Пісьмянкоў.**

**Пры знаёмстве з М. Шавандай мяне ўразіла, з якім замілаваннем ён расказваў пра лес, кожнае дрэва ў ім і кожную птушачку, пра сваіх паплечнікаў-лесаводаў. Многія з тых аповедаў я напаткаў потым у шавандаўскіх мініяцюрах, калі рыхтаваў да друку рукапісы яго кніг "У кожнага дрэва свой голас" і "Крыштальны звон бяроз", якія ў адным і тым жа 1996 годзе запар выдаў прыватны выдавец Міхась Расолька, былы галоўны рэдактар мінскай гарадской газеты "Добры вечар". Да гэтых дзвюх кніг касцюковіцкі ляснічы ўжо меў адну — "Карнеева крынічка". А перадусім быў не адзін тузін публікацый у мясцовым і рэспубліканскім друку.**

**Пазней ужо, працуючы ў "Беларускай лясной газеце", я блізка пазнаёміўся з многімі айчыннымі лесаводамі. Заўважыў, што, за рэдкім выключэннем, усе яны за словам у кішэню не палезуць. А вось пакласці колькі слоў на паперу, каб сваё, асабістае зрабіць набыткам і для нашчадкаў, зазвычай аднекваліся, як іншы раз ні прасіў.**

**М. Шаванду ўзяцца за пяро не ўгаворвалі; ён зрабіў гэта па ўласнай волі. Пэўна, усё ж засела недзе ў душы тая божая іскрынка, якая не-не ды і ўспыхне, каб асвятліць адкрыццём лесавода-практыка, што пратаптаў не адну сотню вёрст па лесе, і нас, чытачоў. Часам нават здзіўляюся: наколькі ж трэба быць апантаным чалавекам, каб пасля невыноснай дзённай стомы — і ў спёку, і ў дождж, і ў завіруху — сесці познім вечарам, калі ўсе хатнія спяць, за стол і застацца сам-насам перад чыстым аркушам паперы.**

**Ведаю, што былі (ды і ёсць) у Міхаіла Іванавіча і зласліўцы: маўляў, бач ты, у пісьменнікі шчэміцца — лесам лепш бы займаўся. А ён і займаўся — і прытым на шмат лепш, чым многія "непісьменнікі". У тыя ж знакамітыя касцюковіцкія дубровы, клапатліва выпешчаныя тамтэйшым галоўным ляснічым, яшчэ і сёння возяць шматлікіх спецыялістаў-экскурсантаў.**

**Міхась Шаванда — не прафесійны літаратар, але для колькіх юнакоў і дзяўчат яго літаратурныя творы сталі першым знаёмствам з рамантычнай, няхай сабе і нялёгкай прафесіяй лесавода. Мініяцюры і абразкі ўраджэнца мястэчка Мілаславічы Клімавіцкага раёна, навакольным лясам якога ён прысвяціў сваё жыццё, — гэта акно ў прыроду, дзе заўсёды сонечна. Светлыня гэтая — ад родных краявідаў, ад сакавітага матчынага слова. Думаецца, тое ж адчулі б чытачы і прачытаўшы ягоную новую кнігу "Заходзьце ў шматгалосы храм", якая, набраная ўжо і звярстаная, пакуль чакае выдаўца.**

**...А ў першы дзень кастрычніка Міхаіл Іванавіч Шаванда адзначае сваё 65-годдзе.**

**Анатоль ЗЭКАЎ,**
**галоўны рэдактар**
**"Беларускай лясной газеты"**

# Пакліканыя Госпадам

## ДРУЙСКІ КЛЯШТАР МАРЫЯНАЎ

НІХТО НЕ ВЕДАЕ шляхоў Божых і не здагадваецца пра сваё прадвызначэнне. Ці мог меркаваць віленскі біскуп Юры Матулевіч, прымаючы ў сябе ў 1919 годзе маладога і энергічнага святара а. Андрэя Цікоту, дзеля таго, каб заснаваць у мястэчку Друя каталіцкі марыянскі кляштар, што час і дзень гэты засведчыць слаўныя старонкі беларускай адраджэнскай гісторыі, прадвызначыць лёсы многіх выдатных нацыянальных дзеячаў.

Канешне, біскуп Матулевіч добра разумеў тагачасную палітычную і гістарычную сітуацыю. "Беларускі рух адраджаецца і пашыраецца, — казаў ён, — і калі каталіцкая царква не пойдзе яму насустрач, то гэты рух пойдзе супраць царквы і будзе яе вінаваціць за імкненне да дэнацыяналізацыі беларускага народа". Спрыяльна паставіўшыся да беларускага руху, а. Матулевіч абяцаў сваю падтрымку а. А. Цікоту ў справе беларускага Адраджэння.

Прафесар Менскай беларускай каталіцкай семінарыі а. Цікота быў якраз тым чалавекам, якому можна было даручыць такую важную і далікатную справу. Ён ахвотна пагаджаецца з прапанаванай яму місіяй, уступае ў Ордэн марыянаў і скіроўваецца ў Амерыку дзеля збору сродкаў на задуманы кляштар.

У гэты час а. Ю. Матулевіч прымае актыўныя захады, дзякуючы якім папа Пій XI дазваляе заснаваць у Друі кляштар а. Марыянаў і перадае яму парафію і касцёл, збудаваны ў 1644 годзе Казімірам Сапегам, тагачасным уладальнікам Друі, сынам славутага канцлера Вялікага княства Літоўскага — Льва Сапегі.

Друйскія марыяне павінны былі аднавіць стары будынак кляштара, заснаваць школу і навіцыят для беларусаў, кандыдатаў у манахі. Ужо ў 1923 годзе ў Друі адчынілі гімназію, якой цэлае дзесяцігоддзе кіраваў суперыёр кляштара а. Цікота.

У многім дзякуючы яму, друйская гімназія і кляштар марыянаў на цэлыя дзесяцігоддзі сталі калыскаю і цэнтрам беларускай нацыянальнай адраджэнскай культуры. Сюды прыязджаюць на працу а. Фабіян Абрантовіч, а. Язэп Германовіч, а. Язэп Дашута, а. Казімір Смулька. Слава пра друйскіх марыянаў разнеслася па ўсёй Беларусі. Гасцямі марыянскага дома студыяў (які яны купілі ў 30-ыя гады ў Вільні для моладзі, што ўступіла ў Ордэн а. марыянаў і хацела вучыцца далей) былі кс. Станкевіч, Талочка, Навіцкі, а таксама славутыя дзеячы беларускай культуры і Адраджэння М. Забэйда-Суміцкі, А. Луцкевіч, А. Трэпка, Л. Дубейкоўскі, Максім Танк.

Са сценаў Друйскай гімназіі выходзілі надзвычай таленавітыя, адданыя справе адраджэння роднага краю інтэлігенты. Лёс раскідаў іх па ўсім шырокім свеце: ад спякотнай Аўстраліі да халоднай Сібіры, ад экзатычнай Аргенціны да рацыянальнай Амерыкі, але тыя патрыятычныя пачуцці, што абудзіліся ў іхніх душах у сценах Друйскага кляштара, засталіся з імі назаўсёды. Язэп Малецкі і Часлаў Сіповіч, Юры Кашыра і Антон Цвячкоўскі, Фелікс Журня і Віктар Ярмалковіч, Антон і Томаш Падзавы, Мікола Баговіч і іншыя.

Больш за дзесяць гадоў таму, у 1987 годзе выхаванцы былой Друйскай гімназіі, тыя што перажылі сталінскі і фашысцкі генацыд, прыехалі ўпершыню на сваю сустрэчу. З таго часу штогод 21 жніўня збіраюцца яны ў мястэчку Сточак Кляшторны, непадалёк ад Ольштына. З кожным годам іх робіцца ўсё менш і менш. Але нават адыходзячы ў нябыт, не забываюцца яны згадаць пра сваю alma mater, як прыкладам сп. Язэп Малецкі з Аўстраліі, выконваючы пасмяротную волю якога, жонка Аліна ахвяруе сродкі на аднаўленне Друйскага кляштара і касцёла.

У 1998 годзе выдавецтва "Нашай Нівы" выдала кнігу "Гарт" (якая часткова друкавалася ў часопісе "Полымя" за 1997 г.) — шчымлівыя старонкі жыцця шчырых і мужных юнакоў і дзяўчат, што прысягнулі любіць свой край, і за гэта дзесяцігоддзямі пакутавалі ў сталінскім ГУЛАГу. Выпадкова ці не, але маладыя патрыёты якраз і паходзілі з гэтага кутка Беларусі.



СЛУГА БОЖЫ
КСЁНДЗ АНТОНІ ЛЯШЧЭВІЧ
МАРЫЯНІН
1890 - 1943



СЛУГА БОЖЫ
КСЁНДЗ ЮРЫ КАШЫРА
МАРЫЯНІН
1904 - 1943

Вучні нашых зрусіфікаваных школаў у большасці сваёй не здагадваюцца, што гераізм і мужнасць існуюць не толькі недзе за небакраем, але і ў родных ваколіцах. На жаль, відаць і сёння наўрад ці расказваюць ім настаўнікі пра пакутлівы лёс гэтай патрыятычнай моладзі, а таксама пра смерць друйскіх ксяндзоў-марыянаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча, якія добраахвотна ахвяравалі сваім жыццём дзеля людзей асуджаных фашыстамі на смерць. 18 лютага 1943 года ў вёсцы Росіца яны згарэлі разам з іншымі яе жыхарамі — праваслаўнымі і каталікамі, хоць і мелі шанц ўратаваць сваё жыццё.

Сярод выхаванцаў айцоў марыянаў былі і такія людзі, імёны якіх мала каму сёння вядомы, а тым не менш іхняя штодзённая цяжкая праца на ніве духоўнасці таксама заслугоўвае самага добрага слова ўдзячнасці і павагі. Найперш гэта пробашч Ідолтаўскага касцёла а. Антоні Лось.

Згадкамі пра даўнюю і не такую даўнюю гісторыю, здаецца прасякнута ўся атмасфера невялікага драўлянага дамка на беразе маляўнічага возера, якое паводле мясцовых паданняў, як і прыбярэжная вёска Мілашова, належала калісьці роду Нобелеўскага лаўрэата вялікага польскага паэта Чэслава Мілаша. Домік гэты, парафіяльная ўласнасць Ідолтаўскага касцёла, з нядаўняга часу стаў прыстанкам выхаванца друйскіх ксяндзоў-марыянаў а. Антонія Лося.

Пра марыянаў нагадвае тут і партрэт біскупа Ю. Матулевіча на сцяне, і надзвычай цікавыя фотаздымкі, рукапісы, малюнкі, што беражліва захоўвае ў сваім асабістым архіве ўжо амаль паўстагоддзя а. Антоні. Вялікую колькасць асабістых матэрыялаў а. А. Лось змясціў у музеі Друйскага марыянскага кляштара, што быў адчынены пасля частковага аднаўлення касцёла і кляштарных будынкаў.

А. Антоні Лось скончыў Друйскую гімназію ў 1938 годзе. І гэты год стаў апошнім школьным годам не толькі для яго, але і для слыннай Друйскай вучэльні. Нацыянальна-свядомая пазіцыя аа. марыянаў, іх дзейнасць, скіраваная на адраджэнне роднага краю былі ўспрынятыя тагачаснымі польскімі ўладамі як пагроза польскай дзяржаўнасці. Загад пакінуць памежную зону (і тады, як і цяпер, Друя-памежная зона!) атрымалі найбольш нацыянальна свядомыя, энергічныя і ініцыятыўныя святары. Гэта былі а. Язэп Дашута, а. Віталі Хамёнак, а. Казімір Смулька і прэфект гімназіі Юры Кашыра, той самы, які ўсяго праз 5 гадоў прыме пакутніцкую смерць разам са сваімі парафіянамі ў Росіцы.

Для а. Антонія Лося — гэта не проста імёны і прозвішчы. Усіх гэтых людзей ён добра ведаў асабіста.

Нарадзіўшыся 17 верасня 1917 года ў вёсцы Барысаўка цяперашняга Пастаўскага раёна, айцец Антоні прайшоў тыповы для ўсёй беларускай інтэлігенцыі шлях да навукі. Яшчэ ў пачатковай школе лёс звёў яго з кс. Францішкам Аляшкевічам, сябрам а. Цікоты, які і запрасіў Антонія і ягонага таварыша Янака Вітку пасля заканчэння 6-га класа на парафіяльныя рэкалекцыі ў Друю. Жорсткі лёс, вайна, разлучылі дружбакоў. Янка трапіў у палон і пазней апынуўся ў ЗША, а Антоні таксама большую частку жыцця правёў па-за межамі роднага краю. Але ўсё гэта ў іх яшчэ наперадзе..

А пакуль што паездка ў Друю, сустрэча і размова з а. Андрэем Цікотам канчаткова падштурхнулі а. Антонія стаць вучнем марыянаў. І 2 жніўня 1932 года бацька прывёз будучага ксяндза ў Друю.

Да экзаменаў у гімназію рыхтаваць Антонія ўзяўся а. Томаш Падзява, чалавек надзвычай адукаваны, цікавы і самабытны. Гімназія знаходзілася пры кляштары і самі гімназісты жылі ў кляштарным будынку, дзе існавала малая духоўная семінарыя "Juvenat", якую гімназісты маглі наведваць паводле ўласнага жадання.

У 1938 годзе, закончыўшы апошні клас гімназіі, Антоні Лось канчаткова вызначыўся ў сваім жаданні стаць святаром-марыянінам. Пасля знаёмства з гісторыяй ордэна 8 верасня 1939 года Антоні Лось склаў законныя шлюбы і стаў марыянінам. У 1939 жа годзе ён распачынае вучобу ў Варшаўскай метрапалітальнай семінарыі...

У Еўропе ідзе вайна. Вайной ахоплена Польшча і родная Беларусь. Малады марыянін не ведае, што робіцца на радзіме, што з бацькамі, родзічамі. Вярнуцца дадому немагчыма. Пад Варшавай у марыянскай школе знаходзіцца месца выхаваceля, дзе а. Антоні працуе да таго часу, пакуль а.а. марыяне не заснавалі ў Варшаве свой філасофска-тэалагічны інстытут. Там ён і заканчваў сваю вучобу на працягу яшчэ чатырох гадоў.

26 жніўня 1946 года Антоні Лось атрымаў святарскае пасвячэнне на Белянах пад Варшавай. З таго часу яго жыццё і святарская дзейнасць непарыўна былі звязаныя з Польшчай. Але жыла ў душы думка пра Беларусь, згадкі пра бацькоўскі дом і родныя краявіды. Сэрца рвалася туды, ды палітычныя абставіны не дазвалялі. Толькі ў 1956 годзе а. Лось упершыню змог наведаць родны край.

Бацькоў ужо не было на гэтым свеце. Адышлі ў нябыт і многія з тых, з кім ён разам рос, вучыўся, сябраваў. Тут ён дачуўся і пра тую трагедыю, што здарылася ў Росіцы. Абодвух ксяндзоў-пакутнікаў

ён добра ведаў. Кс. Юры Кашыра быў выкладчыкам а. Антонія ў Друйскай гімназіі, а з другім ксяндзом — Антоніем Ляшчэвічам ён разам адбываў навіцыят у 1939 годзе ў Польшчы. У адзін са сваіх прыездаў на Беларусь, якія сталі магчымымі пасля смерці Сталіна, а. Антоні патаемна (бо атрымаць афіцыйны дазвол было цяжка) едзе ў Росіцу, каб адшукаць месца пахавання святароў, распытаць людзей пра іхнюю смерць.

У 1989 годзе надарылася шчаслівая мажлівасць а. Антонію прадставіць просьбу духоўным уладам аб працы на Беларусі, у тым жа годзе ён, дзякуючы падтрымцы а. У. Пятрайціса, змог вярнуцца на радзіму.

Такім чынам амаль праз паўстагоддзя ён зноў апынуўся там, дзе калісьці пачынаўся ягоны жыццёвы шлях. Ідолтаўскі касцёл, куды кс. Антоні атрымаў прызначэнне, месціцца ўсяго ў сямі кіламетрах ад Друі.

Палітычная сітуацыя ў краіне дазволіла яшчэ а. Пятрайцісу распачаць адбудову Друйскіх касцёла і кляштара. І ўжо ў 1989 годзе ягонымі стараннямі былі адбудаваныя дах і два бочныя алтары. Пасля пераезду на Беларусь, Друйскім кляштарам марыянаў пачаў апекавацца а. Антоні Лось.

Акурат да 1993 года, да сямідзесяцігоддзя з дня заснавання, і кляштар марыянаў і касцёл Найсвяцейшай Тройцы былі часткова адноўлены. На другім паверсе кляштарнага будынка а. Лось зрабіў невялікі музей, дзе прадстаўлены матэрыялы, што расказваюць пра гісторыю марыянскага кляштара і гімназіі, а таксама цікавую і павучальную гісторыю Друйскага жаночага кляштара і руху сясцёр-эўхарыстак.

У 1990 годзе, атрымаўшы афіцыйны статус на Беларусі, а. Антоні скіраваўся у Росіцу, каб даглядзець магілы ксяндзоў-пакутнікаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча. Было адшукана месца, дзе загінулі ксяндзы, і зараз там пастаўлены памятны крыж. Штогод 17—18 лютага ў гадавіну іхняе смерці праводзіць там імшу а. Антоні. А ў 1993 годзе ў Варшаўскім выдавецтве ксяндзоў-марыянаў выйшла кніга “Meczennicy z Rosicy. Ks. Jerzy Kaszyra i Ks. Antoni Zeszczewicz. W 50. rocznice smierci”. (“Росіцкія пакутнікі. Кс. Юры Кашыра і кс. Антоні Ляшчэвіч. На 50-ыя ўгодкі смерці”), сярод аўтараў якой ёсць прозвішча і кс. Антонія Лося. Ён апрача гэтага сабраў неабходныя матэрыялы і сведчанні сучаснікаў дзеля беатыфікацыі ксяндзоў-пакутнікаў з Росіцы.

Увогуле вернікаў Ідолтаўскай парафіі па-добраму здзіўляе энергічнасць, энтузіязм і светлая жыццёвая сіла кс. Антонія. Занятыя сваімі вясковымі штодзённымі клопатамі, звыкла абыякавыя да грамадскіх праблем і патрэб, з цяжкасцю і неахвотай арганізуюцца яны на супольную справу. Аднак кс. Антоні прымушае сваіх парафіян жыць не толькі сённяшнім днём, але і памятаць сваю гісторыю, дбаць пра будучыню.

Дзесяцігоддзямі на другім беразе Мілашоўскага возера, ці, як кажуць мясцовыя, на востраве, стаяў напаўразбураны стары Ідолтаўскі касцёл. Гэтая святыня, пад апекай Маці Божай Безаганнай, збудавана яшчэ ў 1804 годзе на сродкі Мілашаў. У час апошняй вайны тут быў арыштаваны гестапа святар Баляслаў Грамза, якога абвінавацілі ў сувязях з партызанамі і забілі. Пасля вайны і ўсталявання савецкай улады набажэнствы адбываліся толькі ў новай святыні, стары ж касцёл разбуралі час і людзі.

Прыехаўшы ў Ідолта, кс. Антоні знайшоў сродкі на аднаўленне гэтага храма. Ён наладзіў сувязь з нямецкай дабрачыннай рэлігійнай арганізацыяй “Kirche in Not”, знайшоў людзей за мяжой, якія нарадзіліся ў гэтых мясцінах і пажадалі ахвяраваць сродкі на добрую справу.

Сёння будынак старога касцёла адноўлены. Цікавая гісторыя абраза, што знаходзіцца ў алтары старога Ідолтаўскага касцёла: гэта копія славутай работы “Маці Божая Беззаганная” нашага земляка марыяніна Невядомскага. Сам арыгінал карціны знаходзіцца ў Рыме ў касцёле святога Віта.

У 1998 годзе ксёндз Антоні Лось адзначыў свой 80-гадовы юбілей, першы свой юбілей на роднай зямлі. У яго шмат цікавых задум і творчых планаў. Ён добра разумее спецыфіку гэтых мясцін, ведае людзей, іхні побыт і культуру. І галоўнаю мэтай свайго жыцця а. Антоні лічыць — годна працягваць слаўную адраджэнскую справу друйскіх айцоў-марыянаў, пра памяць якіх ён так шчыра клапоціцца.

**Галіна ТЫЧКА**

ДУША

# Першая кніга доктара Скарыны

Сёлета, калі чалавецтва адзначае 2000-годдзе з дня народзін Хрыстовых, успамінаюцца найбольш значныя дасягненні хрысціянскай культуры, духоўныя скарбы і вялікія справы хрысціян свету. Сярод іх — наш беларускі першадрук “Бівлия руска” доктара Скарыны. Пра яе напісана шмат, даследаваны розныя аспекты, але хочацца звярнуць увагу на глыбінна хрысціянскі характар выдання: “Стары Запавет” — свяшчэнная іўдзейская кніга, дадзеная з хрысціянскімі прадмовамі да ўсёй Біблії і яе асобных кніг, дзе Скарына ў сваіх тлумачэннях абапіраецца на традыцыйнае ад апостальскіх часоў разуменне тэкстаў, карані якога ў спадчыне першых вякоў Царквы Хрыстовай, у словах самога Хрыста, у пасланнях апостала Паўла, у святаайцоўскай экзэгезе. Больш за 130 разоў цытуе Скарына новазапаветныя тэксты і гэта гаворыць пра глыбока хрысціянскі характар яго асветніцтва.

З даціроўкі на Скарынавых кнігах вядома, што ён выдаў 6 (18) жніўня 1517 года* ў Празе Псалтыр, нібыта парушаючы гэтым кананічную паслядоўнасць біблейскіх кніг, што пачынаюцца з “Кнігі Быцця”. Між тым, выбарачная, непаслядоўная перапіска кніг Свяшчэннага Пісання была здаўна вядомая на Русі і ў Вялікім Княстве Літоўскім; перапісвалі найбольш патрэбныя кнігі. Але чаму Скарына надаваў такую ўвагу Псалтыру: гэта і ў прадмове да Псалтыра, і ў тым, што ён быў выдадзены Скарынам два разы: другі раз у Вільні каля 1522 г. у складзе так званай “Малой падарожнай кніжыцы”? У даследаваннях савецкіх часоў ды і цяпер яшчэ часам сцвярджаецца, што так зрабіў наш першадрукар і асветнік таму, што на Русі па Псалтыру вучыліся чытаць. Гэта надта звужаная трактоўка Скарынавай справы: па Псалтыру сапраўды вучыліся чытаць, але не дапаможнік у кніжнай грамаце бачыў Скарына ў Псалтыры, а крыніцу духоўнасці, кнігу, што перш за ўсё вучыць чалавека галоўнаму — звароту да Бога з малітвай, бо Псалтыр — гэта паэтычны зборнік псалмоў, лірычных і надзвычай глыбокіх спеваў-малітваў. У іх перш за ўсё пахвала і ўдзячнасць Богу за ўсё, што чалавек мае ў жыцці, просьба аб дапамозе ў жыццёвых цяжкасцях і духоўнай барацьбе з сіламі зла. У псалмах чалавечае гора і радасць, глыбокае пакаянне і вера, яны вучаць даверу да Бога і Яго святой волі, паслушанню гэтай волі, адчуванню велічы і міласэрнасці Тварца, але і страху Божаму, як “пачатку прамудрасці”, разуменню адказнасці за справы і душу сваю. У псалмах лёс канкрэтных людзей, але спевы гэтыя засталіся ў вяках як голас чалавечай душы, што блізкі кожнаму.

І старажытныя іўдзеі і хрысціяне першых вякоў лічылі Псалтыр кнігай цара Давіда. Зараз вядома, што большасць псалмоў (каля 80 з 151) належаць Давіду і безумоўна дух усіх псалмоў, іх пачатак, галоўная сутнасць і лірычнасць — ад цара Давіда. У іх яго вельмі складаны лёс, глыбінныя пачуцці і вялікая вера ў Бога. Псалтыр — гэта сапраўдная паэтычная школа малітвы і веры. Песні Давіда накіроўваюць дух чалавека да вышэйшага разумення Божай гармоніі. Псалмы спяваліся пад гукі музычных інструментаў у храме, гучалі дома. Традыцыя гэта перайшла і да хрысціян. Яны з першых вякоў шырока ўжывалі псалмы: спевам псалма закончыў сваю Пасхальную вячэру з вучнямі Сам Хрыстос, да пастаяннага звароту да псалмоў заклікаў вернікаў апостал Павел, са спевамі псалмоў ішлі на смерць хрысціянскія мучанікі, так званыя “месіянскія” і прарочыя псалмы пра Хрыста (асабліва псалом 21) умацоўвалі веру хрысціян у Уваскрэслага. На аснове старазапаветных псалмоў, евангельскага дабравесця і малітоўнай практыкі святых хрысціянскіх падзвіжнікаў складаліся з цягам часу хрысціянскія малітвы, спецыяльныя малітоўнікі.

У часы Скарыны, як і ў наш час, спевы і чытанне псалмоў займала вялікае месца ў праваслаўным Богаслужэнні. З Царквы псалмы ішлі ў народ. Псалтыр быў любімай кнігай праваслаўных. Псалмы спяваліся пры самых розных абставінах жыцця: на жніве ў полі, у дарозе, на вяселлі, над нябожчыкам і над калыскай дзіцяці, па дарозе ў храм, у час навукі і ў хаце ля печы — паўсюль гучала “Алілуя”. Вернікі імкнуліся ўсё жыццё быць з Богам, мець Яго благаславенне на кожную гадзіну і ў кожнай справе. І Скарына-выдавец улічваў гэтыя духоўныя патрэбы.

У выданні “Псалтыра” выявілася перш за ўсё глыбіннае духоўнае разуменне Скарынам значэння гэтай кнігі ў жыцці чалавека, у яго рэлігійным выхаванні. Тут трэба дадаць, што Псалтыр выдадзены быў не проста як адна з кніг Старога Запавету, а менавіта з улікам яго царкоўнага і хатняга ўжытку вернікамі: тэкст згодна з праваслаўнай традыцыяй разбіты на кафізмы і славы (адпаведныя групы псалмоў і малітваў, што дапамагае ў выкарыстанні і разуменні іх), мае ў канцы не толькі старажытныя яўрэйскія малітоўныя тэксты, але і хрысціянскія; на палях кнігі ёсць спасылкі і так званыя глосы, што растлумачваюць незнаёмыя словы. Усё гэта сведчыць пра асветніцкі характар выдання.

Каб глыбей зразумець адносіны Скарыны да Псалтыра, прычыны яго выдання, неабходна звярнуцца да патрыстыкі, да думак, выказаных славутымі багасловамі, айцамі хрысціянскай Царквы першых стагоддзяў.

Святы Афанасій Вялікі ў дапісе да Марка піша, што ў Псалтыры “вымерана і ахоплена ўсё жыццё чалавечае, увесь стан душы, усе рухі, думкі... І няма ў чалавека нічога, што не ўтрымліваў бы ён... Усе могуць знайсці сабе ў Бажэственных псалмах настаўленне. Няхай чытаюць словы іх аб кожным з гэтых станаў, і кожны будзе ўзносіць іх да Госпада, як бы пра яго яны былі напісаныя”.

Св. Грыгорый Нізскі казаў: “Які прыемны спадарожнік для людзей на ўсіх пунктах іх жыцця прарок Давід... Няма мінуты ў нашым жыцці, якая пазбаўлена ўсякага роду прыемных яго дабрадзеянняў. Ці ёсць якая-небудзь малітва, якой бы не падмацоўваў Давід?

Св. Іаан Златавусты падрабязна паказваў уздзеянне псалмоў на душу чалавека: “Праз псалмы мы навучаемся вельмі многім карысным рэчам. Давід гаворыць табе і пра сучаснае і пра будучае, пра бачныя і нябачныя тварэнні; ён навучае цябе і пра ўваскрашэнне і пра Ісуса Хрыста; пра будучае жыццё і пра супакой праведных і пра пакуты грэшных; паведамляе табе і маральнае і дагматычнае вучэнне. Словам, у Псалтыры ты знойдзеш незлічоныя даброты”.

Св. Амвросій Медзіяланскі ў тлумачэнні на першы псалом гаворыць: **“Ва ўсім Пісанні дыхае благадаць Божая, але ў салодкай песні псалмоў дыхае яна найбольш. Гісторыя настаўляе, закон вучыць, прарочыць, прадказвае, мараль пераконвае, а кніга Псалмоў пераконвае ва ўсім гэтым і ёсць самая поўная лячэбніца выратавання чалавечага”.**

Блажэнны Аўгусцін піша, што спяванне псалмоў душу ўпрыгожвае, дэманаў праганяе: розум умацоўвае, адганяе грахі, дабаўляе ведаў, надзеі, любові, як сонца прасвятляе, як вада ачышчае. Спяванне псалмоў падобнае мёду для душы.

Св. Васіль Вялікі сцвярджае: “...усё, што ёсць карыснага ва ўсіх кнігах Свяшчэннага Пісання, заключае ў сабе кніга псалмоў. Яна прарочыць аб будучым, прыводзіць на памяць падзеі, дае законы для жыцця, прапануе правілы для дзейнасці. Словам, Псалтыр ёсць агульная духоўная скарбніца добрых настаўленняў, і ўсякі знойдзе ў ім, што яму карысна. Псалом дае супакой душы, творыць мір, утаймоўвае бурныя і мяцежныя помыслы... Тут ёсць дасканалае багаслоўе, ёсць прароцтва аб прышэсці Хрыстовым па плоці, ёсць пагроза судом Божым. Тут выказваецца надзея ўваскрашэння і страх мучэнняў. Тут абяцаецца слава, раскрываюцца таямніцы. Усё ёсць у кнізе псалмоў, як у вялікай і ўсеагульнай скарбніцы”.

І Іаан Златавусты, і Васіль Вялікі асаблівую ўвагу надаюць спяванню псалмоў у змаганні супраць дэманскіх сіл.

У прадмове-гімне да Псалтыра Скарына, згодна з усходняй праваслаўнай традыцыяй, выкарыстаў тэкст Васіля Вялікага. І ў наш час царкоўныя выданні Псалтыра маюць таксама прадмовамі тэксты Васіля Вялікага і Аўгусціна Настаўніка.

Усе прыведзеныя выказванні былі вядомыя беларускаму асветніку, сугучныя ягоным думкам аб ролі Псалтыра ў выратаванні чалавека, у жыцці роднага народа. У гэтым бачыцца прычына асаблівай увагі да Псалтыра, бо гэтая кніга падрыхтоўвала да разумення духоўнага сэнсу ўсяго Свяшчэннага Пісання праз зварот душы чалавека да Бога, да Хрыста праз пакаянне і ўдзячнасць.

Знамянальна, што першае выданне Псалтыра датуецца 6 (19) жніўня — днём вялікага праваслаўнага свята Праабражэння Госпада Ісуса Хрыста, або “Спасам”, што так шырока святкавалася ў народзе. Можна меркаваць, што гэта невыпадкова, бо існаваў звычай прысвячаць пачатак або заканчэнне вялікай справы дню вялікага царкоўнага свята. Дзень жа Праабражэння — асаблівае свята яўлення на гары Фавор славы Гасподняй вучням Хрыста і сведчанне магчымасці для чалавека прасвятлення, праабражэння душы на яго шляху да Хрыста. Пра гэтае фаворскае святло было шмат багаслоўскіх спрэчак ад часоў Грыгорыя Паламы. Відавочна, што Скарына меў мэтай сваёй дзейнасці менавіта духоўную асвету і веды, маральнае ўдасканаленне народа на шляху хрысціянскага дабрачэсця, міру, любові і згоды.

**Валянціна ДЫШЫНЕВІЧ**

** Скарына карыстаецца ў даціроўцы сваіх выданняў новай для тагачаснай Русі традыцыяй лічэння гадоў ад Народзін Хрыстовых, але ўжывае ў сваіх тэкстах і старажытны адлік ад стварэння свету. У часы Скарыны на Русі месяцы лічыліся ад верасня, з якога пачыналася, як і цяпер, новае гадавое кола царкоўных богаслужэнняў. На гэта звяртае ўвагу даследчык У. Агіевіч, спасылаючыся ў сваіх выступленнях на тэкст Саборніка з “Малой падарожнай кніжыцы” і іншыя тэксты. Ён лічыць, што першым датаваным выданнем Скарыны была “Кніга Іава” — 10 верасня 1517 г. Гэта разыходзіцца з афіцыйна прынятай датай нашай першай друкаванай кнігі Псалтыра 6 жніўня і вымагае далейшага навуковага абмеркавання і ўдакладнення, як датаваў свае кнігі Скарына: лічачы месяцы года традыцыйна ад верасня, ці па-новаму — ад студзеня. Мы мяркуем, што Скарына карыстаўся новым злічэннем і першым быў выдадзены Псалтыр. Але незалежна ад даты выдання першай кнігі застаецца асаблівая павага беларускага асветніка да Псалтыра: яна ў самім выданні.*

# Рупіўся аб роднай літаратуры

Вёска Пухавічы Жыткавіцкага раёна — радзіма беларускага крытыка і літаратуразнаўцы Уладзіміра Агіевіча. Пасля заканчэння школы Уладзімір Іванавіч настаўнічаў, скончыў літаратурны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута, выкладаў у Слуцкім педагагічным вучылішчы, вучыўся ў аспірантуры пры Акадэміі навук БССР. Некаторы час выкладаў гісторыю беларускай літаратуры ў ВНУ г. Мінска. У час Вялікай Айчыннай вайны быў паранены. У 1943—1946 гадах з'яўляўся вучоным сакратаром АН БССР. Пасля працаваў выкладчыкам беларускай літаратуры ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага, літкансультантам СП БССР, рэдактарам аддзела часопіса “Беларусь”. Не стала У. Агіевіча 2 кастрычніка 1952 года. Пачынаў пісаць як паэт, дэбютаваўшы ў 1928 годзе. Як крытык выступаў з 1941-га. Аўтар шэрагу артыкулаў пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, пра пасляваенную беларускую паэзію. Лепшыя літаратурна-крытычныя працы У. Агіевіча сабраны ў кнізе “Літаратура і жыццё” (1954).

26 верасня — 90 гадоў з дня нараджэння У. Агіевіча.

# З першых адраджэнцаў

25 верасня 1895 года ў сям'і беларускага пісьменніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага) нарадзілася дачка, якой далі імя Ванда. З 1914 года В. Лявіцкая жыла ў Мінску, працавала ў “Беларускай кнігарні”, гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, куды яе рэкамендавала паэтэса Цётка. Адначасова чытала карэктуру часопісаў “Саха” і “Лучынка”. Летам 1916 года В. Лявіцкая выхоўвала дзяцей з беларускага прытулку ў вёсцы Карпілаўка, а праз год пачала вучыцца на Беларускіх курсах, пасля заканчэння якіх з'яўлялася педагогам у Першай мінскай беларускай гімназіі. У 1917 годзе выйшла замуж за беларускага пісьменніка і вучонага Язэпа Лёсіка. Калі Я. Лёсік у 1930 годзе быў арыштаваны, ёй давялося працаваць пасудамыйкай, разносчыцай тэлеграм. З 1933 года дзяліла ўсе жыццёвыя нягоды з мужам, знаходзячыся ў ссылцы. А страціўшы яго, па чарзе жыла ў сваіх дзяцей. Памерла Ванда Антонаўна 8 снежня 1968 года ў пасёлку Татарка Стаўрапольскага краю (Расія). З першым апавяданнем “Бацькаўшчына” выступіла ў газеце “Наша ніва” 21 мая 1909 года. Друкавалася ў часопісах “Вольная Беларусь” і “Беларусь”, а пасля ў дзіцячых — “Зоркі” і “Іскры Ільіча”. Напісала ўспаміны пра свайго бацьку.

**Калектыў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча смуткуе і выказвае глыбокае спачуванне родным, блізкім і сябрам ДАШКЕВІЧ Маі Антонаўны, супрацоўніка музея, з прычыны яе смерці.**

# Цітаўна з Барталамееўкі

Матрона Цітаўна Еціпнёва. Для нас — Цітаўна. Для аднавяскоўцаў — Моця. Усё сваё жыццё, за выключэннем апошніх гадоў, калі яна не па сваёй волі пераехала ў Ветку, пражыла ў Барталамееўцы. Разам з сястрой Ганнай велічала маладых на вяселлях і адпявала нябожчыкаў перад апошняй дарогай. А яшчэ лячыла. Ад чорнай хваробы. І ад зубнога болю. Ад начніц. І ад сурокy. Была патрэбная для аднавяскоўцаў і цікавая для фалькларыстаў і этнографаў. Мы з ёй шмат сустракаліся, шмат размаўлялі. Частку пачутага ад яе аўтару гэтых нататак удалося надрукаваць у кнізе "Памяць" Веткаўскага раёна. Адна з самых дасведчаных знаўцаў беларускага фальклору Галіна Барташэвіч, з якой мне даводзілася сустракацца ў Мінску, заўсёды цікавілася: "Як там Цітаўна?" Яны таксама сустракаліся. Асобныя ўзоры запісанага ад Цітаўны даследчыца прыводзіць у акадэмічным выданні беларускіх замоў.

Яе веды, яе песні, яе аповеды і замовы ўзніклі не на пустым месцы. Яе ўнутраная культура грунтуецца на сямейных традыцыях і каранямі кранаецца культуры дзеда, маці, бацькі.

Дзед Аўсей быў траўнікам. Яшчэ маленькім хлапчуком чуў, як размаўляюць паміж сабой травы. "Я — ад скулы", — ківаецца адна траўка. "Я — ад кілы", — ківаецца другая. "Я — ад грызі", — ківаецца трэцяя. Траўкі шапочуць, а маленькі Аўсейка іх разумее. Аповед пра гэта прыводзіцца ў артыкуле Леаноры Руневіч "Захаваеш жывое — захаваеш і сваю душу". "Бацька пеў, і матка пела. Яны ж па вяселлях хадзілі. А тады ідуць дарогай, пяюць, а мы слухаем. Прыйдуць, пяюць, а мы тожа слухаем. У нас сям'я была культурная. Бацька наш ніколі не ругаўся. У хаце ці ва дворы. У мацеры дужа харошы быў голас, і ў яго харошы. Што б ён дажыў да гэтага ўрэмя, дак пеў бы, як Дубейка... Садзяцца ўдваіх, а мы слухаем. У нас быў брат і сястрычка малая. Любілі, як нашы родныя пелі".

"Матка пела наша. А матка ў сваёй маткі вучылася. Сярод людзей жа. Тыя жнуць, радам пяюць. А другія па другую старану жнуць, пяюць. Так людзі навучаліся адзін у аднаго. Я жыта з маткай змалечку жала. Яшчэ мне было мо восем гадоў. Так яна кажа: "Хадзі, мая дочачка, хоць межачку будзеш падбіраць сярпочкам". Матка пасярод палоскі жне скора, а я яшчэ вучуся, так на мяжы паставіць мяне..."

Матрона Цітаўна Еціпнёва нарадзілася ў 1919 годзе, памерла ў 1996. Не на шмат яна перажыла сваю Барталамееўку.

Натуральна, тэксты надрукаваныя на паперы, не здольныя перадаць ні інтанацый голасу, ні яе позірку... Але хоць так... Хоць нешта...

## З ЗАПІСАЎ 1989—1995 ГАДОЎ

●

***Укурыў, мукурыў***
***сілен-дробен дожджык,***
***Усё па чыстаму полю.***
***Ой, зажурыўся***
***мой татачка родны***
***Па маёй горкай долі.***
***Тады было дожджыку курыцца,***
***Як хмаркі былі,***
***Тады было,***
***мой татачка, журыцца,***
***Як я ў цябе жыла.***
***А цяпер-ка не журыцеся,***
***Як замуж пайшла.***
***Гасподзь жэ мне даў,***
***да мой татачка,***
***Шчасліваю долю.***
***Шчасліваю мне***
***Бог долечку даў***
***І дружыначку любую.***

●

***Радзіла мяне мая мамачка***
***У няшчасны дзень, шчэ ў пятніцу,***
***Спавівала мяне мая мамачка***
***У пялёначкі, у шаўковыя***
***І ў тры паясы, у тры новыя,***
***Укрывала мяне мая мамачка***
***Ўсё ад ветрыку,***
***усё ад дожджыку,***
***І не ўкрыла мяне мая мамачка***
***Ад няшчаснага ад замужэйка,***
***Ад нялюбага ад падружэйка.***

●

***Вербачка мая вярбовая,***
***На табе кара дубовая.***
***— Хто табе, вярба, вярхі суша?***
***Сушылі вярбу ніцыя лозы,***
***Абнялі дзеўку горкія слёзы.***
***Усе людзі судзюць, усе гаворыць,***
***Што мой міленькі водкі ня п'ець.***
***Хоць ён п'ець ня п'ець,***
***З карчмы не ідзець.***
***Ён прапіў каня варанога,***
***Шчэ сядзелечка дарагое.***
***— Мілая мая, выкупі каня.***
***Калі выкупіш, люблю цябе,***
***А ня выкупіш, заб'ю цябе.***
***Я ня раз-ня два выкупляла,***
***Шаўковы платок застаўляла,***
***Свайго мілага выручала.***

●

***Ластавачка-шчабятушка***
***Пад вакенцам шчабятала,***
***Свайго пана пабуджала:***
***— Ой, паня, паня,***
***Уставай рана,***
***Запалі свячу,***
***Паглядзі ў пячу.***
***Там каўбаскі пякуцца***
***І нам дадуцца.***
***Добры вечар вам у хату!***
***Святы вечар добрым людзям!***

## АД НАЧНІЦ

"Калісь мая свякруха, пакойніца (Кацька ў мяне плоха спала), дак яна возьме, вот, вячэраем, крошачкі са стала змяце ў руку і панясе за дзверы. Я пытаю: "Мам, чаго ты гэты крошачкі? Куды ты іх насіла?" Яна Кацьку лячыла, што яна ня спіць. Калідор дзеланы, і колікі, стоўбікі неаброблены, каля дзвярэй на метр кругом там лавачкі. Яна насіла пад тры калы.

"Добры вечар, тры калы. Вазьміце маіх тры бяды. Прыміце ў мяне хлеб-соль, а дайце нашай Кацьцы сон".

Кідаеш іх там, дзе стаўбы стаяць".

## АД ЧОРНАЙ ХВАРОБЫ

"Пчолак мёртвых насушаш, у баначку. Жар выграбаеш з грубкі на тарэлку, у люмінявую міску. А тады становіш чалавеку паміж ног, каб на ім не было верхняй адзежы, і абкрыць яго прасцінёй, і пчол сухіх кідаць у жар тры разы (па дзве-па тры). І казаць: "Колькі эцім пчолам гарэць, так рабу божаму Івану (Раману) балець".

Як кепска сябе адчуваеш, ня спіцца як

"У белую пасцель лажуся, ясным месяцам абазруся, дробнымі зорамі абгараджуся і нікога не баюся. Ні ведзьмаў, ні ведзьмакоў, ні чараўніц, ні чараўнікоў, ні паганых дум, ні паганых глаз, не забываю на сваё здароўе па ўсякі раз. Не забываю, а прыбаўляю".

## АД ГРЫЗІ

"Грызь! Грызь! Не грызі! А то я цябе загрызу ваўчынымі зубамі, змяіным джалам. (Папляваць на сучок на масту.) Як этаму сучку не адрастаць, так у раба божага грызі не бываць, крыві не таміць, сэрца не паліць".

**Генадзь ЛАПАЦІН,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці**



# Суфлёр

## ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### РАМПА

**Мікалай Пінігін, які ўжо некалькі гадоў як пайшоў з Купалаўскага тэатра і працуе ў Санкт-пецярбургскім Вялікім драматычным тэатры, пра Беларусь не забываецца і перыядычна дае тут антрэпрызныя спектаклі. Напрыклад, у Малым тэатры дагэтуль добра ідзе "ART". А на мінулым тыдні Пінігін прывёз у Мінск новую рэч — "Дотык" паводле п'есы Патрыка Марбера.**

**Гэты спектакль, прэм'ера якога прайшла з аншлагам, без сумневу, будзе глядзецца. Хоць шэдэўрам, тэатральнаи падзеяй яго не назавеш — не больш як шлягерам. Але што праўда, зробленым вельмі прафесійна. Інакш і быць не магло, калі рэжысёрам Мікалай Пінігін, мастаком-пастаноўшчыкам — Зіновій Марголін, а акцёрамі — Ігар Забара і Сяргей Журавель. Антрэпрыза — такая рэч, што рэжысёр мусіць пралічыць усё, каб спектакль стаўся ўпадабаным і на яго хадзілі. Гэта бізнес, і грошы тут на вецер не выкідаюць.**

**Чаму "Дотык" не можа не стаць папулярным? А ўжо таму, што гэта спектакль пра секс, каханне і Інтэрнет, на тэмы з загадзя гарантаваным глядацкім інтарэсам. У "Дотыку" амаль няма візуальных эратычных сцэнаў, але тое з лішкам кампенсуецца моўнай парнаграфічнасцю. Нездарма да азначэння жанру спектакля, як любоўнага трылера, дадаецца прыцягальнае для абываценя "толькі для дарослых". Чаго вартая хоць бы эксперыментальная дзея з увядзеннем на сцэну Інтэрнета, калі два чалавекі стасуюцца паміж сабой на імітаваным камп'ютэрным экране. Хоць трохі ёсць у спектаклі таго, над чым гледачу давядзецца задумацца, — выбар і метамарфозы кахання. Але без настойлівага маралітэ. Працы Пінігіна працягваюць ілюстраваць, што калі ў дзяржаве ў заняпадзе эканоміка і, як следства, у крызісе дзяржаўныя тэатры, то антрэпрызы выглядаюць куды больш відовішчна і рэзанансна. Але дзяржава свае тэатры як след не фінансуе, а антрэпрызам развівацца замінае, беручы вялізныя падаткі са спонсараў і тых, хто непасрэдна займаецца антрэпрызнымі пастаноўкамі. У той жа Расіі, напрыклад, у гэтай галіне дзейнічае льготнае падаткаабкладанне.**

### ТЭАТР ІМЯ ГОРКАГА

*1, 7, 18 і 26 кастрычніка* — "Вольны шлюб".

*3 і 4* — "Баляванне падчас чумы і...".

*5* — "Цяжкія людзі, альбо Малады з Ерусаліма".

*6* — "Улюбёнцы лёсу".

*7 і 27* — "Хто твой каханак, Жазефа?".

*8 і 28 (увечары)* — "Ад'ютант-Ша Ягамосці".

*8 і 28 (зранку)* — для дзяцей "Выкрадальнікі вясёлкі".

*29 і 31* — "Трагічная аповесць пра Гамлета, прынца Дацкага".

### "ВОЛЬНАЯ СЦЭНА"

Насуперак пажаданням усёй трупы тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі Міністэрства культуры прызначыла-такі замест Валерыя Мазынскага новага мастацкага кіраўніка. З 12 верасня кіраваць "Вольнай сцэнай" прызначаны колішні рэжысёр тэатра-студыі кінаакцёра, а потым Беларускага радыё Валеры Анісенка. Аднак на афіцыйным прадстаўленні ягонай кандыдатуры намеснікам міністра культуры Уладзімірам Рылаткам здарыўся скандал. Акцёры ўсталі і заскандзіравалі: "Пакіньце наш тэатр!". Анісенку давялося сысці. Але перад тым Уладзімір Рылатка сказаў, што ўсё роўна "рашэнне прынятае" і адмены не будзе.

На справядлівы акцёрскі дэмарш супраць гвалтоўнага прызначэння новага мастацкага кіраўніка тэатра Мінкульт адказаў жорстка. Так, паводле чарговага загада міністра культуры Аляксандра Сасноўскага, Анісенка заняў да ўсяго і пасаду дырэктара "Вольнай сцэны". Разам з тым мяняецца склад мастацкай рады, а ў штат тэатра ўводзяцца дадатковыя 15 акцёрскіх месцаў...

*5, 6, 21 і 22 кастрычніка* — "Блазан".

*7 і 8* — "Паваліўся нехта".

*11 і 12* — "Чорны квадрат".

*14 і 15* — "Апошняя пастараль".

*18 і 19* — "Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць".

*25 і 26* — "Барбара Радзівіл".

*28 і 29* — "Стомлены д'ябал".

### МАЛАДЗЁЖНЫ ТЭАТР

*8 кастрычніка* — "Трызненне ўдвох".

*14* — "Узнагарода жанчыне".

*15* — "Хітрыкі Скапэна".

*18 і 19* — "Жаніцьба".

*21* — "Прыйшоў мужчына да жанчыны".

*25 і 26* — "Прымакі".

*29* — "Тойбелі і ейны дэман".

*30 і 31* — "І зноў Рамэа і Джульета".

### МУЗЫЧНЫ ТЭАТР

*1 і 28 кастрычніка* — "Даратэя".

*5* — "Шклянка вады".

*6* — "Прынцэса цырка".

*7 і 29* — "Жызэль".

*8* — "Марыца".

*11* — "Вясёлая ўдава".

*12* — "Кармэн-сюіта".

*15 і 22* — "Залатое кураня".

*17* — "Ноч у Венецыі".

*19* — "Цыганскі барон".

*20* — "Севастопальскі вальс".

*21* — "Дарагая Памэла".

### ОПЕРНЫ ТЭАТР

*30 верасня* — "Севільскі цырульнік".

*1 кастрычніка* — "Яўген Анегін".

*3* — "Аіда".

*5* — "Набука".

*7* — "Паяцы".

*10* — "Іаланта".

*12* — "Кармэн".

*14* — "Чыо-Чыо-сан".

### КУПАЛАЎСКІ ТЭАТР

*29 і 30 верасня* — "Ажаніцца — не журыцца".

*1 кастрычніка* — "Тапалевая завея".

*13 і 14* — "Ромул Вялікі".

*15 і 16* — "Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча".

*18 і 19* — "Страсці па Аўдзею".

*20 і 21* — "Лес".

*22 і 23* — "Смак яблыка".

*25 і 26* — "Ідылія".

*27 і 28* — "Піраміда Хеопса".

*29* — "Паўлінка".

*30* — "Тутэйшыя".

### МАЛАЯ СЦЭНА КУПАЛАЎСКАГА

*15 кастрычніка* — "Дагарэла свечачка".

*20* — "Крывавая Мэры".

*22* — "Тут жывуць людзі".

*25 і 26* — "Восеньская саната".

*28* — "Разбітае сэрца".

### ВЫСТАВЫ

*З 14 верасня па 1 кастрычніка* — у вялікай зале Палаца мастацтваў праходзіць выстава-конкурс маладых мастакоў "Новыя імёны". Удзел у ёй бяруць каля сотні аўтараў, што працуюць як у сучасных, гэтак і ў традыцыйных стылях. На выставе прадстаўленыя габелены, скульптуры, перформанс, боды-арт. 28 верасня адмысловае журы на чале з заслужаным дзеячам мастацтваў Зояй Літвінавай назаве пераможцаў.

*Да 12 кастрычніка* — у галерэі VILNIUS (мінская бібліятэка 18, што па вуліцы Каліноўскага) працуе выстава "арлекінскіх" твораў маладога мастака Андрэя Бур'яка.

*З 29 верасня па 23 кастрычніка* — Інстытут Гётэ ў Мінску, Пасольства Францыі і Нацыянальны мастацкі музей ладзяць міжнародную выставу "Ілюзія адлегласцяў". Удзел бяруць немцы Цім Ульрыхс і Штэфан Халекамп, шведка Марыя Седэрберг, Багдан Канопка з Францыі і беларусы Міхал Баразна і Дзяніс Сінюгін.

*З 15 верасня па 19 лістапада* — у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва персанальная выстава Яўгена Харытоненкі (1920 — 1998).

*З 26 верасня* — у мастацкай галерэі "La Sandr" выстава маладых мастакоў Аляксандра Дзямідава, Дзяніса Сінюгіна і Уладзіміра Канцэдайлава.

### КАНЦЭРТЫ

*29 верасня* — то бок, сёння ў "Парк-клубе "Мінск", што ў парку імя Чэлюскінцаў, адбудзецца другая частка прэзентацыі кампакт-дыска "Вольныя танцы: новая альтэрнатыва" з удзелам "Z", "Новага неба", "Тройцы", "Без білета", "Postscriptum", "Exist", "Long play", "Happy face", "Ur'ia", "Акруга вольнага мастацтва".

*5 кастрычніка* — у малой зале Палаца Рэспублікі пройдзе вечарына таварыства "Беларусь-Украіна", дзе будуць гучаць песні на музыку кампазітара Ігара Лучанка. Вядучыя вечарыны дыктарка Беларускага тэлебачання Ларыса Грынько і адначасова дырэктар, рэжысёр і акцёр Купалаўскага тэатра Генадзь Давыдзька запросяць на сцэну Галоўны ваенны аркестр Узброеных Сіл РБ, ансамбль песні і танцаў Міністэрства абароны Беларусі, гурты "Сябры", "Церніца" і "Званочкі", а таксама Валянціну Карэлікаву, Аляксея Ісаева, Уладзіміра Правалінскага, Міхаіла Жылюка, Івана Краснадубскага, Галіну Галенду, Вольгу Уронскую і Лесю Лют. І натуральна, самога Ігара Лучанка.

*4 і 11 кастрычніка* — у кінатэатры "Змена" а 18-ай гадзіне пройдзе сустрэча з выдаўцамі кампакт-дыска з песнямі Міхася Забэйды-Сумiцкага і дэманстрацыя фільма "Вяртанне Міхася Забэйды".


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 28.09.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 5081.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12